страшнай вайны толькі і шумелі пра здраду, пра шпіёнаў... Лічыш, што баявы дух ад гэтага ўмацаваўся? Не, брат, ён аслаб. І той, хто вельмі шчыраваў, міма сваёй волі на руку фашыстам іграў. Шпіён, ён не дурань. Ён сам гучней за ўсіх крычаў. Яму гэта выгадна. Ён паніку стварае — раз, а сябе сумленным выстаўляе — два! Не, брат, хто не давярае, хто ў кожным чалавеку ворага бачыць — знаходка для немцаў...

«І гэты барадаты такая знаходка,— падумала Ядвіся, толькі цяпер зразумеўшы ўсю глыбіню слоў Чабаноўскага.— Яно і праўда, у сям'і і то без даверу жыць нельга. А гэта ж дзяржава...»

На двары, мабыць, гусцелі прыцемкі, і тут, у лазні, было зусім цёмна. Ядвіся змалку баялася лазні: напалохалі калісьці хлапчукі, якія пераапрануліся ў вывернутыя кажухі, а калі яна зайшла, выскачылі з цёмных куткоў і сапраўды падобныя на чарцянят. І цяпер той даўні страх падпоўз знячэўку, цікаваў за ёю з чорных куткоў, з-пад печкі і нават аднекуль са столі. Ядвіся сцялася, чакаючы штосьці страшнае, якое вось-вось наваліцца на яе і знішчыць. Слых і зрок былі напружаны.

Дзіўна, але крокаў за дзвярыма яна чамусьці не пачула. Уздрыгнула, калі хтосьці адкінуў кол. Здалося, што дзверы адчыніліся самі.

— Выходзьце,— пачула яна Саханчукоў голас, і ён сам паявіўся ў шэрым квадраце дзвярэй.

«Ну, вось і ўсё,— падумала яна і паволі паднялася з падлогі.— Усё... і няхай...».

— Камандзір вас кліча,— сказаў Саханчук, і Ядвіся толькі цяпер заўважыла, што ён без вінтоўкі і чамусьці муляецца, быццам сароміцца чагосьці.

Ён ішоў паперадзе вузкай, глыбока пратаптанай у снезе сцежкай. Плечы ўгнуты, быццам баіцца, што нехта будзе біць яго ў карак.

— Я не вінаваты,— сказаў ён.— Вы ўжо на мяне не скардзіцеся. У нас, ведаеце, строга... Гэта ўсё Валенда.

Ядвіся не магла зразумець, пра што ён кажа. Чаму Валенда? І раптам успомніла. Дык гэты барадаты і ёсць Валенда.

Саханчук змоўк і яшчэ больш прыгорбіўся. Яна заўважыла гэта, падбадзёрыла яго:

— Я нічога. Я — разумею...

— Палучылася, вядома, брыдка... Тут усякія ходзяць. А ваш муж, кажуць... адным словам, самі разумееце.

— Я нічога... Мне, каб дамоў хутчэй... Чакаюць там...

Той малады, у бліскучай скуранцы, чакаў яе ў прасторнай хаце. Падняўся і, не ведаючы, дзе схаваць вочы, папрасіў:

— Вы ўжо даруйце... Ён у нас, ведаеце, крыху нястрыманы. Самі разумееце, вайна. Ды і вам не варта было лаяць яго... Нервы, ведаеце...

«Нічога я яму не казала», — падумала Ядвіся, але не стала апраўдвацца. Маўчанне — золата.

* * *

А на досвітку нечаканым ударам немцы выбілі баталаўцаў з вёскі.

Партызаны адступалі сюды, на край вёскі, бліжэй да рэдкіх, зане-





сеных снегам хмызнякоў. За імі пачынаўся густы, некрануты лес. Адтуль амаль два месяцы назад баталаўцы ішлі ў вёску. Туды цяпер трэба было хавацца ад нямецкіх куль.

Сюды, на гэты канец вёскі, збягаліся сяляне. Гналі пад агнём кароў і авечак, цягнулі нейкія хатулі. Плакалі сонныя, перапалоханыя дзеці, крычалі жанчыны.

Мабыць, снарадам падпаліла крайнюю з таго боку хату, і чорны дым густым клубам падымаўся ўгору.

Баталаў сяк-так сабраў чалавек дванаццаць партызан.

— Цімохін, Дзячкоў, затрымайце немцаў, пакуль людзі адступяць,— загадаў ён, не вельмі верачы, аднак, што немцаў можна затрымаць. Проста было сорамна ўцякаць з вёскі, дзе знайшлі былі ціхі прытулак.

Падбег Шпарцюк. Побач з ім Галя. Санітарная сумка цераз плячо. У вачах страх. Але Баталаў бачыў, што яна баіцца не за сябе, не за бацькоў, а за аднаго Шпарцюка.

— Дзе нашы? — запытаўся Шпарцюк.

— Не бачыш — немцаў стрымліваюць. Трэба даць людзям адысці.

Шпарцюк узлаваўся.

— Ашалеў ты!.. Адступаць трэба. З такой аравай нас пералавяць,— ён кіўнуў галавой на сялян, што гналі жывёлу.

— Адступаць разам будзем... Апошнімі,— рашуча сказаў Баталаў і закрычаў на сялян: — Хутчэй, хутчэй! На Белы Камень ідзіце...

На хаду папраўляючы аўтамат, Шпарцюк ірвануўся па вуліцы насустрач бою. За ім Галя. Туды ж пабег і Баталаў.

Рэдкія кулі ўжо цмокалі марознае паветра высока над галавой. Баталаў інстынктыўна згінаўся, чамусьці цяпер успамінаючы насмешлівыя словы генерала: «Кулям дурань кланяецца. Тая, што чуваць, не злосная. Твая куля не чутная — ёй пакланіцца не паспееш».

Да хлопцаў ён падбег, ужо выпрастаўшыся, быццам на тактычных занятках, калі не трэба асцерагацца смерці. Упаў побач з Цімохіным, глянуў на гадзіннік.

Ішла сёмая мінута, як немцы адкрылі агонь, а здалося, мінула вечнасць.

— Вунь яны, таварыш камандзір,— не ўзнімаючы галавы, сказаў Цімохін.

Баталаў убачыў, як у канцы шырокай прасекі на белым снезе варушацца зялёныя постаці. За рэчкай на ўзгорку разгортвалася батарэя. Ад яе, прымінаючы кусты, поўз у рэчку чорны, няўклюдны танк. Вось ён выбраўся на гэты бераг, спыніўся. З доўгага гарматнага ствала бліснуў чырвоны агеньчык, і гулкае адгалоссе пайшло па лесе. Баталаў павярнуўся: вялізная, на пяць сцен, хата раптам асела, над ёй закурыўся шаравата-чорны дым.

Танк памалу папоўз па полі, і тады Баталаў убачыў, як са снегу густа падымаюцца салдаты.

Цяпер кулі ляцелі роем, прыціскаючы людзей да зямлі.

— Адыходзь! — крыкнуў Баталаў і першы надхапіўся, каб хутчэй схавацца за будынкамі.

Адступалі да старых, закінутых зямлянак. Ззаду гарэла вёска. Чорны слуп дыму, які паволі хіліўся на поўдзень, быў добра відаць у сінім, празрыстым небе.

На высечках Баталаў упершыню за час бою ўбачыў Валенду. І хоць на душы было прыкра і брыдка, зарагатаў. Валенда сядзеў на пяньку. Адна нага ў боце, другая — у валёнку, падшытым цялячай скуркай поўсцю наверх. Хутаўся ён у руды з башлыком бурнос, з-пад якога вытыркаліся вострыя каленкі, абцягнутыя сінімі з начосам падштанікамі. Немцы, мабыць, падднялі Валенду з пасцелі і ён паспеў схапіць тое, што трапілася пад рукі.

— Рагочаш? Рад? — узлаваўся ён, крыўдліва пазіраючы на Баталава.— А шпіёнка гэта дзе? Праміргалі!.. От і рагачы...

* * *

Ядвіся ў тую ноч заснула толькі пад раніцу. Старэнькая, згорбленая бабулька, да якой завялі яе на начлег, напарыла нейкіх траў, абклала імі цела. Боль пакрысе аціхаў. Але сон прапаў. Непакоілі думкі. Хацелася хутчэй да хаты. Потым яна заснула неяк адразу.

Прачнулася ад глухіх выбухаў. Спрасонку не магла ўцяміць, дзе яна, што з ёю. Паспешліва зрывала анучкі, здзірала прыліплую да цела траву.

У хаце нікога не было. Ядвіся ўзяла свой хатулёк, выскачыла на двор. Недзе ўгары як бы пранеслася вялізная птушка. Удар! Выбух! Здалося, што раптам узняўся вецер, шпурлянуў яе ў снег.

Яна ачнулася хутка, бо яшчэ курэла неглыбокая ямка на месцы выбуху ды асядаў дробны снег на зямлю. З усіх бакоў стралялі, і не было зразумець, дзе свае, а дзе немцы. Над ёю ціўкалі кулі, і вечная прага жыць прыціскала Ядвісю да зямлі. Сяк-так яна дабралася да хлева, упала ля стажка сена.

Бясконца доўга цягнуліся тыя мінуты бою. Потым Ядвіся пачула, як хтосьці ідзе да яе. Свае ці чужыя?

— Чаго разлеглася? — пачула яна насмешлівы і як бы знаёмы голас.

Хтосьці моцна выцяў яе ботам.

— Падымайся, сцерва!..

Недзе побач гаманілі па-нямецку. Ядвіся паднялася. Малады, яшчэ амаль хлапчук, паліцэйскі штурхнуў яе ў спіну.

— Ну ты, паварочвайся весялей!..

На вуліцы з хат выганялі яшчэ людзей, такіх, як Ядвіся, што не паспелі ўцячы. Сабралі іх чалавек дзесяць, найбольш жанчын. Пагналі пад канвоем паліцыі.

Найбольш назаляў доўгі, гарбаносы паліцай. Ён чамусьці з першага позірку ўзненавідзеў Ядвісю, чапляўся да яе без прычыны, спаганяў сваю злосць.

Праз вёску, у якой Ядвіся начавала ў тую першую ноч, калі прыйшлі партызаны, іх прагналі трушком. Ядвіся спадзявалася, што ўбачыць тую спагадлівую маладзічку, але яе не было відаць. Ды і ці ўдалося б сказаць ёй што-небудзь...

Іх прывялі ў нейкі нямецкі гарнізон. На вуліцы сляды машын, танкаў. Ядвіся здагадалася, што, мабыць, адсюль наступалі сёння раніцай немцы. Таўсматы, шырокі немец з вялізным бляшаным арлом на грудзях доўга глядзеў на спалоханых, змораных людзей. У вачах ні цікаўнасці, ні злосці — пустата. Ён штосьці сказаў гарбаносаму паліцаю, і той загадаў:

— А ну, бягом вунь да той адрыны!

Людзі, знясіленыя дарогай, нявесела трухалі. Паліцэйскія падганялі прыкладамі таго, хто падаў, білі ботамі. Хацелі паказаць немцу свой спрыт.

Запёрлі іх, мабыць, у будынак былога паштовага аддзялення.

На акне краты. Пакой перагароджаны невысокай стойкай, якая заляпана чарнілам і клеем. Сядзелі, чакалі, што будзе далей. Але пра іх як бы забыліся.

Недзе за сценкай чуліся галасы. Хтосьці заспяваў. Відаць, там сабраліся паліцаі, пілі гарэлку. Потым наступіла цішыня.

Ядвіся падышла да дзвярэй — зачынены. Жанчыны загаманілі: «Чаго ты ўсхадзілася? Пасядзела б... А то за цябе і нас застрэляць».

Людзі ладкаваліся спаць, хоць ніхто не спадзяваўся на сон. Недзе на вуліцы ў цемрачы чуліся крокі. Потым грукаталі танкі і раўлі машыны. Мабыць, карнікі вярнуліся з паходу.

Зноў за сценкай пачалі гаманіць. Здалося, што там спрачаюцца, а можа — нават б'юцца. Штосьці моцна грукнула, і ўсё заціхла.

Па той бок дзвярэй хтосьці шарыў па сцяне рукой. Гулка бразнуў засоў. У адчыненых дзвярах з ліхтаром у руцэ стаяў той доўгі, хударлявы паліцай.

— Эй ты, прыгажуня, пойдзеш са мной!..— сказаў ён, тыцкаючы з парога ліхтарыкам у куток, дзе сядзела Ядвіся.

— Ідзі, ідзі, што ж ты?..— зашаптала бабуля, што ляжала побач з Ядзяй.— Не абазляй іх, а то яны горш разлуюцца.

Ядзя паднялася і, думаючы, што паліцэйскі п'яны, што, напэўна, яе будуць біць, сціснулася ад страху.

У тым пакоі, што за сцяной, усё прапахла гарэлкай і цыбуляй. На стале кавалкі хлеба, сала, у місцы квашаная капуста.

— Садзіся, краля, пагутарым,— сказаў паліцай.— Мяне Восіпам завуць. Запомніш? А цябе як?

— Ядвісяй, напрыклад. Толькі навошта гэта?

— А вось чаму я спытаў. У Тычцы я ўсіх ведаю, а цябе не. Ды і з выгляду ты як бы не вясковая. Вось і захацеў пазнаёміцца. Поняла?

— Я і праўда не тутэйшая. Прыйшла мяняць, а мяне затрымалі. Потым вы паявіліся. Вось і сяджу тут, а дома дзеці чакаюць...

— Ну, ты гэта не загінай. Гэта ты немцам можаш загінаць. Яны паверацъ. Я табе не паверу.

— Як хочаш, але я праўду кажу.

— А ці ведаеш, што з вамі будзе?.. Не? Ну, от бачыш. Заўтра вас усіх тра-та-та і крышка... Гэта точна.

— За што?..

— Цябе першую расстраляюць. Поняла?..— ён пасунуўся да яе, паклаў руку на плячо. Рука цяжкая, свінцовая.— Хочаш, уратую цябе. Ну, як? Згодна?

— Не вінаватая ж я...

— От дурная. Заложнікі вы. Поняла?.. А заложнікаў заўсёды расстрэльваюць. Але я цябе ўратую. Хочаш? Ну, чаго маўчыш?

— Як ты мяне ўратуеш?..

— Ты Восіпа Братку не ведаеш. Восіп усё можа. Поняла?.. Есці хочаш? Еш. Можа вып'еш? Ну, гэта як хочаш, я не прымушаю.

«Што яму трэба?» — думала Ядвіся, нясмела беручы хлеб і сала. Братка наліў сабе самагону, выпіў.

— Дарма адмовілася. Не п'юць толькі дурні.

Ён пазіраў на яе неяк зусім па-іншаму, як раней. Ядвіся пачынала здагадвацца, чаго чакае ад яе паліцэйскі, і не магла зразумець, няўжо ён спадзяецца, што яна згодзіцца на такое без прымусу. «Лепш ужо загінуць, чым з такім брыдкім быць побач...»

— Ну, дык як, згодна?



— Калі ты чалавек, дык адпусці цяпер, і няма чаго валаводзіць. Мяне дзеці чакаюць.

— І ночы не пабаішся? Смелая!..

— Дык ты ж за гарнізон правядзеш?..

— Правяду, абавязкова. Ну, дык згодна? Лямпу гасіць, ці, можа, пры святле, га?..

— Ідзі ты!.. Знайшоўся...

— Ага! Значыць, Восіп табе не падыходзіць. З бандытамі спіш, а са мной, сумленным чалавекам, не хочаш. Ах ты, сцерва!..

...Потым, калі яе валаклі па снезе, збітую, скрываўленую, яна чула, што той жа гарбаносы паліцай сказаў другому.

— Чаго спалохаўся? Заўтра іх усіх у расход пусцяць. Верна кажу табе. Ну, а ты не вельмі языком мянці. Понял?

Але назаўтра іх не расстралялі. У крытай цёмнай машыне іх доўга везлі па няроўнай дарозе. Высадзілі на вузкім двары, абнесеным цаглянай сцяной.

Тоўсценькі ў акулярах немец крычаў на паліцэйскага, які суправаджаў заложнікаў.

— Вы — дурань! Так, так!.. Навошта мне яны? Не маглі там выращыць?.. Дзе я іх дзену?.. Жанчыны... Навошта жанчыны?

Іх усё ж не адправілі назад. Мажны рабы наглядчык павёў іх па доўгім калідоры турмы. Адчыніў дзверы.

— Гіе-ер...— сказаў ён.

Першага, каго ўбачыла Ядвіся на нарах, быў Мікіта Самарос. І ён пазнаў яе. Абое ўзрадаваліся.

## 29

На пачатку снежня ў суботу Ота Віцінг наладзіў невялікі прыём у гонар фон Лейме-Тротшэ, інспектара ўсходняга аддзела ваенна-эканамічнага ўпраўлення галоўнага камандавання. Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ, высокі, белатвары, з чорнымі валасамі, старанна зачасанымі на касы прабор, і маленькімі вусікамі на кароткай адтапыранай губе, належаў да той старадаўняй арыстакратыі, якая хоць і страціла ў апошнія гады ключавыя пазіцыі, але ўсё яшчэ адыгрывала немалаважную ролю ў ажыццяўленні планаў Гітлера.

У свой час Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ быў блізкі да Гельмута Мольтке, графа і праўнука вялікага Мольтке — паплечніка Бісмарка і настаўніка Вільгельма І. Казалі, што старэйшы за Гельмута Мольтке Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ чамусьці пасварыўся са сваім маладым сябрам і з таго часу яны ніколі не бачыліся.

Ота Віцінг, які здаўна адчуваў дзіўную сарамлівасць і няёмкасць пры сустрэчах з нашчадкамі некалі славутых сем'яў, якіх пабойваўся іх і ў душы ненавідзеў, бо тое, чаго ён, Ота Віцінг, дамагаўся ўпартасцю і працай, ім даставалася лёгка і проста, усё ж ганарыўся сваім знаёмствам з Зігфрыдам фон Лейме-Тротшэ. Іх пазнаёмілі тады, калі Ота Віцінг чакаў свайго прызначэння пры штабе генерала Зімерынга. Знаёмства адбылося ў генерала на яго раскошнай кватэры ў нейкім маленькім гатэлі з вузкімі стрэльчатымі вокнамі. Ота Віцінг тады з захапленнем сачыў, як свабодна і прыгожа трымае сябе Зігфрыд сярод старэйшых па званню. Ён, Ота Віцінг, адчуваў сябе няёмка, а новенькі гарнітур звязваў кожны яго рух. Ён пацеў і, адчуваючы ліпучы пот на далонях, злаваўся: хіба ён хлапчук, хіба не яго заў-

важылі і вылучылі на такую вялікую пасаду? Чаму ён такі нясмелы? У яго няма славутасці роду, але хіба цяпер галоўнае радавітасць? Не, цяпер усё вырашаецца працай і вернасцю фюрару. Пад канец вечара Ота Віцінг перамог няёмкасць і нават хвілін пяць гаварыў з Зігфрыдам пра паляўнічыя прыгоды ў Тыролі.

Раніцай, калі Зігфрыд прыляцеў самалётам на аэрадром,— тут у самым горадзе,— а ён, Ота Віцінг, сустрэў яго, яму падумалася, што абавязкова трэба наладзіць прыём. Ён думаў пра гэта ўсю дарогу да ўпраўлення, загадзя вызначаючы, каго запрасіць на гэты прыём. Потым чамусьці падумалася, што фон Лейме-Тротшэ не прыме запрашэння, і гэтая думка занепакоіла яго. Але пан інспектар ахвотна згадзіўся пасядзець «у вузкім коле сваіх сяброў па зброі і агульнай барацьбе».

Потым узніклі цяжкасці іншага парадку, якія ён не прадбачыў і якія напомнілі аб сабе словамі ад'ютанта:

— Пан камісар, асмелюся заўважыць, што было б больш па-сямейнаму, каб на стол падаваў не Ганс, а якая-небудзь жанчына, прыгожая з выгляду.

Ота Віцінг адразу ўхапіўся за гэтую думку. Але дзе, чорт вазьмі, знойдзеш прыгожую жанчыну? Ён добра ўяўляў, як здзівіцца Зігфрыд, калі ў пакой, па яго, Віцінгаваму, загаду зойдзе прыгожая жанчына, міла ўсміхнецца і гэтак жа міла пачне разносіць закускі. Ідэя захапіла Віцінга. Ён загадаў ад'ютанту высвятліць у каго-небудзь з людзей Ютнера, ці не маюць яны на прыкмеце такую дзяўчыну.

На жаль, такой не было. «Аслы,— падумаў Віцінг, калі яму дакладваў ад'ютант.— Яны ўсяго баяцца... Што можа зрабіць дзяўчына, калі будзе прыслужваць за сталом. Не паатручвае ж яна нас...»

— Паклічце да мяне фрейлен Людмілу,— сказаў ён, крыху сумняваючыся, ці згодзіцца яна прыслужваць за сталом.

Людміла, як заўсёды, спынілася на парозе, пакорліва схіліла галаву на бок.

— Слухаю, шэф...

Ён пачаў здаля, напомніўшы ёй, што заўсёды высока цэніць яе стараннасць і вельмі прасіў бы,— о, гэта просьба, не больш! — каб яна памагла яму прыняць гасцей.

Ота Віцінг бачыў, што перакладчыца як бы збянтэжылася, нават пачырванела і крыху паспешліва дала згоду, сарамліва сказаўшы:

— Я не ведаю... Мне не даводзілася прыслужваць...

Ён ацаніў і яе збянтэжанасць і сціпласць. Зразумеў, што яна пачырванела ад таго даверу, які ён аказаў ёй.

З тыдзень назад Ютнер выклікаў Людмілу ў гестапа. Віцінг пра гэта не ведаў. Пасля ўжо яму далажыў ад'ютант, якому расказала Людміла пра тое, як з ёю абышоўся Ютнер. Штурмбанфюрар папрасіў яе быць перакладчыцай на допыце двух затрыманых і, не чакаючы яе згоды, раптам паставіў перад нейкім чалавекам, якога яна не ведала і які не ведаў яе. Яна чакала пытанняў, але ніхто не задаваў. Чалавека вывелі, а на яго месца паявіўся другі. Гэтаму яна задала ўсяго адно пытанне. Яго таксама вывелі. А яе адпусцілі дамоў.

Віцінг тады размаўляў з Ютнерам, і той сказаў, што яны і сапраўды падазравалі перакладчыцу ў сувязях з савецкай разведкай і праводзілі эксперымент. Ён зразумеў, што эксперымент гэты нічога не даў, бо гестапа не выпусціла б перакладчыцу.

Цяпер Віцінг быў задаволены, што фрейлен Людміла аказалася не заплямленай і што давер, які аказаў ёй Віцінг, толькі яшчэ больш наблізіць дзяўчыну да яго.



У клопатах незаўважна надышоў вечар. Госці сабраліся акуратна ў шэсць. Пілі, гаварылі тосты і прамовы, але чаканай весялосці не было. Нават па-свецку вытанчаны Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ гаварыў нешта банальнае, хоць і з уласцівай яму дасціпнасцю.

Калі вячэра кончылася і ўзрадаваныя госці разышліся. Віцінг адпусціў ад'ютанта і перакладчыцу. Яны засталіся з Зігфрыдам удвух на вялікі і не зусім утульны кабінет. Абодва сядзелі ў вялізных, нязручных крэслах абапал маленькага століка. На ім ляжалі пачак сігар, маленькія нажніцы і дзве попельніцы. Пасярэдзіне гарэла свечка, празрысты стэарын сцякаў на медны танканогі падсвечнік.

Яны закурылі. Віцінг пакутліва думаў над тым, якую тэму размовы запрапанаваць госцю. Не знайшоў нічога лепшага, як паляванне ў Тыролі.

Зігфрыд ляніва смактаў сігару. На тонкім кашчавым пальцы з доўгім пазногцем зіхацеў пярсцёнак з маленькім, як кропелька расы, брыльянтам.

— О, гэта сапраўды цудоўна, Ота! Дазвольце мне так называць вас? Ці давядзецца толькі нам зноў абудзіць горы Тыроля паляўнічым рогам?..

Ён чароўна ўсміхнуўся, і верхняя губа яшчэ больш закапыльвалася ўгору.

— Вам не вельмі падыходзіць песімізм, Зігфрыд,— адважыўся Віцінг назваць фон Лейме-Тротшэ па імені.

— Вайна, пан камісар...

— Вайна вечна не бывае.

— Гэта праўда. А вы не задумваліся, Віцінг, чаму раптам спыняецца машына, якая ідзе з хуткасцю ста кіламетраў, і што ў такіх выпадках адчуваюць пасажыры?

— Калі машына раптам спыняецца — гэта аварыя, катастрофа.

— Мы, Ота, спыніліся пад Масквой...

Віцінг раптам адчуў усю сур'ёзнасць тых паведамленняў з фронту, якія вось ужо каторы дзень не вызначаліся разнастайнасцю.

— Гэта што-небудзь сур'ёзнае?

— Разумеецца, дарагі Віцінг. Наша размова застанецца ў гэтым пакоі... Я шчыра паважаю вас, як друга і школьнага таварыша генерала Зімерынга.

«А якое дачыненне да ўсяго гэтага мае Зімерынг? — падумаў Віцінг.— Ах, так — яны давяраюць адзін аднаму... Ну, вядома...»

— Тое, што мы спыніліся, можа перарасці ў штосьці горшае,— прадоўжыў фон Лейме-Тротшэ.

— Я думаю, што фюрар не дапусціць,— асцярожна напомніў Віцінг.

Фон Лейме-Тротшэ абтрос попел на крышталёвы сподак, у якім адлюстроўвалася дрыготкае полымя свечкі.

— Дарагі Віцінг, вы пераацэньваеце... Ёсць дзве сілы, здольныя вырашыць лёс нацыі: армія і партыя. На жаль...— ён запнуўся і, каб запоўніць гэтую непрыемную паўзу, зацягнуўся дымам.

Віцінг захоўваў маўчанне. Размова абяцала быць таямнічай і таму цікавай. Ён адчуваў, што фон Лейме-Тротшэ чагосьці не дагаворвае, і не таму, што не давярае яму, Віцінгу.

— Я, як і вы, Віцінг, бясконца адданы сваёй нацыі, радзіме і той вялікай місіі, якая выпала на долю германскаму народу. Нацыянал-сацыялізм абудзіў дух нацыі перад пагрозай сусветнага камунізма і анархіі. Аднак, дарагі Ота, перад гэтай пагрозай мы не мелі права ваяваць на два фронты. І потым... потым амаральнасць...

Вы разумееце, Ота, я хачу сказаць, што мэты могуць быць розныя і сродкі таксама.

— Вы думаеце, што наша армія...

— На жаль, Ота... А там не пойдуць насустрач, пакуль не будзе гарантыі, што цвярозасць і развага сталі асновай палітыкі.

— Наша камандаванне настроена аптымістычна.

— О-о-о! Зразумела. Хто-небудзь усё ж будзе вінаваты...

— Так бывае заўсёды...

— Мне прыемна, Ота, што мы разумеем адзін аднаго. Залішняя вера асляпляе. Ці не праўда?..

— Цвярозасць — адметная рыса немцаў.

— Бадай не цяперашніх. Вядома, немцы тут не вінаваты.

— Вядома,— згадзіўся Віцінг.

— Цвярозасць павінна перамагчы.

— Хочацца спадзявацца.

Зігфрыд фон Лейме-Тротшэ пасядзеў яшчэ крыху, пачаў збірацца ў гатэль, дзе яму з раніцы яшчэ былі падрыхтаваны два пакоі. Ад'ютант Віцінга пайшоў суправаджаць пана інспектара да машыны.

Ота Віцінг прайшоўся па пакоі. Нешта трывожыла яго. І раптам працяла страшная здагадка: яго цягнуць у змову супраць самога фюрара!

Ён сеў у крэсла, уражаны гэтым адкрыццём. Божа, штосьці трэба рабіць неадкладна! Пазваніць Ютнеру? Але хто такі Ютнер? І чым усё гэта скончыцца? Лепей бы не заставаўся гэты фон Лейме-Тротшэ.

«Спакойна, Ота! Спяшацца ніколі не варта,— супакоіў ён сябе.— Гэтыя тытулаваныя асобы маюць далёкі нюх...»

Ён выйшаў у прыёмную. Там, прыхінуўшыся да спінкі канапы, ціха спала Людміла. Віцінг спыніўся, нібы ўпершыню ўбачыў яе незвычайную прыгажосць. Дзяўчына камусьці ўсміхалася ў сне...

## 30

Ізноў Міхась Ланкевіч застаўся на адзіноце са сваёй тайнай. Ланге, як і Тышкевіч, заняты нейкімі больш важнымі справамі, не падаваў голасу, хоць абяцаў не траціць сувязі. Міхась трывожыўся на першым часе: чакаў, што аднойчы паявяцца немцы, схопяць яго. У думках паўставалі жудасныя малюнкі допытаў, якія ён, Ланкевіч, мужна цярпеў.

Ціха і няўтульна было ў вёсцы. Завірухі замялі снегам дарогі, і высачэзныя гурбы зраўнялі стрэхі хлявоў з зямлёй.

Немцы ў Кавалі не прыязджалі. Нават паліцыя не паяўлялася. Зноў, як улетку, ажылі людзі, і зноў, не баючыся ночы, хадзіла па вёсцы моладзь. Збіраліся па хатах, спявалі песні, танцавалі да самай раніцы. Удзень спалі: работы не было.

На вечарынцы ў Краснеўскіх Міхась сустрэўся з Антанінай. Сядзелі за шафай на высокім драўляным ложку. Міхась абнімаў падатлівы стан дзяўчыны, туліў да сябе. Яна больш маўчала, паціскала яго гарачую руку ды час ад часу пазірала ў вочы.

Міхасю няёмка, што быў забыўся на каханне і вернасць, быццам здрадзіў ёй самым непрыстойным чынам. Шкадаваў. Антаніна цягнула да сябе і адштурхоўвала.



«Люблю я яе ці проста шкадую? — думаў ён.— І што такое любоў? Можа і няма яе. Звычайная патрэбнасць у чалавеку, калі невыносна цяжка жыць... Каб не было вайны, хіба я пакахаў бы яе».

Ён паглядзеў, як бы жадаючы ўпэўніцца, ці мог пакахаць Антаніну ў мірны час. Акруглы твар, кірпаты нос, вузкія шчылінкі вачэй з кароткімі вейкамі, пухлаваты рот... І ўсё ж было штосьці мілае наіўна-шчырае ў яе кароткіх, вышчыпаных бровах, у дзіцячым, з ямачкай, падбародку, у маленькіх вушах, што выткаліся з-пад пасмаў валасоў. І ўся яна, прытуленая да яго, выдавала слабай і даверлівай. Толькі ён адзін мог абараніць яе ад бяды ў гэтым страшным, разбойным свеце. Толькі ён... Міхась мацней прытуліў Антаніну. Яна прыпала да яго грудзей, прашаптала: «Як я люблю цябе, Міша...»

«Не, я палюбіў бы яе заўсёды, калі б ні сустрэўся»,— падумаў ён, дакараючы сябе за тое, што быў усумніўся ў шчырасці сваіх пачуццяў.

У тую ноч ён не прыйшоў дамоў. Яна была самая кароткая, тая ноч, калі ён сядзеў з Антанінай на маленькім тапчане, калі ляжаў побач з ёй, адчуваючы ніколі нечуваную прыемную стому ў целе і незвычайную, бурную радасць, якая рвалася з грудзей.

Раніцай, калі ён прыйшоў дамоў, скоса паглядала маці, хоць ні слова не сказала яму. І ён адчуваў дзіўную ніякаватасць перад ёю. Схлусіў, што заначаваў у Лёшкі Лямзы. Яна, відаць, не паверыла. Ківала галавой, падтульвала сухія вусны і неяк спагадліва пагладала на яго.

Праз густую намаразь на вокнах у хату прабіваліся ружовыя промні. Марозныя ўзоры гарэлі на шкле яркімі фарбамі, і ад таго беднае ўбранства хаты выдавала яшчэ больш бедным.

Пасля запозненага снядання ўсе забраліся на печ — у хаце было холадна, ля парога пакрысе адтайвала лужа. Міхась пайшоў на двор. У снежнай смузе ярка свяціла чырвонае сонца, нізкае і халоднае. Шалёны вецер круціў снег, над стрэхамі курыліся бліскучыя пад сонцам слупкі снежнага пылу.

Мароз, здаецца, мацнеў. Было цяжка дыхаць і балюча глядзець на яркую віднату поля, якое чамусьці плыло, пералівалася хвалямі — як кінуць вокам, паўзлі, падвівалі хвастамі снежныя сувоі.

Адчуваючы нейкую віну перад маці, Міхась гадзіны дзве сек дровы, складаў пад страху. Саграваўся, паступова праходзіла збянтэжанасць і сарамлівасць. Не заходзячы дахаты, Міхась пайшоў на вёску.

У Даўгаляхі, як заўсёды, поўна дзяўчат і хлопцаў. Сярод хаты на табурэтках сядзелі двое дзіўных людзей. Міхась ніяк не мог угадаць, хто яны. Ваеннапалонныя? Але чаму ў нямецкай форме?

Нізенькі і рыжаваты чалавек, убачыўшы Міхася, ускочыў з табурэткі, замахаў рукамі, выгукваў нешта незразумелае. Міхась са страхам пазіраў на яго. Вар'ят нейкі! Парваны стары шынель, падпяразаны брудным ручніком з вышытымі па краях чырвонымі пеўнямі. На нагах саламяныя чуні. Галава абматана шарсцяной хусткай. Але найбольш Міхася ўразіў выраз твару. У чалавека палахлівыя вочы, якія ўсё бегаюць, мітусяцца, быццам шукаюць ратунку. Вусны перасмыкаюцца, а левая шчака, чамусьці пачарнелая, торгаецца.

— Алес — капут... Вайна — капут!.. О, майн гот! Іх бін зольдат... Фарштэйн? Афіцырэн загт: комэн зі форвертс... Іх віль ніхт штэрбен!..

Міхась разгублена слухаў немца, нічога не разумеючы, чаго ён хоча ад яго. Тады з табурэткі падняўся другі немец, доўгі, худы, у нейкім жаночым паліто з вузкай таліяй. Ён схапіў чорнай абмарожанай рукой свайго таварыша, сілком пасадзіў яго на табурэтку.

— Шпрэхен зі дойч?

— Шлехт...— адказаў Міхась.

Немец, паволі вымаўляючы словы, памагаючы жэстамі і мімікай, пачаў расказваць пра сябе. Міхась збольшага разумеў яго.

— Што ён кажа? Што? — наперабой пыталіся хлопцы.

Міхась пераклаў.

...Афіцэры казалі, што рускія разбіты. Маскву абараняюць смяротнікі, якіх прыкавалі ланцугамі да кулямётаў і гармат. Афіцэры хлусілі. Рускія не разбіты. Яны бамбілі. У іх новыя гарматы. О, гэта трэба перажыць! Зямля становіцца чорнай. Мы адышлі. Казалі, што гэта новыя пазіцыі. Раніцай на пазіцыі наляцела конніца. Галовы ляцелі на снег. Мы з Петэрам кінуліся ўцякаць. Вайна прайграна... Гітлер звар'яцеў, калі ўздумаў перамагчы рускіх. Мы з Петэрам ідзём дамоў. З нас хопіць.

— А божачка, дык хіба ж яны дойдуць?! — здзівілася Даўгяліха.— Замерзнуць жа, чэрці...

— Няхай замярзаюць, было ім сюды не перціся,— адказаў Лёшка.

Немцы, між тым, ухапіўшыся за Міхася, як за чалавека, што хоць крыху ведае мову, спрабавалі высветліць, як лепш прайсці, каб абмінуць горад. У горадзе іх зловяць і расстраляюць. Міхась спрабаваў растлумачыць, але, відаць, яго дрэнна разумелі — гаварыць панямецку ён амаль не ўмеў.

— Лёшка, можа ў цябе карта ёсць? — запытаўся ён у Лямзы.

Той прыпёр падручнік па геаграфіі. Па маленькай карце Міхась стараўся паказаць немцам, як лепей абысці горад. Даўгалыгі салдат узіраўся ў карту і, здаецца, разумеў, што хацеў давесці яму Міхась. Ён схапіў Міхасёву руку, доўга ціснуў яе, потым паляпаў па плячы.

— Данке, данке шон...— і штосьці быстра пачаў гаварыць свайму таварышу.

— Няўжо поўдуць? — запытала Даўгяліха.

— А куды ім дзявацца!

— Драпаюць...

— Дачакаліся і мы, што яны ўцякаюць.

— Прышыць бы іх тут...

— Знайшоў каго прышываць!..

— Далёка яны не адыдуць.

— Дзіва што...

Даўгяліха адчыніла скрыню, дастала бохан хлеба.

— На, бяры... З голаду ж падохнеце,— сказала яна, падаючы хлеб доўгаму.

Той разгублена міргаў белаватымі, як бы выцвілымі, вачыма. Потым упаў на калені, хапаў Даўгяліхіну руку, а яна спалохана хавала яе за спіной. Немец нешта закрычаў на таго, што сядзеў на табурэтцы, потым падхапіўся, палез да яго за пазуху. У яго каструбаватых пальцах раптам бліснуў тоненькі залаты пярсцёнак. Немец соваў пярсцёнак Даўгялісе, а яна адштурхоўвала яго руку. Ён, відаць, зразумеў, што пярсцёнка жанчына не возьме. Тады ён прыпаў да яе рукі вуснамі.

— Іх вэрдэ эс ніхт фергессен,— сказаў ён.

— Што ён кажа? — запыталіся ў Міхася.

— Што ён ніколі не забудзе гэтага.



— Дзіва, што такое запомніш...

— Калі жывы застанецца...

— Далёка ім ісці...

Калі яны нарэшце пайшлі, Даўгяліха сказала:

— Буду я ў яго пярсцёнак браць: можа з забітага зняў, во і хоча аддаць...

## 31

Нарэшце жанчын аддзялілі ад мужчын. Кудысьці ў другую камеру перавялі і Ядвісю. Самароса таксама перасялілі з той вялікай камеры ў меншую. Тут было больш прасторна, але сыра і холадна, ды і ляжаць даводзілася на падлозе.

На двор іх не выпускалі. Цяжкая, без ручак параша смярдзела, і ад гэтага смуроду, ад паху брудных, нямытых цел, ад сырасці і голаду кружылася галава. На трэція суткі, калі касавокі, нехлямяжы наглядчык адчыніў дзверы, загадаўшы выносіць парашу, Самарос прадраўся наперад. Наглядчык адступіў, паківаў каструбаватым пальцам:

— Ну, ты, шалёны!.. Мала цябе тады білі...

Ззаду Самароса трымалі, здаецца, Саўка-цыган і малады яшчэ хлопец з-пад Усвятаў Сцяпан Корнеў. Мікіта вырываўся, быццам мог штосьці зрабіць наглядчыку.

— Я патрабую прагулак!.. Чуеш ты, касы чорт? Перадай сваім немцам, што мы патрабуем прагулак.

Па калідоры беглі яшчэ наглядчыкі. У аднаго з іх гучна бразгалі ключы. Касы наглядчык памалу выцягваў пісталет з кабуры.

Саўка са Сцяпанам цягнулі Самароса ўглыб камеры, потым неяк адразу кінулі яго, і самі адбегліся.

— Табе не хапае паветра? — запытаўся наглядчык і стрэліў.

Самарос прадаўжаў стаяць, а наглядчык страляў, і раптам у спіну Мікіту ўдарыў халодны, марозны струмень паветра.

— Ну, цяпер дыхай!..— крыкнуў наглядчык.

Зачыніліся дзверы. Чуваць было, як па калідоры загрукалі ботамі наглядчыкі.

— Ах, бацька! — здзіўлена выгукнуў цыган.— Як жа ён у цябе не папаў? Думаў, канец Мікіту.

— Ён жа да вайны граматы за стральбу палучаў. Хвацка страляе. Толькі вось цяпер ад ветру не схаваешся, панасадзіў дзірак у шкле.— Сцяпан абняў Самароса за плечы, адвёў у куток.— На ліха было з ім звязвацца. Карцар палучыш. А нам нюхай парашу... Яшчэ двое сутак не дасць выносіць.

Самарос і сам разумеў, што сарваўся, што дарэмна ўсчыніў гэты нікчэмны бунт. Але ён ведаў і іншае: кожны мускул яго, кожная клетка патрабавалі разрадкі. Цяпер стала лёгка і пуста.

Праз гадзіну за ім прыйшлі. Два дужыя, па-вяскоаму непаваротлівыя хлопцы, п'янаватыя і таму рызыкоўныя, падхапілі Самароса пад рукі. Ён не супраціўляўся — увесь зарад энергіі быў страчаны там, у камеры.

Пяць дзён і начэй цёмны, прапахлы цвіллю закутак высмоктваў апошнія сілы ў Самароса. Калі выцягнулі з карцара, Мікіта ледзьве перастаўляў ногі. Перад вачыма плылі жоўтыя кругі, і ўсё навокал пагойдвалася, нібы на крутых хвалях.

Камера здавалася яму родным домам. Саўка-цыган стаяў над ім на каленях і нешта гаварыў. Мікіта як бы аглух. Словы не мелі для яго ніякага сэнсу.

Ён ведаў, што пасля карцара ўжо не ачуняе, але не раскайваўся, што пагарачыўся тады. Цяпер гэта было ўсё роўна. І нават тое, што зрабіла Сцепаніда, не мела ўжо ніякага значэння. Што ты возьмеш з жанчыны, якая здурэла ад рэўнасці! Каршукову пашанцавала... Ого, той заўсёды быў хітруном. Такая жанчына... Не пабаялася ў дарогу пайсці. Сцепаніда не пайшла б. А Вера?.. Дзе яна? Вера цудоўная. Во хто была б аддана́й жонкай. З такімі нічога не страшна, нават смерць.

Камера памалу прачыналася. Самарос да рэзі ў вачах бачыў, як падымаюцца людзі, ідуць да парашы, становяцца ў чаргу...

— Ну што, дарагі, глядзіш? — нахіліўся над ім Саўка.— Задыхаешся... Пачакай, я зараз адаткну акно. Няхай праветрыцца.

Ён залез на стол,— дзве шырокія тоўстыя дошкі,— выцягнуў з крат анучы. У камеру ўварваўся вецер. Высока пад столлю закружыліся белыя, калючыя сняжынкі.

Цыган крычаў зверху, як з неба:

— Ох, завіруха!.. Мяце, аж свету не відаць... Калі не пацяплее, памерзнем тут.

На яго сварыліся: затыкай акно, надумаў нос совацъ на двор — мароз адкусіць.

— Хлопцы...— у цыгана перасеў голас. Ён павярнуўся тварам на камеру, махаў рукамі. Ніхто не разумеў, што з ім здарылася.

І раптам праз разбітае акно ўварвалася ў камеру страляніна. Нехта ўзрадавана закрычаў:

— Браточкі! Нашы!..

Гэты крык вывеў Самароса з забыцця. Ён працягваў рукі да людзей, прасіўся:

— Памажыце мне!.. Памажыце...

Той жа цыган і хтосьці яшчэ памаглі Самаросу падняцца на стол. Ён ухапіўся рукамі за краты, прыпаў тварам да халодных прутоў.

За ракой на роўнядзь поплава густа высыпалі з лесу лыжнікі. Самаросу здалося, што ён бачыць на шапках чырвоныя зоркі.

Лыжнікі раптам раздзяліліся, як два рукавы ракі, абхаплівалі чорны востраў — турму. І нехта ўжо біў у дзверы кулакамі, крычаў, каб адчынілі дзверы.

На калідоры панавала цішыня.

## 32

У снежні лютавалі завірухі з маразамі. Днём і ноччу шалёны вецер пералапачваў калючы, жорсткі снег, зганяў яго ў даліны і равы. Зрэдку, калі крыху цяплела, неба завалаквалі бурыя, нізкія хмары. Тады суткі-двое валіў на зямлю споры снег, і парудзелыя было ўзгоркі зноў укрываліся тоўстай пуховай коўдрай.

У лесе ні прайсці ні праехаць — снегу па пахі. Тут нават у зацішныя дні завіруха: калматыя векавыя яліны асыпаюць пад ветрам долу дробныя, перамёрзлыя сняжынкі.

Хаціну пад самы вільчык замяло, надзейна прыкрыла з паветра тоўстай шапкай снегу. Людзі сядзелі ў ёй, як у бярлозе. Дымную печку палілі ўночы, аж пакуль яна не чырванела ад жару. Па хаце



паволі плыла душная, парная цеплыня, неахвотна адтайвала па закутках, і на столі белая губкаватая намаразь капала на падлогу буйнымі халоднымі кроплямі.

Удзень выходзілі на двор рэдка. Тышкевіч строга бярог апошні гэты прытулак ад чужых настырных вачэй.

Зрэдку, калі над лесам гула завіруха і вецер ураз замятаў чалавечыя сляды, атрад хадзіў у далёкія, цёплыя вёскі. Назад вярталіся, гружаныя хлебам, салам. Пятлялі па лесе, каб збіць з тропу немцаў, калі яны ўздумаюць наганяць атрад па следзе. Кожны паход — маленькае падслепаватае акенца ў вялікі свет чалавечых пакут і радасцей — балюча драпаў душу. Цяпер, калі замяло ўсе дарогі і немцы амаль ужо не паяўляліся ў вёсках, адседжваліся па гарнізонах, Тышкевіч і яго сябры, як ніколі, адчувалі на сабе насцярожаныя, а часам і злосныя позіркі.

Аднаго разу яны прыйшлі на адзінокі ў полі хутар з трох хат. Пастукаліся ў адну хату, потым у другую. Дзверы ім не адчынялі. Людзі, мабыць, баяліся. Але вярнуцца ў лес без харчу яны не маглі. Пайшлі ў трэцюю хату.

У той апошняй хаце ім далі хлеба, цыбулі і некалькі кавалкаў пасоленай, поснай бараніны. Старая паўнаватая жанчына, складаючы харч у торбу, прасіла Малахоўскага, чамусьці прыняўшы яго за старэйшага:

— Толькі ж, дзеля бога, не кажыце, што я сама вам усё аддала. З'ядуць жа нашы. Самі жмінды і другіх робяць такімі... А ў мяне свой недзе ваюе. Як жа не спагадаць вам?..

У лагеры Тышкевіч рашуча сказаў:

— Хопіць, хлопцы, па хатах поўзаць. А то і праўда, як у таго Фурманава: «Белыя грабяць, красныя тожа прыходзяць... бяруць...»

— То як жа ты жыць думаеш? — абурылася Прусава.— Мужык зроду такі. У яго лепей згніе, чым каму аддасць.

Прайшло тыдні два. Тышкевіч у гэтыя ночы чамусьці не спаў. Пакутлівыя думкі не пакідалі ні на хвіліну. Прыкідваючы ў памяці ўсю сваю дзейнасць за пяць месяцаў, як ніколі, бачыў, што патрачана многа сіл і нерваў. І хоць зроблена таксама нямала — нечага не ставала. Бадай, адзін эпізод з узрывам чыгункі нешта важыў, каб апраўдаць свае пяцімесячныя пакуты.

Ён выйшаў на двор, каб ахаладзіць разгарачаную галаву. Вецер к ночы крыху супакоіўся, і змярцвелы лес пад цяжарам снегу нізка хіліў долу галіны. У прагалах між дрэў блішчалі яркія, мігатлівыя зоркі, а Млечны Шлях высціλаўся бледна-блакітным вясёлкавым поясам. Яшчэ гулялі на паўночным усходзе рэдкія вогненныя сполахі. Яны былі падобны на жнівеньскія бліскавіцы ў пагодлівыя, празрыстыя вечары.

Тышкевіч нечакана злавіў глухую, як рокат далёкай навальніцы, кананаду. Ён не паверыў сваім вушам. Зняў шапку і тады ўжо больш выразна пачуў знаёмы з маладых год говар гармат.

— Страляюць!.. Нашы страляюць...

Далёкая кананада то атухала, то зноў грымела, не перастаючы. Звар'яцелыя ад радасці, людзі абдымаліся, скакалі па снезе. З радасці распалілі печку, нішчылі апошнія запасы дроў.

...Кананада ўжо чулася і днём. Баі, відаць, ішлі ўверх па Дзвіне. Недзе там гарэлі вёскі і стагнала ад выбухаў зямля.

Па месячнай даўнасці звестках у Пышніках стаяў гарнізон. Тышкевіч вырашыў абысці яго справа, перайсці па лёдзе рачулку Касплянку, а ўжо затым павярнуць на паўночны ўсход.

Бандарэнка быў запярэчыў: хацеў ісці нацянькі, агінаючы Пышнікі злева. Справа пачыналіся непраходныя Смаленскія лясы з балотамі і вечна незамярзаючымі чортавымі вокнамі:

— Заблытаемся мы там, хлопцы, як піць даць, заблудзімся.

Малахоўскі пажартаваў:

— Мы, Платон Хвёдаравіч, па азімуту пойдзем. Будзь спакоен — не заблудзімся! Чуеш, як фронт грукоча? А ўночы зарава свеціць... У нас цяпер верны азімут, вогненны.







Алесь НАЎРОЦКІ

# Палячыце нас, доктар!

*Шэйпакам — Ніне і Леаніду.*



Мілы доктар наш,
Доктар мілы,
Выпішыце нам здароўя чарнілам.
Просім вас,
просім
Знішчыць нашай хваробы цень.
Выпішыце нам здароўя
Па кропель восем
Перад ядой
тры разы ў дзень.
Паміраць нам рана:
Прыбінтуйце здароўе
да раны.
Зака́пайце здароўем вушы нам,
Бо мы не чуем,
калісьці былі аглушаны.
Мы ведаем,
што вам цяжка —
На вас прама

Вайна нацэлена
З кожнага
шрама.

* * *

Доктар,
У мяне, мусіць,
галюцынацыі
слухавыя:
Пад налёт авіяцыі я ў сорак першым папаў.
Пылам заклеіла нос і нёба,
А бомбы
перамешвалі
зямлю і неба.
Бегчы няма як —
далёка лясок.
За жыццё я ўчапіўся,
як зубамі ў пясок.
«Пранясі мяне, смерць!» —
ціха шапчу.
Жыццё
ўтрымаць
хачу.
Бомбы выюць і выюць,
і завываюць,
І пясок
з-пад зубоў маіх
Вырываюць.
Нарэшце!
«Юнкерсы» скінулі бомбы і зніклі.
Упершыню
Я пачуў,
як карова на полі
скубе цішыню.
Я ляжаў
і слухаў і слухаў.
І раптам пачуў я —
Ля самага вуха —
У акіяне нямой цішыні
Гадзіннік зацікаў ручны.
Адкуль ён, гадзіннік?..
І чаму ён цікае?
Я доўга слухаў
цікание ціхае.
Я буду помніць
да самай смерці,—
Доктар, паверце,—
Жахлівым відовішчам
душа мая знявечана:
Ля мяне валялася
З гадзіннікам
рука чалавечая...
Доктар,
Фанендаскопам мяне памацайце:
У мяне, мусіць,
слухавыя
галюцынацыі.
У галаве маёй той гадзіннік стукае,
Дзень і ноч гадзіннік стукае...
Палячыце мяне...

* * *

Я чую, нехта там без халадзільніка жыве
І валасы рве
ад пакут
На галаве...
А я — ужо хутка дзесятак гадоў другі —
Я жыву... без
Нагі.
(Валасы цэлыя
на маёй галаве
Толькі, праўда, пасівелыя.)
Стаю на прыём да ўрача ў чарзе;
На адной назе
У чарзе стаю
(Ніхто ж не ведае, што пратэз
Замяняе нагу маю),
Дваццаць гадоў
на адной назе
Стаю ў чарзе.
«Доктар мілы,
Прыпішыце мне крышку сілы».
Я ў чарзе па здароўе
Стаю,
Амаль усё жыццё стаю...
Доктар,
пачуйце
Пакуту маю!

* * *

Зноў гэтай ноччу,
як і ўчора,
Мяне разбудзіў рокат матора.
Я прачнуўся.
Галава разламваецца...
Думкі пераносяць мяне
На поле бою.
«Месершміт» зніжаецца,
зніжаецца нада мною
І валасы мае
прычэсвае
Кулямётнай чаргою.
Я бягу...
Я бягу...
А «месершміт» разварочваецца,
«Месершміт» мяне даганяе.
Пралятае
Куль град.
Пашанцавала мне:
кулі толькі паранілі
Вінтоўкі маёй прыклад.
Я бягу...
І зноў «месершміт» за мною.
Чорныя крыжы вось-вось упадуць з крыла.
Зноў чарга.
На гэты раз чаргою
Паранены
рукаў шыняля.
У сне кожны дзень за мною
«месершміт» гоніцца...
Доктар,
палячыце бяссонніцу...

* * *

Парашут хістаецца,
Два дзесяцігоддзі хістаецца:
Яго то падніме, то апусціць вецер.
На парашуце
апускаецца вайна —
Сусветная, трэцяя.
Хіба можна прымірыцца:

Працуй чэсна,
А потым —
і ты і праца твая на дым?
Павольна,
Няўмольна,
Злавесна
Апускаецца парашут
Туды, дзе мы стаім.

Ці даўно параніла?
І хіба рана наша зажыла?

Апускаецца парашут кожны дзень...
Слізгае па планеце яго чорны авальны цень.

Цень падае на нашу рану.
А рана баліць.
Чым ўтаймаваць мучэнняў клокат?
Палячыце нас, доктар!




увацъ
саланчаковай
ночы
крокі,
На пожні хтосьці
выплакаў расу...
У стэп,
зажураны,
пустынны,
адзінокі,
Каханая,
цябе нясу.
Нясу
у халадзеючае ззянне.
Журба над полем
шалясціць
пустым.
Тваё спакойнае і роўнае
Дыханне
Зліваецца з маім.
Пажаты вецер
ціха-ціха
вее
Пра беды тыя,
якімі я жыву...
Я на тваё
апушчаныя
веі
Любуюся,
Схіліўшы галаву.
Відаць,
Няхутка вецер закрасуе
Над пожняю,
дзе ломкае асцё.
Каханая,
Убач хоць раз...
нясу я
Цябе усё сваё жыццё.

Іван ШАЛЬМАНАЎ



Мастак
Юры АРХІПАЎ




# Абзрак

Апавяданне

I

А пошняя з ім сустрэча была самая неспадзяваная. Я дабіраўся з камандзіроўкі. Чакаць цягніка заставалася яшчэ гадзіны дзве. А мне ўжо так апрыкла хадзіць па глухім маалалюдным паўстанку і слухаць прыкрае чырыканне вераб'ёў. І я ў думках дакараў сябе, што так не да часу забрыў на гэты, ліха на яго, паўстанак.

Яно, каб на добры розум, дык можна было б адпачыць як мае быць, і якраз яшчэ трапіў бы на гэты цягнік. Казаў жа Макар Патапавіч, у якога я начаваў, каб пачакаў да дня. Днём яму нешта трэба было ехаць у гэты бок, дык гаварыў — і мяне падкінуў бы.

Не паслухаўся. Папёрся так рана: хацеў на першы цягнік, ды не паспеў: перад самым носам праскочыў.

Вяртацца зноў да гаспадара было ламавіта ды і ляніўся трохі. Ад вёскі, дзе жыў Макар Патапавіч, да паўстанка лічыцца пяць кіламетраў. А на самай справе — хто іх мераў! Я, мусіць, гадзіны дзве цягнуўся.

Надвор'е стаяла сухое, бязветранае. На небе ні воблачка. Толькі на ўсходзе, над цёмна-сіняй грыўкай далёкага лесу, віднеліся белыя дарогі рэактыўных самалётаў. Сонца з кожнай хвілінай прыпякала ўсё мацней і мацней. Я скінуў летнік, сарочку і прылёг на зялёны мурог.

Пастукваючы па рэйках малатком, прайшоў абходчык. А я ляжаў дагары, углядаўся ў неба і стараўся ўявіць бяскрайні прастор сусвету.

Дарэмна. Уявіць бяскрайняй велічыні я не мог. Ды такое, мусіць, уявіць проста не пад сілу чалавеку. Бо чалавек прывык ведаць канкрэтную велічыню, ведаць усяму нейкую граніцу. І гэтыя граніцы скоўваюць чалавека. Скоўваюць яго дзеянні, думкі, мары, скоўваюць яго фантазію і, нават, жыццё.

А можа і сусвет, які б ён ні быў бяскрайне вялікі, таксама мае сваю канкрэтную велічыню. Але ж тады якое будзе яно, гэтае дно нябеснае?..

— Дзень добры! — перапыніў мае думкі густы, басісты, ледзь сіплаваты голас.

— Добры дзень,— адказаў я і павярнуўся на голас.

Перада мной стаяў абходчык. Гэта быў стары, год пад шэсцьдзесят. У правай руцэ ён трымаў малаток з доўгім цаўём, а левай, прыўзняўшы фуражку, скроб сваю голую, як калена, успацелую макаўку. Стары паглядаў на пачак «Беламору», які ляжаў каля мяне.

— Прабачце, закурыць у вас... можна? — нарэшце спытаў ён.

Я дастаў з кішэні запалкі, паклаў на папяросы і моўчкі кіўнуў галавой, каб закурваў.

— І што гэта будзе — не прывозяць папярос... А як жа, хоць запалі, дык не знойдзеш,—нібы апраўдваўся ён.— То хоць махорка была, а цяпер дык і яе нямашака.

Абходчык зацягнуўся. Вочы яго заіскрыліся, а паморшчаны, змардаваны твар палагаднеў.

— От дзякую, сынку... А як жа. Аж на сэрцы павесялела.

Стары зацягнуўся яшчэ, здзьмухнуў попел.

— І дзе вы бралі? Га?

— У Мінску,— неахвотна адказаў я.— Ехаў сюды — назапасіўся.

— А-а-а! Дык вы з Мінску, значыць. А як там з табакай?

— Здаецца, нічога.

— А як жа. Ведама, сталіца... А ў нас бяда ды і толькі...— Ён неяк дзіўна нагнуўся над папяросай, пакруціў яе.— Ходзяць тут чуткі, што нібы трасца ўся гэтая з-за мяжы. А як жа. Перасталі, значыцца, табаку купляць. Паспрачаліся, значыцца, з нашымі, і перасталі.

— Газеты, бацька, чытаць трэба,— знарок груба адказаў я.— Тады не будзеш слухаць розныя чуткі.

Шчыра кажучы, я і сам не ведаў, чаму ў той год былі перабоі з папяросамі.

Стары не пакрыўдзіўся на маю заўвагу.

— Чытаю, а як жа,— дабрадушна прагаварыў ён і пацягнуў да сябе на калені сумку, якая вісела за спіной. Выцягнуў адтуль газету.

— Цяпер братка, такія дзялы кругом творацца, што без газеты дык усё роўна, што старому без акуляраў. А як жа. Я заўсёды, як іду на абход, і газету бяру з сабою. Прысяду адпачыць — пачытаю. А як жа.

Стары дастаў з нагруднай кішэні акуляры, працёр шкельцы чыстай насоўкай і, паважна прыўзняўшы свае калматыя бровы, надзеў. Потым з старэчай няспешнасцю разгарнуў газету, пачаў чытаць.

Я сачыў за ім і міжволі ўсміхаўся. Надта пацешны быў ён пры такім занятку. Чытаючы, стары смешна цмокаў губамі, лыпаў сваімі маленькімі падслепаватымі вочкамі і гэтак ужо моршчыў твар, што здавалася — ён не чытае, а жуе кіслы лясны яблык.

Раптам ён перастаў шавяліць губамі, недаўменна вылупіў свае кругленькія вочкі.



— Дзівак,— нарэшце прагаварыў ён.

— Хто дзівак?

— Ды вось тут пішуць пра аднаго машыніста. Пра нашага брата— чыгуначніка. А як жа. Дзівак, кажу.— Стары падаў мне газету.— Вось тут чытайце,— і тыцнуў сваім вялікім расплюшчаным пальцам з тоўстым чорным пазногцем.

Мне не хацелася крыўдзіць старога, і я пачаў з неахвотай чытаць газету.

—Канстанцін Францавіч Пяхцецкі? — здзівіўся я.— Пачакай, пачакай... Дык гэта ж Абэрак! Так і ёсць, Абэрак...

— Як абэрак? — стары падсеў бліжэй да мяне.

— Абэрак... Гэта дражнілі яго так.

— Не разумею нешта. Як дражнілі? Каго дражнілі?

— Пяхцецкага. Машыніста гэтага. Абэркам дражнілі.

— А-а-а! Дык вы, значыцца, ведаеце яго,— стары прыкусіў губу і заківаў галавой.

— Яшчэ як! Качагарам ездзіў з ім. Дома ў яго за госця быў.

— А як жа! Ай-я-яй! І дома, кажаце, былі? Мусіць, дом вялікі недзе.

— Казарма.

— Ай-я-яй! А як жа. Ты скажы, што за чалавек, га?

## II

Гадоў мо восем назад працаваў я на чыгунцы. Ездзіў качагарам на грузавым паравозе. Праца хаця і брудная, але заробкі былі неблагія, ды і ад работы не пераломішся. Адно ведай: падтрымлівай чысціню і парадак на паравозе ды слухайся машыніста.

Праўда, яшчэ як да машыніста... Я ні пра кога, пра гэтага Пяхцецкага раскажу. Я і цяпер не магу даўмецца, што гэта за чалавек.

— Люты характар,— казалі мне пра яго паравознікі, калі даведаліся, што мяне прызначылі качагарам да яго ў брыгаду.

— Качагары ў яго доўга не затрымліваюцца: тыдзень, другі — і пяткі падмазваюць.

— Хто? Абэрак? Ды ён цябе, сябар, буферы прымусіць цалаваць. Ведаю. Паездзіў з ім трошкі. Дзесятаму закажу.

— Ну, чаго вы, хлопцы, палохаеце малога. Абэрак, як Абэрак. Праўда, дзядзька з перчыкам, факт. Нічога не скажаш. Але цярпець можна. Прэміі атрымліваць будзеш за эканомію.

Усе так і паехалі ад рогату.

— Гэтыя прэміі табе вомегай вылезуць.

Хлопцы рагаталі, а я стаяў разгублены і не ведаў, што ім адказаць. Яны здзекаваліся з мяне як хацелі.

— Ідзі, малы, да загадчыка паравозных брыгад,—раілі мне хлопцы.— Вось да гэтай чорненькай татаркі, да Зіны, значыць. І папрасіся, каб да другога машыніста перавяла.

Я дык ужо не ведаў, дзе хлопцы праўду кажуць, а дзе кпіны строяць.

— Мне да работы не прывыкаць,— фанабэрыста адказаў я.— Якнебудзь і з Пяхцецкім зладкую. А трэба будзе — і буферы пацалую.

— А ты смелы, малы! Глядзі. Табе відней, калі што.

Да выезду заставалася з паўгадзіны. Я схадзіў у гардэроб, пераапрануўся і цяпер, як кажуць, пры поўным баявым чакаў брыгаду.

Настрой мой быў сапсаваны. Прызнацца, мне ніколі не шанцавала. Усё нешта не так, як людзям. Як кажуць, думаеш на гару, а чорт за нагу...

Я зайшоў у «брахалаўку» і, знайшоўшы свабоднае месца, усеўся каля акна.

«Брахалаўкай» паравознікі называюць сваю дзяжурку. Тут заўсёды, днём і ноччу, у кожную хвіліну, народу ледзь не поўны пакой. Адны чакаюць адпраўлення, другія ўжо вярнуліся з паездкі і цяпер афармляюць маршруты, трэція проста так сядзяць, чэшуць языкі.

Гэта ўжо як закон. Пасля паездкі паравознік абавязкова заваліцца ў «брахалаўку». Мурзаты, стомлены, але заваліцца. Ён павінен «адбрахацца» тут не менш як гадзіны дзве. Расказаць, можа ў соты раз, як ён ледзь не расцягнуўся пад Пагарэльцамі, абазваць пры выпадку старым дурнем Івана Іванавіча за тое, што ён у сваю апошнюю паездку, перад тым, як ісці на пенсію, узяўся весці цяжкаваговы — і расцягнуўся.

І толькі пасля таго, калі, здаецца, перагаварылі пра ўсё, што ведалі, паравознік з лёгкай душой шыбаваў у душ, мыўся,—і цяпер яго ўжо не затрымаеш. Яму некалі. Ён спяшаецца дамоў.

— Учора, казалі, Абэрак усёй брыгадай вёдрамі са склада на свой паравоз вугаль насіў.

— А што б вы думалі! З чаго б у яго гэткая эканомія была?

— Кіньце, хлопцы, вёдрамі шмат не нацягаеш. Ды і не такі ён чалавек...

— Законны гнюп *. Даю галаву адсекчы, што тут нешта не тое. Вазьміце Касцяровіча. Адна машына. У Абэрка — эканомія, а ў Касцяровіча — перарасход... Ды і Бацян ледзь-ледзь у норму ўкладаецца.

— Што праўда, то праўда. Абэрак за эканомію качагара з памочнікам у труну заганяе.

— Абэрак з галавой. Суне рабочым на піва — яны і перакінуць яму банку, другую **. А як вы думалі...

— Ну, не! Абэрак табе не раскінецца капейкай. Ён, кажуць, нават у сталоўку ніколі не ходзіць. Возьме што-небудзь з сабой і — аб гэтым... А калі ты бачыў, каб ён чарку выпіў? Адным словам, Абэрак і ёсць Абэрак.

— Дык жа ў яго страўнік, хлопцы. Колькі ведаю, дык ён жыватом хварэе.

— Гнюп і ўсё тут. Ты не глядзі, што ён такі худы! А любога з нас у баранні рог скруціць. Ён жа, як будавацца распачынаў, прыхваціў ноччу на складзе бервяно і прэ, значыць, праз пуці дадому. А вартаўнік наперад: «Куды?» Шуміху падняў. Абэрак бабух бервяно далоў — і ні блізка. Не ён — і ўсё тут. Начальнік прыбег, саромець пачаў. А ён і кажа: «Таварыш начальнік! Ды што вы? Хіба я, з маім здароўем, такую халеру панясу? Гэта ж толькі каню пад сілу». Паспрабавалі, дык ледзь учатырох паднялі. Вось табе і Абэрак. Ого! А што ён такі худзізна, дык гэта ад прагнасці. Далібог! Я вам во што раскажу. Мне пра гэта Генка Пухнач расказваў. Ён тады з Абэркам памочнікам ездзіў. Ну, значыць...

Раптам гамонка прыціхла, быццам яе і не было.

— Малы, ты Пяхцецкага чакаеш? — сказаў да мяне адзін з паравознікаў.

— Ыгы,— адказаў я.— Чакаю.

— Прыйшоў ужо. Вунь там, каля акенца стаіць.

---

* Гнюп — тое, што і скнара, але больш прагны і скрытны.
** Банка — коўш для пагрузкі вугалю.



Я торапка ўскочыў з месца і хуценька падбег да чалавека ў сіняй прамасленай форменцы. Ён гаварыў аб нечым праз акенца з дзяжурным па дэпо.

— Вы — машыніст Пяхцецкі? — спытаў я, калі той перастаў гаварыць з дзяжурным і ўжо быў павярнуўся выходзіць.

— Я. А што?

— Мяне да вас качагарам...

— Як завуць?

— Алесь.

— Алесь, кажаш. А для мяне проста — «малы»,— і машыніст паказаў грэбень роўных, як часнок, белых зубоў.

— Я пытаю, як тваё прозвішча. У маршруце адзначыць трэба.

Я сказаў. Машыніст запісаў маё прозвішча, потым акуратна склаў маршрут у чатыры рэдзі і паклаў у шапку.

— Абавязкі свае ведаеш?

— Ды так... здаецца, троху ведаю.

— Ну, тады што ж, Алесь, айда прымаць машыну,— весела адказаў Пяхцецкі і па-сяброўску ляпнуў мяне па плячы.

## III

Дзядзька Кастусь, не гледзячы на свае пяцьдзесят восем гадоў, быў яшчэ надта руплівы, вясёлы і жартаўнік вялікі.

Ледзь выдасца вольная хвіліна, ён тут жа раскажа анекдот з жыцця чыгуначнікаў або пачне пакепліваць са свайго памочніка Васіля Пацярухі. Праўда, ён і сам цярпліва зносіў усе жарты, якія толькі не падстройваў яму Васіль.

Але як толькі дзядзька Кастусь браўся за рэверс, ён адразу ж рабіўся зусім другі. Твар яго станавіўся да зласлівасці сур'ёзны, а ў вачах загараўся нейкі шалёны, люты агеньчык.

У той час, калі ён распараджаўся намі, голас яго гучаў глуха і адрывіста. І гэткім ён ужо заставаўся да канца паездкі. Але варта было Васілю крыкнуць: «Дзядзька, бабы!», і — няхай будзе круты паварот або цяжкі пад'ём — Пяхцецкі вопрамеццю кінецца праз усю паравозную будку да акенца памочніка, каб паглядзець на амаль голых жанчын, якія, разваліўшыся на мяккай маладой траве, загаралі на ўзбочыне чыгункі.

— Ц-а! Цах! Цымус! — цмокаў ад задавальнення стары машыніст і круціў галавой.

— Маладосць — прыгажосць!

Твар яго святлеў, вочы загараліся, а сам ён увесь неяк распрамляўся, нібы скінуўшы з плячэй цяжкую ношу, і, здавалася, у гэтую хвіліну маладзеў.

— Во, каб вам такую? Га, дзядзька Кастусь?

— Чаго?

— Каб вам такую жонку, кажу,— гаварыў яму Васіль Пацяруха.

— Мне такую жонку? Не-а! Хай маладым быў бы, а на такой не жаніўся б. Мая Марыля, братка ты мой, лепшая была. Страйнейшая.

І Пяхцецкі павольна сунуўся на сваё месца, браўся за рэверс.

— Ну, ты, дзядзька, надта не хваліся,— распякаў яго Васіль.— Дапусцім, Марылю тваю я ведаю. Худзюшчая, як нішчымная пятніца.

— Ды што ты ведаеш, цурбан!..— злаваўся стары.— Паглядзеў бы ты на яе, як дзяўчынай была.— І, пацішыўшы голас, гаварыў: — А цяпер, ведама, схварэла, пастарэла.

Далей ужо ехалі моўчкі. Кожны быў заняты сваім. Памочнік сачыў за ўзроўнем вады ў катле, ціскам пары, а я падмятаў будку пасля кожнай засыпкі паліва ў топку, паліваў вадой «вугалёк».

Не ведаю, чым я патрапіў свайму машыністу, але адразу, пасля першага знаёмства, у мяне з ім склаліся добрыя адносіны. Ён заўсёды вельмі цёпла, па-прыяцельску, гутарыў са мною, з усёй шчырасцю расказваў і паказваў, што і як трэба рабіць, каб шмат часу не патраціць і зрабіць добра. А ў гарачую хвіліну, калі запаруся надта, дзядзька Кастусь не грэбаваў качагарскай работай: прыходзіў і памагаў.

Мне было сорамна, што гэты стары, якому трэба ўжо даўно быць на пенсіі, памагае мне, маладому.

— Адпачніце лепей, дзядзька Кастусь,— гаварыў я.— І сам спраўлюся.

— Нічога, малы, нічога,— суцяшаў мяне ён.— Ведаю, што справішся. Але ж, так н-то яно, братка, удваіх весялей. Ты вось глядзі, як трэба.

Стары закасваў рукавы, асцярожна мачаў кончыкі* ў салярку і пачынаў выціраць самыя цяжкія, недаступныя месцы на паравозе.

— Што, дзядзька Кастусь, на земляка натрапіў? — высунуўшы галаву з паравознай будкі, усміхаўся Васіль Пацяруха.

— Ты б вот зубы не скаліў, а ўзяў бы кончыкі, ды тэндар працёр з свайго боку. От так-то яно,— сярдзіта бурчаў машыніст.

— Навошта? І так чысты,— адмахваўся Васіль і хаваўся ў будцы.

— От ужо гультай! Дыхнуць лішні раз лянуецца,— скардзіўся мне дзядзька Кастусь.— Вочы не глядзелі б на яго. А трываю...

Стары на момант пераставаў церці і, прытуліўшыся плячамі да паравознага кола, задуменна паглядаў некуды ўдалячынь і, уздыхаючы, гаварыў:

— За талент цярплю.

— Як за талент? — не разумеў я.

Стары ўсміхаўся і, нібы спахапіўшыся, таропка пачынаў праціраць насуха колы і тлумачыў мне:

— Гэта я так, па свайму разуменню. Але ж. Топку добра вядзе, халерны. Яно ж так: другі раз пападзе вугалёк зямля зямлёю. Ну, думаю, прапалі. А ён як пачне, як пачне... Пройдзе некалькі хвілін, глядзіш — стрэлка на манометры за чырвоную рыску перавальвае. А каб на цябе радзімец! Га! Гэта, брат ты мой, талент. От так-то яно! У паездцы за яго я не баюся. Ён табе, халера гэткая, і на саломе пары нагоніць. Толькі і бяды — лянуецца надта праціраць машыну.

Я моўчкі слухаў дзядзьку Кастуся і думаў, як хораша, калі ўмееш хоць што, але добра, па-майстэрску, рабіць. Табе тады і даруецца шмат чаго.

Я прытрымліваўся старой, але мудрай прыказкі: менш гаварыў і больш слухаў. Гэта, відаць, было да спадобы машыністу. Бо старыя, мусіць, усе любяць павучаць і, баронь божа, не любяць, каб ім пярэчылі. Прытым дзядзька Кастусь адразу сказаў мне:

— Будзеш старацца — брыгада паважаць будзе. А калі думаеш сачка даваць, дык лепш ідзі, цяпер жа ідзі, і прасіся на другі паравоз.

І я стараўся як умеў. Ніводнай хвіліны не сядзеў без работы. Знайду што-небудзь і корпаюся. То інструмент насуха пратру і складу акуратна, а то вінцікі выдраю да бляску. Ды хіба мала чаго знойдзецца на паравозе!..

* Кончыкамі паравознікі называюць ашмоцце для абціркі.



— Кінь, хлопча, усё не пераробіш. Так-то яно. Трэба тое-сёе і другім пакінуць.

Я канчаў работу і паслухмяна садзіўся на сваё «сядзенне» непадалёк ад памочніка.

На грузавых паравозах спецыяльнага сядзення для качагара не было. А таму качагары амаль на кожным паравозе карысталіся звычайна вядром. Накладзеш поўнае вядро кончыкаў або паклі, а калі малавата, дык пад ніз вугальку падсыплеш, і сядзенне — хоць куды! Вядома, не тое, што ў машыніста або памочніка — на пружынах, але і так няблага.

Васіль Пацяруха лютаваў ад зайздрасці, што я гэтак адразу здружыўся з машыністам.

— Землякі? — падабраўшы зручны момант, калі мы заставаліся з ім адзін на адзін, дапытваўся ён.

— Ды не. Што ты!..

— Кінь,— Васіль яхідна прыжмурваў свае шэрыя, зеленаватыя вочы.— Відаць, як і ён — беларус з-пад Варшавы?..

— Чаго-о? — крывіўся я.

— А таго. Ведаю. Абэрак нас, браткоў-беларусаў, не церпіць. Такі ўжо ён чалавек. Ты ж бачыш: і мяне, каб прымеў, дык з'еў бы.

Я ведаў, за што недалюбліваў дзядзька Кастусь Пацяруху. Але як сказаць яму пра гэта? Яму хоць кол на галаве чашы, а ён на сваім паставіць. І таму я прамаўчаў.

## IV

Першы месяц праездзіў з дзядзькам Кастусём ціха, мірна. Але потым, нібы чорт на яго ўссеўся. Ніяк дагадзіць не патраплю. Каб лаяў, дык не. Але і добрага слова не пачуеш. Як ні зробіш, дык усё нечага ваўком паглядае ды пакрыквае:

— Малы, вугалёк!

— Малы, парашочак!

— Малы, падлогу!

— Малы, вадзічку!

— Малы, ...!

— Малы, ...!!

— Малы, ...!!!!

І я стараўся рабіць усё так, што, здавалася, некуды было і камару нос падтачыць. Але стары машыніст знаходзіў, дзе і як падсунуць добрую шпільку, падкусіць мяне.

На паравозе ж гэтак: не паспееш зрабіць адно, як ужо трэба брацца за другое. Толькі падмяцеш падлогу, пакладзеш на латок для наступнай засыпкі вугаль — змачыць ужо трэба, каб лепш гарэў. А там, глядзіш, на пад'ём пайшлі — парашочак пенагасіцелю ўкінуць трэба.

Кідаешся, кідаешся вось гэтак, а потым махнеш на ўсё ды прысядзеш перадыхнуць якую хвіліну. Яно, канечне, глядзіш, як лаўчэй, каб усё ў парадку было.

Раней дык і сам дзядзька Кастусь павучаў:

— Ты ўжо, малы, залішне стараешся. Хуценька троху змёў — сеў, адпачыў. Вугалёк успрыснуў — зноў адпачні. А гэтак, братка ты мой, за паездку ў цябе спіна дубам стане. Так-то яно.

А цяпер не тое што прысесці, а забаўся — дык ого!.. Не ведаў, што ён так напусціўся на мяне... Ну, няхай правініўся чаго-небудзь,

дык скажы, аблай апошнімі словамі. Не пакрыўджуся. Бо хоць буду ведаць, за што лаялі. А так...

Я перабіраў у памяці ўсе свае ўчынкі, хацеў адшукаць тыя промахі, за якія мне прыходзіцца так дорага расплачвацца, і нічога такога не мог знайсці. Крыўда цяжкім, халодным каменем сціскала мае грудзі, душыла горла. Я гатоў быў кінуцца з кулакамі на машыніста, патрабаваць ад яго тлумачэння — за што, за што ён гэтак здзекуецца з мяне?!

Мусіць, самае што ні ёсць пакутлівае, страшнае — гэта, калі ты адчуваеш, што цябе перастаюць паважаць. І яшчэ страшней, калі не ведаеш, за што...

Канечне, на паравозе я — апошняя затычка, самы што ні ёсць паравозны падмятайла. Але ж я — чалавек, і хачу, каб мяне лічылі чалавекам...

## V

А пачалося ўсё гэта пасля таго, як я «замачыў» з Васілём Пацярухай сваю першую палучку. Не быў упэўнены, што сапраўды за гэта разгневаўся на мяне машыніст, але другіх прычын, здавалася, не было.

Ужо за тыдзень да палучкі Васіль прэтрубіў мне вушы, што па нейкаму няпісанаму закону я павінен брыгадзе паставіць бутэльку каньяку.

Павінен дык павінен. Якраз так трапіла, што ў той дзень, калі давалі грошы, наш паравоз стаяў на прамыўцы катла. А мы, усімі трыма брыгадамі, рабілі прафілактычны рамонт.

Атрымалі грошы. А калі закончылі работу, Васіль бесцырымонна напомніў мне:

— Малы, шморгай на горку!

«На горку» — азначала збегаць у гастраном.

Я паказаў яму на свае чорныя, замурзаныя рукі, маўляў, дай хоць памыюся.

— Шморгай, шморгай! Потым...

— Куды гэта ты яго гоніш? — здзіўлена спытаўся дзядзька Кастусь.

— А як, дзядзька Кастусь? Паравоз замачыць трэба, каб шпарчэй бегаў. Ды і ў малога першая...

— Першая, першая,— стары нездаволена крактануў, сярдзіта паглядзеў на мяне, штосьці прабурчаў сабе пад нос, потым махнуў рукою і нечага палез у будку.

Я з большага абмыў саляркай рукі і, як казаў Васіль, шмаргануў на горку.

Калі вярнуўся з гастранома, апрача Васіля нікога з паравознікаў не было.

— А дзе дзядзька Кастусь? — пацікавіўся я.

Васіль гідліва скрывіў твар:

— Не ведаеш Абэрка?! Адмовіўся. Некалі яму... А чаго некалі? Бацян паедзе толькі ў дзве гадзіны ночы. Разумець трэба, паравоз з-пад прамыўкі — са зборным, значыць... Гэта ён пратаўхаецца суткі, а то паўтара. Потым Касцяровіч. Яшчэ адкінь паўсутак. І нам выпадае ўжо недзе аж на трэція суткі. А яму, бач ты, некалі.— Пацяруха развёў рукамі і, памаўчаўшы троху, з'едліва сказаў: — Ён жа такі — на чужое не пойдзе, але і свайго не перакіне. На гэта ў яго во...— Васіль пастукаў костачкамі пальцаў па тоўстай мураванай сцяне,— цвёрда!

Для мяне гэта было нечаканасцю. «Што рабіць?» — думаў я: распіваць гэтую няшчасную бутэльку з Васілём Пацярухай не хацелася. Ну, сапраўды, што ён за такая шышка? Іншая справа, калі б усёй брыгадай. Лаўчэй неяк. Нібы ўсёй сям'ёй. А то радасці мне: напаю Васіля Пацяруху! Што ён мне — брат ці сват? Колькі ездзілі, дык ён сычом пазіраў ды пасмейваўся з нашай дружбы з машыністам. І цяпер недзе ў душы аж заходзіцца, смяецца, што на прастачка натрапіў: вып'е на дармавізну...

— Ну, дык пайшлі, ці што?..— Васіль падштурхнуў мяне плячом і першы пашыбаваў у сталоўку, якая была непадалёк ад майстэрняў. Я неахвотна паплёўся за ім.

## VI

У той вечар мы не абышліся адной бутэлькай. Пачалі ў сталоўцы, а закончылі ў рэстаране. Бо Васілю, як потым выявілася, дай толькі панюхаць, а потым будзе піць, як за сябе ліць. І дзе толькі яно ў яго дзяецца. З выгляду, здаецца, і хлопец незавідны, худзенькі, маленькі. А гэтак жлукціць!..

Пакуль не распілі маю бутэльку, маўчалі. Пачыналі было гаварыць, але гаворка чамусьці не клеілася. Ды якая магла быць тут гаворка, калі, як казаў Васіль, дрыжыш за гэтую кроплю, каб хто не заўважыў.

Міліцыянер дык так і шныпарыць па сталоўцы, выглядае ўсё. Ледзь што — адразу турыць прэч.

Васіль з аглядкай разліў пад сталом у шклянкі, потым локцем штурхануў мяне пад бок, маўляў, бяры, і ціха прагаварыў:

— Ну, паехалі...

Ён адным дыхам перакуліў шклянку каньяку і, ужо ўплятаючы закусь, пачаў скардзіцца:

— Вось дык жытуха настала: зарobiш якіх дзве сотні і не ведаеш, як іх прапіць... Так сказаць, пад аховай міліцыі...

Васіль усміхнуўся, а потым задуменна прыжмурыў свае зеленаватыя вочы, загаварыў:

— Ты думаеш, ад гэтага меней піць пачалі? Куды там! П'юць, як і пілі. Толькі па-сабачаму неяк. Крадком...

Я моўчкі слухаў Васіля і з жахам пагладаў на сваю, яшчэ некранутую шклянку. Васіль заўважыў гэта, разззлаваўся:

— Ты што ўсё молішся на яе? Не ў рэстаране ж, мусіць...

— Страшна неяк,— прызнаўся я.

— Першая заўсёды туга. А другая ўжо лягчэй пойдзе. А ты, не дыхаўшы, хоп — і гатова!..

Я заціснуў нос пальцамі і хуценька выпіў. Мяне спачатку неяк усяго скаланула, я зморшчыўся і заплюшчыў вочы.

— На от, хутчэй закусвай,— Васіль падаў мне на відэльцы скрылёк кілбасы і кавалак хлеба.

Я пачаў закусваць.

— Нешта не пайшла яна мне сёння,— апраўдваўся я.

— Памаўчы лепей,— фанабэрыста адказаў Васіль.— Бачу, які з цябе піток...

Васіль казаў праўду. Я выпіваў рэдка, пры выпадку якога свята, ды і патроху. І мне неяк стала сорамна за сябе.

— Ты думаеш!..— узгарэўся я.— Вып'ю не менш за цябе!..

Не, гэта гаварыў не я, а каньяк, які цёплай плынню разліўся па ўсім маім целе і неяк адразу ўдарыў у галаву. Перад вачамі залёталі матылькі, і ўсё перада мной паплыло, як у тумане, і страшэнна захацелася есці. І я еў з такім апетытам, што Васіль толькі паглядаў на мяне ды моўчкі ўсміхаўся.

Потым ён прынёс поўную талерку парэзанай скрылямі кілбасы і два сподачкі вінегрэту.

— Пасядзі трохі, я зараз,— сказаў ён і пайшоў са сталоўкі.

Хвілін праз некалькі вярнуўся.

— Бачыш? — падміргнуў ён і, адтапырыўшы кішэню, паказаў горлачка бутэлькі.

— Навошта? Сёння я частую,— крыкнуў я і стукнуў кулаком па стале.

— Ціха, ціха, малы,— пачаў супакойваць мяне Васіль.

Але ў гэты час падышоў міліцыянер і вытурыў нас за дзверы. Бутэлька засталася ў Васілёвай кішэні, а закусь — на стале ў сталоўцы.

— Вось бачыш, што ты нарабіў? — лаяўся Пацяруха.— Яно хоць і там не па-людску, але тут і таго горш. Прыйдзецца дзе-небудзь за вуглом, як сабакам. Ды нават і шклянкі нямашака. А пакрыўдзіўся ты дарэмна, брат,— памаўчаўшы трохі, зноў загаварыў Васіль Пацяруха.— Хіба ты не ведаеш звычаю паравознікаў? Калі я з табой склаў кампанію, замачваем, так сказаць, тваю першую палучку, гэта не значыць, што я сёння павінен піць за твой кошт. Ты паставіў першую — дзякуй. Цяпер я стаўлю. Паравознік на чужое не зарыцца. Такі закон. Ты думаеш, чаго Абэрак не пайшоў з намі? А таму, што і яму трэба было раскашэліцца, бутэлечку паставіць. Вось яно адкуль. Ты яшчэ не ведаеш яго. Пачакай, я яшчэ раскажу табе.

Раптам Васіль спыніўся і рэзка павярнуўся да мяне:

— Слухай. А што, калі ў рэстаран, га? Грамаў па сто закажам, а потым перальем з бутэлькі ў графінчык і будзем гаманіць паціхеньку.

Я згодзен і ў рэстаран. Цяпер мяне хоць на край свету завесці можна. І мы бярэм кірунак да аэрапорта. Піць, есці мне больш не хочацца, але я іду, як на прывязі. Іду за Васілём Пацярухай. Васіль расказвае пра дзядзьку Кастуся, і я слухаю: цікава.

— Пражыве чалавек і век смаку не пачуе. Ну, што гэта за жыццё! Удвух. Дзяцей нямашака. Барахла рознага — нам з табой на ўсё жыццё хапіла б. Што больш трэба чалавеку? Пі ды гуляй. Бо памрэ— каму пакіне ўсё гэта? Цяперака дом гэты. Ужо, мусіць, гадоў дзесяць будуе. Адгрохаў такую камяніцу — міла-дорага. Садзік высадзіў. Пажыў трохі — давай прыбудоўку ляпіць, потым другую. Цяпер ужо трэцюю лепіць. Навошта ўсё гэта? Сам ссох і жонку высушыў. Усё капейкі лічыць. На пенсію трэба было, дык не пайшоў, папрасіўся.

Вось ужо недзе наікаўся небарака дзядзька Кастусь... Гаварылі мы аб ім дарогай у рэстаран і нават у рэстаране. Васіль, здавалася ўжо мне, не такі дрэнны хлопец. А тое, што не слухаецца Абэрка, дык гэта, як ён прызнаўся мне, проста рашыў патузаць трохі нервы старому.

Колькі мы былі ў рэстаране — не памятаю. Не памятаю, як я апынуўся дома.

## VII

Выклікалі нас у паездку, як і казаў Васіль, толькі на трэція суткі пад вечар. Калі я зайшоў у «брахалаўку», Васіль ужо быў там. Сустрэў ён мяне, як ніколі, ветліва, нават першы падаў руку — па-заліхвацку падміргнуў:





— Ну, як, стары — учора не лячыўся?

— Не, так адмучыўся,— з неахвотай адказаў я.

— А я ўчора яшчэ крышку наддаў. У-ух..— Васіль заплюшчыў вочы і трасянуў галавой, потым пацёр далоняй лоб: — Трашчыць, халерная!..

Васіль неяк дзіўна, з-пад ілба, паглядзеў мне ў вочы, нібы просячы спачування. Але я прамаўчаў.

— Да цябе хацеў заскочыць, ды не ведаў, дзе ты жывеш.

— А-а-а,— адмахнуўся я. Мне чамусьці не хацелася гаварыць аб той, ліха на яе, «папойцы», ад якой ніяк не мог ачуняць. Ды яшчэ мне было вельмі сорамна за ўсе свае пазаўчарашнія ўчынкі. Сорамна было, што я, як заўзяты п'яніца, бряндаў па сталоўках і рэстаранах, а яшчэ больш, што так набраўся, як самае што ні ёсць апошняе быдла.

— Пяхцецкі яшчэ не прыйшоў? — паспяшыў я перавесці гамонку на другую тэму.

— Прыйшоў. Недзе тут ходзіць.

— Пайшлі, падыхаем,— прапанаваў я, і мы выйшлі з «брахалаўкі», селі на лавачку.

Чырванаватае, ужо крыху памерклае сонейка павісла на даху воданапорнай вежы, але было яшчэ горача і душна, як у натопленай лазні. Па небе там-сям былі раскіданы бялёсыя копкі-воблакі. Вецер, нібы крадучыся да некага, прытаіўся за саставамі таварных вагонаў і, здавалася, чакаў зручнага моманту, каб хуценька праскочыць праз пуці і прытаіцца дзе-небудзь за дамамі. Пахла гаркавата-кіслым паравозным дымам і цёплай, церпкай парай мазуты. Сапуць паравозы, выпускаючы слупы дажджавога туману, гудуць прарэзліва, патрабавальна просячыся прапусціць іх на запраўку.

Гэтулькі машын, а пуцей колькі! Метраў на трыста-чатырыста ўшырыню скавана зямля металам. Паспрабуй, разбярыся, каго на які пуць пусціць. А ўсім некалі, усе спяшаюцца. У думках я спрабую паставіць сябе на месца дыспетчара і моршчу лоб: не, мусіць, не справіўся б...

У гэты час з боку склада паліва данёсся мяккі свісток паравоза.

— Гэта наш,— гаворыць Васіль Пацяруха.— Збегай, спытайся.

Я моўчкі падняўся з лавачкі і пайшоў да дзяжурнага па дэпо. У дзвярах спаткаўся з дзядзькам Кастусём.

— Добры вечар, дзядзька Кастусь!..— узрадавана прывітаўся я: за месяц я гэтак прывык да яго, што, калі давядзецца не пабачыцца

якія суткі, дык месца сабе не знаходзіў, сумаваў па ім. Дзядзька Кастусь, відаць, адчуваў гэта і дарыў мне сваю старэчую, скупую ласку. Але на гэты раз старога нібы падмянілі.

— Добры вечар,— абыякава прагаварыў ён і ўпершыню не падаў мне рукі.— А дзе той... Пацяруха?

— На двары,— разгублена адказаў я.

— То пайшлі машыну прымаць.

На двары далучыўся Васіль, і мы пайшлі на склад.

## VIII

З кожным днём ён адносіўся да мяне ўсё халадней і халадней. А потым і зусім перастаў заўважаць мяне, толькі па прывычцы пакрыкваў у час паездкі:

— Вугалёк!

— Парашок!

Я пачаў ужо звыкацца з тым, што так няўдала закончылася мая дружба з машыністам. Трымаўся Васіля. Хаця пасля таго ўжо больш з Васілём не выпіваў. Адмаўляўся, спасылаўся, што заняты.

Васіль Пацяруха, здавалася мне, быў неблагі хлопец. Асабліва вырас ён у маіх вачах пасля той выпіўкі. Не, мне шмат што не падабалася ў яго характары, у поглядах на жыццё, але тое, што ён не застаўся перада мной у даўгу, паставіў сваю бутэльку, вельмі падкупіла мяне. «Сумленны хлопец,— думаў я аб ім.— Бачыш, на чужое не зарыцца...» Пасля таго я шмат даравяў яму, чаго раней не мог дараваць.

Ды і сам Васіль пачаў лепш адносіцца да мяне. Нават з'явілася ў нас, як цяпер прынята гаварыць, нейкая ўзаемавыручка. Ледзь запаруся трохі, Васіль тут жа возьме кончыкі і пачне памагаць мне выціраць паравоз ці так за якую работу прымецца. А я ў сваю чаргу «загрызую» * дышлы або ў топку падкіну. Карацей кажучы, пачалі неяк трымацца адзін аднаго. Здавалася, пачынала завязвацца дружба.

Праўда, не ведаю чаму, але ў нашай дружбе была нейкая незразумелая нацягнутасць, якая насцярожвала, стрымлівала наша збліжэнне. Гэта, можа, таму, што, не гледзячы на яго адчужэнне да мяне, я ўсё яшчэ па-ранейшаму паважаў і нават, здавалася мне, любіў гэтага панурага, сярдзітага дзядзьку Кастуся. Не ведаю чаму, але любіў. У яго характары было нешта такое, што палохала і ў той жа час вабіла сваёй незразумелай таямнічасцю.

А Васіль?.. Не, не мог я раскрыць перад ім сваю душу. А чаму — я зразумеў крыху пазней.

## IX

Неяк аднойчы на канечнай станцыі нашу брыгаду адправілі на адпачынак. Што гаварыць, такое бывае з паравознікамі часта. Едзеш у паездкі і не ведаеш, калі дамоў вернешся. Гэта ўжо — як выпадзе.

Іншы раз за якіх-небудзь дзесяць-дванаццаць гадзін управішся. Прыедзеш на канечную станцыю, адчэпішся, заскочыш у дэпо, вадзічкай заправішся, запасешся палівам — перакусіць не паспееш, а тут ужо пад цягнік выпраўляюць, і — будзь здароў — назад паехаў.

А іншы раз суткамі пратрымаюць у дарозе. І яшчэ добра, калі цягнікам назад вернешся. А то будзеш сядзець, сядзець, ды і рэзервам выправяць. Гэткая служба ў паравозніка.

* Грызь — густая спрасаваная мазь, якой змазваюць дышлы паравоза.



Але я тут пра другое хачу расказаць.

Памятаю, толькі гэта мы запасліся палівам і яшчэ не паспелі пачысціць топку, як прыходзіць дзяжурны машыніст.

— Здавайце, хлопцы, машыну. Бай-бай кладуць.

Ну што ж, калі бай-бай, дык бай-бай. Ніхто пярэчыць не стане. Паравознік прывык да дысцыпліны. Мы закрылі скрыні з інструментам на замкі, перадалі паравоз дзяжурнаму машыністу і пашыбавалі: я з Васілём у сталоўку, а дзядзька Кастусь — да дзяжурнага па дэпо. Трэба ж ведаць хоць прыблізна, на колькі часу кладуць спаць. Калі якіх гадзіны на чатыры, дык можна паваляцца на «гвардзейскіх» канапах так, як быў — мурзаты, не распранаючыся. А калі даўжэй, тады другое. Сходзіш у душ, памыешся, табе дадуць чыстую бялізну і — калі ласка: адпачывай на здароўе на белай духмянай пасцелі, не бойся, што праспіш. Трэба будзе — пабудзяць.

А гэта было штосьці гадзіны ў дзве ночы. Чаму б і не паспаць.

Калі мы зайшлі ў сталоўку, у кутку за сталом сядзела трое незнаёмых паравознікаў. Відаць, з другога дэпо. Яны паелі ўжо і цяпер смакавалі піва. Пухлая, паўнагрудая буфетчыца драмала каля бочкі на крэсле.

— Возьмем па кварце, га? — Васіль кіўнуў галавой на бочку з півам.— Спаць жа будзем.

— Давай,— без усякага энтузіязму адказаў я.

Пакуль я насіў на сталы першае ды другое, Васіль паспеў разбудзіць буфетчыцу, нагаварыць ёй кораб прыемных слоў, ад якіх яна так і цвіла, прытворна саромеючыся і какетліва адмахваючыся рукамі. І калі я справіўся, ён ужо сядзеў за сталом з поўнымі куфлямі піва.

— Поўны ажур,— пахваліўся Васіль, і мы сталі есці.

Паабедалі і падышлі да буфетчыцы, каб расплаціцца.

— Па рублю з вас,— сказала буфетчыца і неяк спадылба стрэльнула вачамі на Васіля. Мне здавалася, што гэта вельмі нядобра, калі маладзіца гэтак ліслівa паглядае на незнаёмага мужчыну.

«Вярціхвостка нейкая»,— падумаў я і палез у кішэню па грошы. Але што гэта такое? Памацаў у адной кішэні,— няма, у другой — таксама, у трэцяй — зноў няма. Я павыварочваў усе кішэні, але грошай не было.

— Ты што там калупаешся? — спытаўся Васіль.

— Ды вось,— разгублена адказаў я,— забыўся грошы ўзяць. Засталіся, відаць, там, у чыстым адзенні. А цяпер што і рабіць?

— Не ведаю, брат. Не ведаю,— і Пацяруха накіраваўся да выхаду.

— Васіль! — крыкнуў я. Той спыніўся.

— Васіль, у цябе ж грошы ёсць. Заплаці за мяне. А прыедзем, я табе адразу і аддам.

— О, не! У мяне ўсяго два рублі. Перад адпраўкай я павінен перакусіць? Павінен. А там, можа, зборным... Не!..— Васіль адмоўна пакруціў галавой.

— Дык як жа...

— Не ведаю, брат, не ведаю. Паравознік мне: без грошай у паездку едзе...— Васіль яхідна падміргнуў буфетчыцы.— У паравозніка, калі ён у паездцы, заўсёды трэба каб грошы былі. Рублёў пяць, а то і чырвонец. Тут табе ніхто не паможа. Закон. Мусіць жа не да цёшчы ў госці прыехаў...— і Васіль выйшаў са сталоўкі.

А я збянтэжаны стаяў перад буфетчыцай, ад сораму не ведаючы, куды дзець вочы.

— Ну, дык што будзем рабіць? — сумна прагаварыла буфетчыца.— Ідзіце. Прыедзеце другі раз — расплаціцеся. Праўда?

Але я стаяў, як укапаны. Такога ад Васіля я не чакаў.

— Праўда, я веру вам,— неяк лагодна сказала буфетчыца і шчыра ўсміхнулася.

— Ведаеце... мне неяк... няёмка,— блытана пачаў я.

— Што такое?..— за плячамі я пачуў голас дзядзькі Кастуся.

— Грошы забыўся. Паеў, а цяпер вось...

— Колькі табе?

— Рубель,— адказала за мяне буфетчыца.

— Вось якраз у мяне рубель.— Дзядзька Кастусь паклаў на столік рубель.— А я, брат, сёння сабоўку забыўся,— дзядзька Кастусь развёў рукамі.— Бывае. Так-то яно. Ну, пайшлі спаць.

— А вы што, не будзеце абедаць?— здзівіўся я.

— Рубель адзін, на два не размяняеш.

— Бярыце абед,— загаварыла буфетчыца.— Праўда, бярыце. А яму,— яна кіўнула на мяне,— яму на павер. Што тут такога? З кожным можа быць.

Мы маўчалі.

— Не, а вы бярыце, бярыце абед,— дабрадушна гаварыла буфетчыца.

Стары ўсміхнуўся, паскроб мезенцам свае густыя, ужо кранутыя сівізной, напушчаныя бровы.

— Дзякуй, дачка, дзякуй. Я ўжо дваццаць год не харчуюся ў сталоўках. І сёння не буду. Не хачу стаж губляць, даражэнькая. А за добрае слова — дзякуй.

І мы выйшлі са сталоўкі.

Была сярэдзіна верасня. Але надвор'е стаяла сухое, і ночы былі палетняму цёплыя. Неба, усеянае зоркамі, яшчэ нізка звісала над зямлёй. І толькі каля самага гарызонту шырокай салатавай стужкай яснела дзянніца. З гораду павяваў ціхі ветрык, даносіў водар спелай садавіны.

— Чуеш — яблыкамі пахне?

— Ыга,— адказваю я.

— Садоў тут, мусіць, многа.

Калі мы прыйшлі ў дом адпачынку паравозных брыгад, Васіль плёскаўся ўжо ў душы.

— Памыемся і мы, каб лягчэй спалася. Га? Бо адправяць нас няскора,— машыніст паглядзеў на мяне. У яго вачах свяцілася столькі дабраты і цёплай ласкі, што я нават сумеўся...

Я прывык ужо да яго суровых, панурых позіркаў. І толькі ўсё яшчэ не мог у душы пагадзіцца з тым, што дзядзька Кастусь мае нейкае права, каб мучыць мяне сваёй невыказанай незадаволенасцю. Так. Гэта было для мяне страшэннай пакутай: адчуваць, што табою незадаволены, а чаму — не ведаеш.

І раптам...

Здаецца, за апошні час я лепшы не стаў. Наадварот, збіраўся выказаць дзядзьку Кастусю сваю думку. Гэтая думка зарадзілася ў мяне даўно. Якраз з той пары, калі ён пачаў пакрыкваць на мяне. Але ўсё нешта не выпадала, ды і не адважваўся, баяўся чамусьці крыўдзіць яго. А сказаць яму пра гэта трэба было. Сказаць, што ён бяздушны эгаіст, тыран, стары зазнайка. Тое, што ён вопытны, талковы машыніст — гэта так. Але гэта не дае яму аніякага права, каб ён здзекаваўся з мяне так. Ды хіба толькі з мяне? У яго на год па дзесяць качагараў перабывала. І з дзесяці толькі адзін ужываўся з ім. О, ён бачыць





сябе толькі на Дошцы гонару, а тое, што пра яго гавораць людзі, ён не ведае, ды, відаць, і не цікавіцца. А я скажу. Скажу і перайду да другога машыніста працаваць. Хай хоць трошкі задумаецца. Бо надта нос задраў. І скажу яму пра гэта не таму, што хачу адпомсціць яму за яго здзекі, а таму, што люблю яго. І хачу бачыць лепшым, такім, якім ён паказаўся мне спачатку. Вось — з чаго толькі пачаць? Не будзеш жа так, ні з таго, ні з сяго, нібы з-за вугла: гаў! Вось ён цяпер стаіць

і любуецца сабой, які ён добры — сам галодны спаць кладзецца, а мне рубель аддаў. А то не ведае, што гэтым ён крыўдзіць чалавека.

А Васіль... Аб ім і гаварыць не хочацца.

## X

Вярнуліся мы з той паездкі гадзіне а дванаццатай дня. І ўжо калі памыліся, пераапрануліся ў чыстае, я дастаў грошы і падаў дзядзьку Кастусю.

Той узяў грошы, патрымаў трохі ў руках і паклаў у кішэню.

— Хадзем да мяне. Яблыкамі пачастую. Га?

Я аж вочы вылупіў ад здзіўлення. «Мусіць, штосьці задумаў»,— насцярожыўся я. Але дзядзька Кастусь падышоў да мяне і паклаў сваю цяжкую, гарачую руку на маё плячо:

— Ну дык як? Га? Паглядзіш, як жыву. Тут недалёка.

Шчыра кажучы, мне даўно хацелася пабачыць «Абэркаву гаспадарку», бо надта ўжо многа начуўся пра гэта розных плётак.

Дзядзька Кастусь сапраўды жыў непадалёк ад дэпо, усяго праз пуці. Вуліца так і гарэла ў свежых, здаровых барвах залатой восені. Шэрыя шыферныя дахі аднатыпных домікаў ледзь прасвечваліся праз густую засень высакарослых кучаравых дрэў.

Дзеці, што гулялі на вуліцы, яшчэ здалёк пазналі дзядзьку Кастуся і са шчаслівым крыкам кінуліся да яго насустрач. Але калі падбеглі бліжэй, разгледзелі мяне, незнаёмага ім чалавека, спыніліся і прыціхлі.

— Ну што, басота, змоўклі? — дзядзька Кастусь прыпыніўся каля іх.

Дзеці, насупіўшыся, пазіралі на нас з-пад ілба і маўчалі.

— Як жывем?

— Д-о-обра! — наперабой адказалі дзеці.

— Не біліся?

— Не-е-е!

— О, то добра, калі так.

— А я скажу, усё роўна скажу,— з гурту выйшла цыбатая дзяўчынка з вялкімі блакітнымі вачамі.

— Дзядзь, а вунь Пецька Бутырля развязаў мой банцік. От... — плаксіва, крыху гугнявячы, паскардзілася яна.

— Ай-я-яй, што ты кажаш?! — дзядзька нагнуўся над дзяўчынкай і злёгку пагладзіў яе па галоўцы. Потым распраміўся і з нейкай нязначнай строгасцю паззаў: — Пецька! Ідзі сюды!

З неахвотай і нешта мармычучы сабе пад нос, падышоў расчырванелы басаногі хлопчык з загарэлымі лыткамі.

— А я, дзядзька Кастусь,— пачаў апраўдвацца ён,— пацягнуў за кончык, а ён узяў ды развязаўся. А ты... — Пецька шыкнуў на дзяўчынку,— плакса... Чэснае слова, незнарок.

— Значыць, незнарок, кажаш. А можа, праўда, незнарок? Як вы думаеце, дзеці, га?

— Не-зна-рок! Канечне, не-зна-рок!

— Ну, дык што, даруем яму на першы раз?

— Даруем! Да-ру-е-ем!..— крычалі дзеці.

— Так і быць, даруем. Але глядзі, Пецька, другі раз не будзе табе яблыка. Ну, а цяпер гайда да мяне.

Дзеці зашумелі і пабеглі наперадзе нас.

— Ыш, блазнюкі,— дзядзька Кастусь крутнуў галавой.



Спыніліся дзеці каля вялікага аднапавярховага дома, густа абсаджанага дрэвамі. Усё гэта было абнесена высокай агароджай.

— Пачакайце, дзеці, я зараз.

Дзядзька Кастусь схадзіў у садзік і прынёс дзецям цэлы прыпол вялых, чарвівых яблыкаў-падалікаў. І раздаў іх дзецям.

— Дужа сыплюцца ў гэтым годзе,— нібы апраўдваючыся, сказаў мне.— А цяпер гуляйце, толькі не біцеся.

Дзеці, мусіць, толькі гэтага і чакалі. Яны хваліліся, каму дастаўся лепшы яблык, падскоквалі на адной назе, бегалі навыперадкі, і, здавалася, цяпер ужо ім дзядзька Кастусь быў непатрэбны.

«Ну і гнюп! — падумаў я: — Дзецям добрага яблыка шкадуе».

А ён пазіраў на іх з замілаваннем і ласкава ўсміхаўся.

— От блазнюкі! Народ! Самастойны народ! Пачакай, а чаго гэта мы, га? Хадзем у сад.

Стары расчыніў веснічкі і паказаў рукой:

— Заходзь! Не бойся — сабака прывязаны...

Толькі цяпер я заўважыў невялічкую шыльдачку на веснічках: «Асцярожна, злы сабака».

— У вас сабака ёсць?

— Трымаю. Ад гэтых блазнюкоў адбою няма. Ты думаеш, калі б не сабака, дык жэўжыкі гэтыя з дрэвамі ўсё павыносілі. А так пабойваюцца трохі.

Мы прайшлі праз вузкі, нібы калідор, двор і апынуліся ў густым, цяністым садзе. Бліжэй да двара былі грады, густа аплеценыя ўжо сухой агурковай націнай, з-пад якой павывернуліся, нібы парсюкі, і ляжалі тоўстыя, цёмна-карычневыя з жоўтымі палоскамі агуркі-насеннікі. Адразу ж за градкамі, пад дрэвамі — бульба. Каліўе бульбы было нейкае бледнае, тонкае і доўгае. Здавалася, што ўсе свае сілы бульба пакладае на тое, каб перарасці дрэвы і дацягнуцца да сонца.

— Тут у мяне і сад і агарод,— растлумачыў стары.— Усё ж трэба. Ну, ты пастой, а я назбіраю яблыкаў. Бо, калі баба заўважыць тут абодвух, шыпець будзе,—і ён, асцярожна пераступаючы барозны, падыбаў пад яблыні.

«Уласнік! — крутнуў галавой я і кісла ўсміхнуўся.— Баіцца, каб хто не наступіў на які корч, другі бульбы». Мне хацелася плюнуць на ўсё і пайсці далей ад Абэрка і яго гаспадаркі. Але стрымаўся. Дай, думаю, дагледжуся, што далей будзе.

Стары назбіраў поўны картузок яблыкаў і падышоў да мяне.

— На вось, паспытай,— і ён падаў мне картузок.

Я ўзяў два яблыкі і пачаў абціраць з іх зямлю.

— Бяры, усе бяры,— прасіў дзядзька Кастусь.— Ты не глядзі, што яны такія непрыгожыя, а смачныя. Ну, дык бяры...

— Дзякуй, дзядзька Кастусь. Я за яблыкамі не вельмі. Хіба толькі паспрабаваць. Дык і двух хопіць.

— Ну, то як хочаш,— стары незадаволена прабурчаў і пайшоў да вялікай кучы яблыкаў, якая была непадалёк ад нас, высыпаў туды картузок.

— Было б у гэтым годзе яблыкаў, ды от бяда — чарвяк глуміць, халера гэткая. Сыплюцца — ратунку няма,— зноў паскардзіўся ён.— А-а, нічога... — крыху памаўчаўшы, ажывіўся дзядзька Кастусь.— Што здам, капейка нейкая будзе, а што на сок ціснуць буду. Марыля мая віно добрае робіць. От хадзем у хату. Можа з работы прыйшла ўжо, дык віном пачастуе.

«Мусіць, гэтак, як ты яблыкамі»,— падумаў я і спытаўся:

— І жонка ваша працуе?

— А як жа. І яна... А што ж. Хоць і ёй: адной сумна. Я ўвесь час у паездках. А на людзях — яно весялей трохі. От так-то яно...

Памаўчалі.

— Ты глядзі,— па-дзіцячаму шчыра ўзрадаваўся стары: — Марыля прыйшла.

Я паглядзеў на двор. Там нейкая жанчына развешвала бялізну.

— Тады пайшлі, братка, пайшлі.

І мы выйшлі з саду.

— Прымай гасця, Мсціславаўна,— весела загаварыў дзядзька Кастусь.— Сына прывёў.

— Куды ўжо нам да сына,— уздыхнула кабета і неяк вінавата ўсміхнулася.

— Нічога,— стары падышоў да жонкі і паклаў на яе шчуплае плячо сваю руку.— Хутка ў нас будзе многа, вельмі многа дзетак. От такто яно.

Я падышоў бліжэй, і мы прывіталіся.

— Мой качагар,— сказаў стары.

— Алесь? Ён мне расказваў пра вас. Вельмі да душы вы прыйшліся яму. Ніяк не нахваліцца. Ён працавітых любіць.

— Куды там,— сарамліва запярэчыў я.— Нешта не атрымліваецца ў мяне. Як ні стараюся, дык...

— Гэта ўжо характар у яго такі. То ўсё бурчыць, а то зусім маўчаць будзе,— махнула на яго рукой Марыля Мсціславаўна.— Ды вы праходзьце ў хату. Зараз і я...

— Не, дзякуй. Я ўжо дамоў пайду,— разгублена адказаў я.

— Яшчэ што за навіны!.. Кастусь, ты чуеш?

Дзядзька Кастусь паціснуў плячамі.

— Не, праўда,— паспяшыў апраўдвацца я.— Я на некалькі хвілін заскочыў. І так ужо затрымаўся. Мне яшчэ ў адно месца паспець трэба.

— Мусіць, на спатканне?

— Ды не, што вы...

— Ну, то як хочаш,— спакойна прагаварыў дзядзька Кастусь.— А то б зайшлі, пагаманілі.

«Ну і Абэрак,— думаў я, ідучы дамоў.— Як крот зарыўся ў зямлю, адгарадзіўся ад людзей агароджай, будуе асабістае шчасце. Абэрак!» Толькі цяпер я па-сапраўднаму адчуў поўны сэнс гэтага слова. Раней я думаў, што яго дражнілі Абэркам за тое, што ён паляк. А цяпер гэтае слова для мяне стала нейкім другім, больш акрэсленым. «Абэрак». Гэтае слова ў маім уяўленні ўжо ніяк не вязалася з вясёлым, заліхвацкім польскім танцам. Яно малявала мне скнарага, нелюдзімага хутараніна, які грабе ўсё пад сябе і ўсё скардзіцца на сваю беднасць, на засуху і неўраджай.

## XI

— Праз год паступіў у інстытут і зволіўся з работы. Больш з дзядзькам Кастусём не сустракаўся,— закончыў я і паглядзеў на абходчыка.

— А як жа. Ай-я-яй!..— заківаў галавой.— Так больш і не сустракаліся?

— Гэта мая апошняя, калі можна так сказаць, з ім сустрэча.

— А як жа. Трэба ж.

Я паглядзеў на гадзіннік — трэба было ўжо спяшацца на цягнік.



— Ну што, закурым, бацька?

— Гэта можна, а як жа.

Стары ўзяў пачак у рукі, пакалупаўся трохі і моўчкі паклаў на месца.

— Дык чаго ж вы не курыце?..— пацікавіўся я.— Папярос ужо няма?

— Ды не. Ёсць трохі. Ды, мусіць, вам мала будзе.

— Бярыце, бацька, бярыце.

Мы закурылі. Курылі моўчкі. Кожны думаў пра сваё. Я разгарнуў газету, якую ўсё яшчэ трымаў у руках. Мне чамусьці шкада было развітвацца з ёю. Там, пад невялічкім фотапартрэтам дзядзькі Кастуся была змешчана скупая інфармацыя пра тое, што пенсіянер Канстанцін Францавіч Пяхцецкі перадаў свой дом з усёй маёмасцю пад дзіцячы сад.

Я глядзеў на фотаздымак, з якога, як жывы, паглядаў на мяне шчаслівы дзядзька Кастусь. Вочы яго былі прыжмураны ад радаснай усмешкі і нібы гаварылі: «От бачыш, Алесь... У мяне з Марыляй цяпер многа, вельмі многа дзетак. От так і яно!..»

— Бацька,— звярнуўся я да абходчыка,— дайце мне гэту газету.

— Бярыце,— добразвычліва адказаў ён.— Мне што, а вам — памяць. А як жа.

Мне захацелася аддзякаваць добраму старому, але не ведаў — чым. Я дастаў цэлы, яшчэ не распячатаны, пачак «Беламору» — рэшткі сваіх запасаў — і аддаў абходчыку.

— Курыце, бацька!

— От дзякуй, сынку. А як жа. От уважыў...

Я апрануўся, развітаўся з абходчыкам і пашыбаваў да паўстанка. На душы была такая радасць, што я не чуў зямлі пад нагамі, нібы ў газеце было напісана не пра дзядзьку Кастуся, а пра мяне. Раптам нейкая халодная туга скрабанула мне сэрца. Стала сорамна і балюча, што за гэткі час я ані разу не наведаўся да дзядзькі Кастуся. Які ён цяпер? Мусіць, пастарэў, паслабеў... Не, я сустрэнуся з дзядзькам Кастусём і абавязкова раскажу ўсё, што аб ім думаў.





Іван АРАБЕЙКА



# Верасень



Усё часцей, часцей са слівы
Лісце сыплецца ў гарод,
Гэта верасень маўклівы
Пералазіць цераз плот.

Нібы ходзіць качар хмельны,
Так гайдае сітнягі.
Ў росных ранках пачарнелі
Сонцам збітыя стагі.

Пройдзе плуг на ранку зябкім —
Ну і бульбіны ў раллі! —
Быццам тыя парасяткі
Слепа рыюцца ў зямлі.

Дзе барвовая асіна
Запаліла цэлы бор,
Ў паднябессі шнур гусіны
Цягне роздум за сабой.



Шнур танчэе, вось-вось лопне.
Так і ў марах аб вясне,
Як дрыготкае шматкроп'е,
Ён з'яўляцца будзе мне.

# Трактарысты



Ідуць праз ворыва дадому трактарысты,
Ідуць з усмешкай белай на зубах,
Нясуць у ботах пах, нібы ў каністрах,
Ды маслянае сонца на ілбах.

Вусаты колас хіліцца на грудзі.
Вось песня даняслася да дубоў.
Спяваць ад шчасця могуць толькі людзі,
Што узрасцілі бронзавы прыбой.

Крамяны вечар выйшаў на разоры,
І цішыня ўляглася у бары:
Яны з сабой забралі гул матораў,
Каб зноў у сне заводзіць трактары.





Героям не патрэбны словы ўзнёслыя,
Героям — ведаць мэту барацьбы.
Пад адзінокімі бярозамі і соснамі
Мне сэрца цісне горыччу журбы.

Мы здолелі са страшным рыпам кола
Гісторыі няўмольнай павярнуць...
Не думайце, што гэта выпадкова
Глядзіць сасна ў самоце на сасну.

Яшчэ не раз бязногім інвалідам
Прысніцца ў снах вясёлы кракавяк...
Мы цьмяна помнім час той страхавідны,
Мы па жыцці не пройдзем абы-як.

Жыццё зарана вывела ў дарослыя.
Мы вас заменім, паўшыя бацькі!
Пад адзінокімі бярозамі і соснамі
Употай я сціскаю кулакі.




ось і лета з прыпарам адвечным,
Аж смала віруе у стволах,
Касавіца стрыжанай авечкай
Пад высокім сонцам прылягла.

Авадні няміла джаляць спіны,
Нам прысесці некалі зусім:
Мы ў спякоту сена на жардзінах
Носім міма тоненькіх асін.

А стагі — чароды чарадзеяў —
Травамі духмяняць вышыню.
Мы выносім копы, аж пацеем,
Моцна ў мох ўціскаючы ступню.

Калі стане ціха-ціха ў лесе,
Так што ціш зазвоніць у вушах,
У сасну уп'ецца востры месяц
Сіняю сякерай Талаша.

Генадзь БУРАЎКІН



# Ідзе працэс


ФРГ судовы працэс...»
Судзяць нацыста.
Паблажліва судзяць...
А ў суседа майго,
за сцяною,
рыпіць пратэз
І кашаль разрывае грудзі.

Суддзі перабіраюць нацыстаў лёс,
У заслугі з павагай тыкаюць...
А ў майго суседа
туберкулёз
І пенсія —
не надта вялікая.

Нацыст здаравенны, вясёлы, прыбраны,
Як і раней,
бравы...
А ў суседа майго
незажылыя раны
І два салдацкія ордэны Славы.

Адвакаты ўгодліва гнуць спіну,
Палахлівыя сведкі згінаюцца следам...
Слухайце, пракурор!
Паклічце ў сведкі вайну.
Не можаце вайну —
паклічце
майго суседа.

Не бойцеся, ён дойдзе.
Ён з'явіцца ў суд,
Скажа ўсё,
не памыліцца.
Кроўю выхаркне ў твар нацысту прысуд
І замахнецца мыліцай.

Не можаце?
Баіцёся...
Ідзе працэс.
Судзяць нацыста.
Паблажліва судзяць...
А ў суседа майго,
за сцяною,
рыпіць пратэз
І кашаль разрывае грудзі...



*Семсот гадоў з дня нараджэння Дантэ АЛІГ'ЕРЫ (1265—1321)*

# ПЕРШЫ ПАЭТ НОВАГА ЧАСУ

Як чалавек і як творца Дантэ займае ў гісторыі сусветнай літаратуры асобае месца. Па словах Энгельса, ён — «апошні паэт сярэдневякоўя і, разам з тым, першы паэт новага часу».

У канцы дзевяностых гадоў XIII стагоддзя Дантэ выступіў як змагар за аб'яднанне ўсіх саслоўяў роднага горада, супраць папскай улады. Калі ў Фларэнцыі перамаглі чорныя гвельфы, яны завочна прысудзілі спаліць Дантэ на агні, а дом зраўняць з зямлёю.

Ратуючыся ад смерці, Дантэ стаў выгнаннікам. Але і ў выгнанні ён не адмовіўся ад актыўнага ўдзелу ў сучасным яму палітычным жыцці.

Дантэ піша трактаты па самых надзённых пытаннях часу: вядзе ў іх размову пра манархічныя формы кіравання і пра патрыятычныя погляды італьянцаў, разглядае пытанні літаратуры і мовы. Трактат «Аб народнай мове» — адзін з самых глыбокіх філасофскіх лінгвістычных твораў еўрапейскага сярэдневякоўя.

Творы Дантэ звярнулі на сябе ўвагу сучаснікаў. Пра яго загаварылі не толькі і не столькі як пра пачынаючага лірыка са школы так званага «новага слодычнага стылю», але як пра вялікага, глыбока самабытнага паэта-мысліцеля. Яго кніга «Новае жыццё» ўразіла сучаснікаў натуральнасцю і глыбінёю пачуццяў, шчырасцю натхнення. Гэта было першае ў еўрапейскай паэзіі сярэдневякоўя жывое адчуванне паэтычнасці чалавечых пачуццяў. І няхай сам аўтар пакутаваў і з заміраннем сэрца думаў пра іх «грэшнасць» — пачуцці былі выказаны з небывалай да гэтага сілаю.

Вяршыняй творчасці Дантэ была паэма «Камедыя», якую ўжо ў XIV стагоддзі з глыбокай павагаю назвалі «Боскай». У гэтым творы вялікі рускі крытык В. Р. Бялінскі бачыў самы поўны паказ жыцця сярэдніх вякоў з іх схаластычнай тэалогіяй.

Тлумачэнне паэмы — вельмі складаная і цяжкая рэч. Яшчэ Гегель іранізаваў над каментарыямі да яе, у якіх было больш намёкаў і сімвалаў, чым у самога Дантэ і яго сучаснікаў. Правіцелю Вяроны Канрандэ паэт тлумачыў, што твор гэты ў алегарычнай форме павінен паказаць чалавецтву шлях да выратавання і шчасця.

Вядомы італьянскі літаратуразнаўца Дэ Санкціс у шматгадовым і глыбокім даследаванні, прысвечаным «Боскай камедыі», прыйшоў да вываду, што аўтару ўдалося адлюстраваць жывы, вобразны паказ хрысціянска-палітычнага кола ідэй, бо так званы замагільны, або «іншы» свет у паэме ўжо не алегарычны «вобраз рэчаіснасці», а сама рэчаіснасць, не абстрактнае рэлігійнае паняцце, а нешта такое, што «спусцілася да рэальнасці і канкрэтызавалася як рэальнае жыццё».

Тэндэнцыйнасць, усхваляванасць Дантэ,— на гэтыя рысы, як на станоўчыя, указвалі яшчэ Маркс і Энгельс,— не можа быць схавана ні намаганнямі цэлай кафедры данталогіі Ватыкана, ні тымі літаратуразнаўцамі Захаду, якія пераносяць цэнтр цяжару паэмы на «заспакаенне страсцей» пасля блуканняў у «дрымучым лесе грахоў і заган». Бясспрэчна адно, што замагільны свет і «тое», «іншае» жыццё ў Дантэ цалкам палітызаваны. Дантэ малюе палітычныя страсці і характары, ён ацэньвае людзей не па адным толькі свяшчэнным пісанні.

Дантэ сімпатызуе дужым і цэласным натурам і з пагардай ставіцца да нікчэмных чалавечкаў. Абыякавых, раўнадушных паэт ганьбіць як «не жыўшых і таму не саграшыўшых». У працілегласць ім Дантэ ўзвялічвае тых, хто «гарыць жаданнем адведаць свету дальні кругагляд і ўсё, чым чалавек благі і чаго ён варты». Даючы парады пакаленню сучаснікаў, паэт усклікае: «Вы створаны не для жывёльнай долі, але закліканы да доблесці і ведаў».

Насуперак аскетызму, які панаваў у тыя часы, Дантэ сцвярджае, што «род чалавечы народжаны лётаць высока». Таму ён і захапляецца такімі характарамі, як Фарыната, Сардэла, Брунэта Лаціні, у якіх чыста чалавечыя страсці выяўляюць веліч і прывабнасць іх натур — ці будзе гэта схватка з праціўнікам у пераконаннях, смелая навуковая думка ці жывое сардэчнае пачуццё. Іменна таму характары, створаныя Дантэ, так моцна хвалявалі Пушкіна і Байрана, Чайкоўскага і Рахманінава.

Дантэ не быў атэістам. Рэлігійныя догмы мелі над ім уладу, але, разам з тым, паэт падымаецца да выкрыцця царкоўнікаў і царквы, да рэзкай крытыкі не бессаромнасці, яе карыслівасці. Грунтуючыся на выказваннях Ф. Буслаева, можна сказаць, што багаслоўе ў Дантэ такое ж народнае, як у Гуса, Скарыны або Лютара. І таму Дантэ смела выкрывае «з'яўленне ліхвяроў у храме», ганьбіць папскую ўладу. Ён не сароміцца ў сваёй паэме пасадзіць папу Мікалая III у вогненную яму, дзе той чакае прызначанага туды ж Баніфацыя VIII, які ў той час яшчэ сядзеў на папскім прастоле.

Не толькі ў крытыцы царквы, але і ў тым, што апісанне пекла больш жыццёвае і пластычнае, чым апісанне раю, выявілася дыялектыка адносін светапогляду паэта і яго мастацкага метаду. Тое, што выкрышталізавалася ў самой рэчаіснасці,— малюнкі фларэнтыйскага жыцця, мноства характэрных тыпаў,— вельмі пластычна, жывапісна пададзена і ў апісаннях дзевяці кругоў пекла. Тое ж, што заставалася абстрактна-разумовым уяўленнем пра райскую слодыч, не выйшла і ў паэта за межы эскізна-ўмоўных «малюнкаў настраёвасці». Гэта разумеў і сам Дантэ, калі пісаў: «Смяротнае мастацтва ідзе за прыродай, як і вучань яе, за пядзяй пядзь».

Дантэ напісаў грандыёзную паэму. Навейшыя даследчыкі паказваюць, што ў ёй адлюстравана не толькі заходняе, але і ўсходняе сярэдневякоўе, якія судакраналіся ў той час у Міжземнамор'і.

У кнізе Дантэ,— адзначае Дэ Санкціс,— было зведзена ў адно цэлае ўсё тое, што «рассцелена па ўсім сусвеце». Усё новыя пакаленні чытачоў зноў і зноў схіляюць галовы прад веліччу паэтычнага генія, які так многа сказаў чалавецтву нават тымі архаічнымі формамі сярэдневяковага пісьменства, у якіх рэалізавана паэма.

**Д. ФАКТАРОВІЧ.**

**Дантэ АЛІГ'ЕРЫ**

# БОСКАЯ КАМЕДЫЯ

## ПЕКЛА

### ПЕРАД АПРАМЕТНАЙ

З ПЕСНІ ТРЭЦЯЙ

«У пасяленні, выклятыя богам,
Дзе вечны скогат, енкі і праклён,
Вяду я вас, пякельная дарога.

Пракладчык мой быў небам баслаўлён,
І, праўдалюб, на страх усім зладзеям,
Назваў мяне дарогай праўды ён.

Спакон вякоў няспынная, ў хадзе я
Была і буду вечнасці раўня.
Ступіўшы на мяне, пакінь надзеі!»

Чытаю я, і хмарай варання
Мне надпіс мітусіцца. Баязліва
Шапчу: «Настаўнік, страх — мая радня»,

А ён, угаднік, у адказ мне кпліва:
«Тут трэба мець душу ў стальным адзенні,
А страху затаіцца палахліва.

Я абяцаў прывесці ў сутарэнні,
Дзе ўбачыш ты, як голымі ў смале
Кіпяць і смагнуць грэшныя стварэнні».

І, каб я крочыў побач з ім смялей,
З усмешкаю зірнуў мне хітра ў вочы,
Павёў мяне ў тайнік якісь далей.

А там, у цемрадзі біззорнай ночы,
У крык атрапянелы ўсё злілося,
І я адчуў: душа мая не хоча

Ні слухаць дзікіх стогнаў шматгалоссе,
Ні разнамоўных кленічаў, ні просьб.
Зайшлося, сціхла сэрца — і здалося,

Што, грудзі прапаліўшы ўсе наскрозь,
На вышчарблены брук, нібы на плаху,
Яно агаркам чмякнецца вось-вось.

І я спытаў, дранцвеючы ад страху:
«Чый гэта лямант гэтакі і крык?
За грэх які такія мукі праху?»

«За памяркоўнасць»,— буркнуў праваднік
І, бачачы, што мне не зразумела,
Дадаў з агідай: «Тут увесь гнайнік

Грамадства нашага жывога цела:
Славутая сярэдзінка бязмоўных,
Што з краю пры дабры і зле сядзела.

А, бачыш, побач, як пры братцах кроўных,
Двурушнікі анёлы з той іх масці,
Што на пагляд — нібы ён роўны з роўных,

А на паверцы боскай — нам на шчасце! —
Злавесны вышпегач — за грош утопіць.
Не знаць бы небу больш такой напасці.

Бог зразумеў, што́ гэта хеўра робіць,
І вымеў гэту поскудзь да астатку —
Няславы і знявагі небу хопіць!»

## НА СМЕРЦЬ БЕАТРЫЧЭ

### САНЕТ XXIV З КНІГІ «НОВАЕ ЖЫЦЦЁ»

Прыгнечаныя сумам пілігрымы —
Здарожаны, журботны цуг маўклівы,
Што вас вядзе пад нашыя алівы
За блізкі свет ад боскіх храмаў Рыма?
Чаму дарогі ўсе праходзяць міма
Яе магілы свежай, сіратлівай?
Няўжо спагаду гэтак запяклі вы,
Што раўнадушны твар, як маска грыма?
О, калі б вам хоць кроплю нашай страты,
Вы б зразумелі жаль ва ўсім вяліччы
І ўсе б заплакалі, як я, бядача.
Яна памерла, наша Беатрычэ!
Памерла не пры мне, бацьках і брату...
Тут толькі камень, камень не заплача.

Пераклаў з італьянскай мовы
Язэп СЕМЯЖОН.



*Да 60-годдзя з дня нараджэння*
*Міхаіла Аляксандравіча ШОЛАХАВА*

# ЯК СТЭПАВЫ АРОЛ...

Восенню 1922 года нікому не вядомы семнаццацігадовы юнак у салдацкім шыняліі шэрай казацкай папасе, якому не ўдалося паступіць на рабфак, прыйшоў на біржу працы горада Масквы і папрасіў работы. На пытанне пра спецыяльнасць адказаў: «Прадкамісар». Ніякай другой спецыяльнасці ў юнака не было, і пайшоў ён працаваць грузчыкам, потым — брукаваць вуліцы. Давялося жыць «на мізэрныя сродкі, якія давала часовая праца чорнарабочага», — так праз многа год напіша пра пачатак свайго працоўнага шляху Міхаіл Аляксандравіч Шолахаў.

Жыццёвы вопыт, набыты за гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, напружаныя заняткі па самаадукацыі і імкненне да літаратурнай працы прыводзяць будучага пісьменніка ў літаратурную групу «Маладая гвардыя», у якую тады ўваходзілі М. Святлоў, М. Галодны, В. Герасімава і частым госцем якой быў А. Фадзееў.

Ужо ў 1924 годзе імя Шолахава стала вядома многім. Яго апавяданні, што з'яўляліся ў друку адно за другім, прыцягнулі ўвагу буйнейшых пісьменнікаў таго часу. «Як стэпавая кветка, жывой плямай паўстаюць апавяданні т. Шолахава, — пісаў А. Серафімовіч. — Проста, ясна, і тое, што апавядае, адчуваеш... Усе даныя за тое, што т. Шолахаў разгортваецца ў каштоўнага пісьменніка».

Словы А. Серафімовіча сталі прарочымі. Міхаіл Шолахаў стаў класікам савецкай літаратуры, пісьменнікам, кнігі якога ведае ўвесь свет.

Яго жыццёвы шлях — гэта шлях, якім прайшлі многія савецкія пісьменнікі і паэты, гэта біяграфія пакалення, біяграфія рэвалюцыі.

Невыпадкова А. Фадзееў зазначыў: «Калі пасля заканчэння грамадзянскай вайны мы пачалі зыходзіцца з розных канцоў нашай неабсяжнай радзімы... мы здзіўляліся таму, наколькі агульныя нашы біяграфіі пры рознасці індывідуальнага лёсу. Такі быў шлях Фурманава... Такі быў шлях больш маладога і, можа быць, больш таленавітага сярод нас Шолахава... Мы прынеслі свой асабісты вопыт жыцця, сваю індывідуальнасць. Нас яднала адчуванне новага свету, як свайго, і любоў да яго».

Творчы шлях М. Шолахава мае сваім пачаткам верасень 1923 года, калі ў маскоўскай «Юношеской правде» быў надрукаван фельетон «Выпрабаванне» за подпісам «М. Шолах». Праз некаторы час у друку з'яўляюцца яшчэ два фельетоны («Тры» і «Рэвізор»), а ў 1924 годзе — апавяданні.

Першы зборнік Міхаіла Шолахава «Данскія апавяданні» азначаў нараджэнне новага таленту, які з надзвычайнай пранікнёнасцю паказаў харастве і багацце душы простага чалавека. Малады пісьменнік, пільна ўглядаю-



**Міхаіл Шолахаў, Сяргей Міхалкоў і Алім Кешокаў у дні работы Другога з'езду пісьменнікаў РСФСР.**

Фота **М. Трахмана.**

чыся ў суровую праўду рэчаіснасці, праўдзіва пераносіць на старонкі сваіх твораў побыт казацкіх хутароў, імкнецца раскрыць сацыяльныя ўзаемаадносіны людзей, ускрыць прычыны і сутнасць вялікай барацьбы паміж старым і новым, якая размяжоўвае не толькі багатых і бедных, хутары і станіцы, але і брата з братам, бацьку з сынам («Чарвяточына», «Радзімка»).

Шлях казацтва да праўды новага жыцця вельмі цяжкі, бо невымерна цяжкі быў груз сацыяльных забабонаў. Але пісьменнік бачыць пранікненне новых ідэй у асяроддзе казацтва, бачыць і тое, што за гэтыя новыя ідэі гатовы аддаць жыццё лепшыя сыны і дочкі Дона. З любоўю і сардэчнай цеплынёй малюе ён вобразы камсамольца Рыгора, які марыць вывучыцца, каб «па-вучонаму кіраваць нашай рэспублікай» («Пастух»); камандзіра эскадрона Міколы Кашавога, забітага родным бацькам («Радзімка»); кулямётчыка Шыбалкі («Шыбалкава насенне»). Глыбокую чалавечнасць, высакароднасць гэтых герояў супрацьстаўляе Шолахаў звярынай злосці рэакцыйнай часткі казацтва, якая дзеля ўласніцкіх інтарэсаў гатова пайсці на любую жорсткасць.

Вялікая, суровая праўда, якая захапіла чытачоў у ранніх апавяданнях М. Шолахава, шырокай плынню ўвайшла і ў яго эпічныя творы — «Ціхі Дон» і «Узнятую цаліну», раманы, у якіх пісьменнік з вялікай мастацкай сілай паказаў жыццё народа на складаных гістарычных паваротах.

Раманы М. Шолахава іменна таму і захапляюць чытача, што яны прасякнуты подыхам часу, жывым адчуваннем падзей, на фоне і ў гушчыні якіх вырашаецца лёс герояў. Мастацкімі дакументамі, па якіх можна вывучаць гісторыю рэвалюцыі, гісторыю савецкай улады, з'яўляюцца шолахаўскія раманы.



Ва ўсёй жыццёвай праўдзе перадае Шолахаў у «Ціхім Доне» страшную ўладу традыцый, якія часта кіравалі ўчынкамі і дзеяннямі людзей: п'яныя бойкі, нянавісць да «іншагародніх», выкліканую ўсведамленнем казачай «выключнасці», жорсткія расправы з «мужыкамі», звярыныя інстынкты, якія прышчапляў царскі ўрад казацтву на працягу стагоддзяў.

І тым большая заслуга пісьменніка, што ён здолеў паказаць, як па меры развіцця падзей асноўная маса казацтва рве путы саслоўных забабонаў, паўстае супраць іх, як у асяроддзі казакоў фарміруюцца свае арганізатары-камуністы, чые рэвалюцыйныя перакананні нараджаюцца і сталеюць у барацьбе са старымі традыцыямі.

Іван Аляксеевіч, Бунчук, Мішка Кашавы, Падцёлкаў і іншыя здолелі вырашыць для сябе тую жорсткую спрэчку, якую вёў сам з сабой Грыгорый Мелехаў, ды так і не знайшоў сілы вырашыць яе да канца. Іменна за імі, «сваімі бальшавікамі», пайшло працоўнае казацтва Дона.

Ва «Узнятай цаліне», напісанай па гарачых слядах гістарычных падзей пачатку 30-х гадоў, Шолахаў паказвае, што за гады Савецкай улады данское казацтва стала іншае, што яно цвёрда звязала свой лёс з савецкай уладай, камуністычнай партыяй.

Як і ў «Ціхім Доне», асноўны герой рамана — народ, які будуе новае жыццё, які заваяваў права на яго ў вайне і рэвалюцыі і цяпер змагаецца з тымі, хто спрабуе перашкодзіць яму ў гэтым вялікім будаўніцтве.

Гінуць ад варожай кулі верныя салдаты рэвалюцыі Давыдаў і Нагульнаў, бязмежная адданасць якіх справе народа памагае працоўнаму сялянству пераадолець цяжкасці на шляху да стварэння новага, сацыялістычнага ладу. Але ўвесь раман прасякнуты аўтарскай верай у перамогу рэвалюцыйных ідэй, перамогу той справы, за якую аддаюць жыццё лепшыя сыны народа.

Героі Шолахава са старонак кніг ступілі ў жыццё і сталі побач з намі. Пісьменнік прымусіў нас паверыць у іх і палюбіць, як жывых людзей. Ён прымусіў нас палюбіць і цудоўную данскую зямлю, раздольныя, шырокія стэпы з водарам палыну, у квецені траў, адчуць пах чарназёму і «абвеяных першай адлігай вішнёвых садоў».

Любоў да шырокага Дона, ціхіх куранёў, садоў і лявад, балак і буяракаў, расквечанага блакітнымі кветкамі стэпу — гэта любоў да людзей, да Радзімы.

Пісьменнік заканчваў другую частку «Узнятай цаліны», калі пачалася Вялікая Айчынная вайна... І, перапыняючы працу над кнігай (рукапіс яе загінуў у гады вайны), пісьменнік-камуніст М. Шолахаў скіроўвае сваё пяро на дапамогу агульнай справе — разгрому ворага.

З'яўляецца яго «Навука нянавісці» і раздзелы новага рамана, над якім ён працуе і цяпер — «Яны змагаліся за Радзіму». У друку тых навальнічных гадоў публікуюцца артыкулы ваеннага карэспандэнта М. Шолахава. Потым на матэрыяле сваіх ваенных назіранняў ён напіша апавяданне «Лёс чалавека», якое абляціць усе краіны свету.

Высокаму служэнню народу вучыць Шолахаў і маладых пісьменнікаў. Бацькоўскі клопат пра іх спалучаецца ў яго з самай суровай патрабавальнасцю. Выступаючы на трэцім з'ездзе пісьменнікаў Казахстана, ён вобразна параўнаў выхаванне літаратурнай змены з тым, як беркут навучае сваіх птушанят: «...узняўшы іх на крыло, ён не дае ім апусціцца, а прымушае набіраць вышыню і ганяе іх там да поўнай знямогі, вымушаючы ўзнімацца ўсё вышэй і вышэй...» Але Шолахаў не забывае тут жа нагадаць, што патрабавальнасць не выключае клопатаў і беражлівасці ў адносінах да маладых. «Беркут не ламае крыллеў сваім птушанятам, якія не ўмеюць ці баяцца ў першыя часы ўзняцца на належную вышыню. Наша крытыка не павінна і не мае права «ламаць крылы» пачынаючым пісьменнікам».

Ды і самі творы Міхаіла Шолахава — вялікая школа вучобы для маладых. Шолахаў — пісьменнік глыбока народны. І гэта праяўляецца як у тым, што ў цэнтры яго твораў — народ і яго лёс, так і ў самой форме гэтых тво-

раў. Моўнае майстэрства пісьменніка — працяг лепшых традыцый рускай класічнай літаратуры.

Рукапісы «Ціхага Дона», што, на жаль, захаваліся толькі часткова, сведчаць пра тое, як строга падыходзіць пісьменнік да слова, як старанна адбірае патрэбныя яму моўныя сродкі. «Слова, якое здабываецца пісьменнікам з нетраў магутнай рускай мовы, кожны раз павінна быць тым адзіным словам, якое беспамылкова знаходзіць шлях да сэрца чытача», — заўважае пісьменнік і робіць гэтае правіла сваім мастацкім крэда.

Творчасць Шолахава атрымала сусветнае прызнанне. Па словах венгерскага літаратара Петэра Вераша, яна памагае чытачам усіх народаў свету зразумець, як можна перамагчы ў сацыялістычнай рэвалюцыі.

Для замежнага чытача «Ціхі Дон» з'явіўся не толькі гісторыяй Грыгорыя Мелехава, не толькі гісторыяй жыцця рускай вёскі, але гісторыяй народа, які перамог у рэвалюцыі. Чытачы Індыі назвалі «Ціхі Дон» «першым раздзелам гісторыі, што пачалася Кастрычніцкай рэвалюцыяй». Кнігі Шолахава чытаюць у Чэхаславакіі і Іспаніі, у Румыніі і Францыі, Германіі і Турцыі, Швейцарыі і Італіі. Сенат Сен-Эндрускага ўніверсітэта прысвоіў Шолахаву ступень ганаровага доктара права, якая па шматгадовай традыцыі прысуджаецца раз у тры гады самаму выдатнаму пісьменніку свету. М. Шолахаў — першы рускі пісьменнік, які ўдастоены гэтага гонару пасля І. С. Тургенева.

Савецкі народ па заслугах ацаніў творчасць вялікага пісьменніка сучаснасці: Шолахаву прысуджана Ленінская прэмія за раман «Узнятая цаліна», а яшчэ раней Дзяржаўная прэмія — за раман «Ціхі Дон».

Усё сваё майстэрства, увесь талент і цеплыню свайго вялікага сэрца аддае М. Шолахаў свайму народу. «Усе мы, — гаварыў пісьменнік на XX з'ездзе КПСС, — кожны ў меру свайго таленту, глыбіннымі сродкамі мастацтва, пранікнёным мастацкім словам прапагандуем усепераможныя ідэі камунізма — найвялікшай надзеі чалавецтва... Мы, пісьменнікі... гатовы і надалей да апошняга нашага дыхання служыць сваім словам справе партыі Леніна і свята берагчы і ў жыцці, і ў літаратуры яе высакародныя інтарэсы».

Цяжка выказаць словамі вялікую, сардэчную любоў соцень тысяч чытачоў нашай краіны да М. Шолахава, пісьменніка-грамадзяніна, пісьменніка-камуніста. «Наш Міхаіл Аляксандравіч» — любоўна называюць яго землякі-казакі, і гэтыя словы з такой жа гордасцю паўтараюць чытачы ўсіх рэспублік Саюза Саветаў.

Добрага здароўя Вам, Міхаіл Аляксандравіч, новых творчых дасягненняў, новых кніг!

**Надзея МАЖЭЙКА.**




# З ГЛЫБІНЬ ПАМЯЦІ...



**Іван Стасевіч.**

Фота **А. Дзітлава.**

**22** чэрвеня свяціла яркае сонца. У небе — самалёты, самалёты... Ляцяць на Захад. Вёска яшчэ нічога не ведала. Толькі к вечару дайшло да нас страшнае слова — «вайна». Загаласілі жанчыны.

Назаўтра — провады. Па сцежцы праз жыта ідуць людзі. Спіны... Спіны... Сагнутыя спіны. Плач жанчын, дзяцей. Развітанне...

А потым праз вёску пацягнуліся раненыя. Ім памагалі, чым маглі: кармілі, давалі адзенне, прытулак, праводзілі да сваіх.

Першая сустрэча з ворагам. У вёску прыехаў атрад эсэсаўцаў. Усіх сагналі ў адно месца, расставілі кулямёты. Пачалі шукаць зброю, рабаваць. У мяне ў той час быў сямізарадны пісталет і дваццаць пяць патронаў, якія я схаваў, выдаўбаўшы ў шуле пры самай зямлі дзірку. Схованку маю не знайшлі.

Першае знаёмства з разведчыкамі атрада імя Кірава Аркадзем Кукліцкім і Міхаілам Валатковічам — смелымі хлопцамі-камсамольцамі.

Першае даручэнне. Праводзіў групу партызан атрада імя Кірава ў найбольш бяспечнае месца на шашы Масква — Варшава. Калі ад вялікай калоны немцаў адсталі тры машыны, камандзір узвода Бугроў (і да гэтага часу помню яго прозвішча) падаў каманду: «Агонь!» Сваімі вачыма бачыў, як падалі фашысты, як загарэліся машыны. Тады я ўпершыню зведаў радасць перамогі.

Другое даручэнне, якое вельмі часта ўспамінаю. Пайшоў я ў вёску Горкі, у нямецкі гарнізон. Трэба было разведаць, колькі там немцаў, у які бок павернуты амбразуры дотаў, як лепш атраду мінаваць небяспечныя месцы і г. д.

Калі я падышоў да варот гарнізона, насустрач мне з паласатай будкі выйшаў фашыст. Высокі, чырванатвары, у вялікіх падкаваных ботах. Падышоў да мяне, ускінуў вінтоўку, прыставіў мне да лба і стукае па ім дулам. А палец трымае на курку. «Карызан, кандыт!», — крычыць. Гэта значыць — партызан, бандыт. Я глядзеў на яго і маўчаў, апусціўшы сумку з яйкамі на зямлю. Нацешыўшыся сваёй выхадкай, ён зарагатаў і апусціў вінтоўку. Абшукаў мяне, нават разуцца прымусіў, забраў яйкі і адпусціў.

На ўсё жыццё я запомніў холад ствала фашысцкай вінтоўкі. Тады мне было 13 гадоў.

Неўзабаве пасля гэтага я папрасіў разведчыкаў Аркадзя і Міхаіла, каб узялі мяне з сабою. На адным кані верхам мы і паехалі ў атрад.

У атрадзе ў вольныя хвіліны я маляваў партызан ( малюнкі гэтыя загінулі ў часе блакады). Гэта было заўважана, і мне даручылі пры штабе атрада выпускаць газету, размалёўваць лістоўкі. Неўзабаве мяне пачалі ўсе зваць мастаком.



Малюнак да карціны.

Хацелася б многае расказаць пра гераічных бясстрашных людзей — партызан. Але на першы раз хоць бы некалькі эпізодаў з нашага жыцця, якія моцна заселі ў памяці.

У вёсцы Баравая немцы заспелі нашага разведчыка Міхаіла Валатковіча. Акружылі вёску. Мішаў конь стаяў на вуліцы — яго забілі адразу. Адстрэльваючыся, Міхаіл адыходзіў да лесу. Але і тут яго перанялі немцы.

Страляў ён да перадапошняга патрона. Апошні пакінуў сабе...

Фашысты не паверылі ў яго смерць. Яны падпалілі хлеў і кінулі туды мёртвага Міхаіла. І цяпер бачу яго абгарэлыя рукі з застыглымі, як пры стральбе сагнутымі пальцамі... Гэта запомнілася навечна. Міхаіл Валатковіч пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам баявога Чырвонага Сцягу.

Была ў нашым атрадзе Жана. Так звалі таварышы Марыю Раманенка. Самую маладую камсамолку. Камсорга атрада.

Стаю я аднойчы ноччу на пасту ў штабе атрада і чую: у зямлянцы плача Жана. Чаго яна?

Раніцаю нашаму атраду трэба было выступаць — наступалі вялікай сілай немцы. Непадалёку ўжо ішлі баі. Жана тады чакала дзіця, і яе муж, камандзір атрада, не хацеў, каб яна ішла ў бой. Таму яна ўвечары і плакала...

Калі атрад выступіў па трывозе, Жана таксама пайшла ў бой, але не разам з камандзірам, як заўсёды, а з другой ротай. І загінула. Фашысты здзекаваліся з яе мёртвай, пасеклі цела на часткі...

Дванаццаць партызан загінула тады ў баі.

Дарога сярод непраходнага лесу. Партызаны нясуць забітых таварышаў. «Вставай, страна огромная...» Спявалі ціха, аднэю душой. І, помніцца, песня моцна брала за сэрца.

Пахавалі мы сваіх таварышаў на партызанскіх могілках каля вёскі Застарычы па дарозе Асіповічы — Бабоўня.

Блакада. Ніколі не забуду мужнасці людзей у тыя дні.

Лес. Балота. Наперадзе — дарога. Па ёй павінны ісці фашысты. Трэба затрымаць ворага.

У адзін бок пагляджу, побач ляжаць Ян і Рома — чэхі, у той час мае сябры па зброі, пагляджу ў другі бок — там залёг Пугач са сваім станкачом.

Найвышэйшае напружанне. Усе напагатове. Па дарозе чуваць гул матораў. І вось метраў за 30—40 — прыпынак на скрыжаванні. Фашысты вылазяць з бранявіка. Ззаду іх — самаходныя «тыгры».

Пастаялі, паглядзелі, нічога не заўважылі і паехалі сваёй дарогай...

Павінен прызнацца, што перад «тыграмі» і самаходкамі наша група, зразумела, была бяссільная, але мы былі гатовы затрымаць ворага да таго часу, пакуль непадалёку, у лесе, пройдзе вялікая група людзей, што выбіраліся з блакады.

А людзі, людзі... Змораныя, параненыя, ідуць па балоце, па халоднай красавіцкай вадзе. Жанчыны, падлеткі... Ідуць асцярожна, моўчкі, каманда перадаецца шэптам.

Самы небяспечны момант — гэта прайсці дарогу Асіповічы — Бабоўня, якую захапілі немцы і расставілі пасты, на 300 метраў адзін ад другога. І ўсё ж нам удалося выйсці з акружэння.

Гэты эпізод лёг у аснову карціны «У беларускіх балотах».

Фашысты, дабраўшыся да пакінутых нашых лагераў, папалілі зямлянкі, зруйнавалі партызанскія магілы гусеніцамі «тыграў». І потым пісалі: «Партызаны капут». Але партызаны жылі і змагаліся, пускалі пад адхон эшалоны і цягнікі ворага.

...Чэрвень 1944. Радасная сустрэча непадалёку ад Грэска.

Быў яркі сонечны дзень. Мы з групай партызан вярталіся з баявога задання і раптам бачым — густы пыл на дарозе. Танкі! Нашы танкі! Мы закрычалі «ўра» і кінуліся да іх, але тут адкуль ні вазьміся нямецкія самалёты. І бомбы... бомбы...

Праз некалькі дзён атрад павінен быў з'яднацца з Чырвонай Арміяй. Мяне хацелі накіраваць у Сувораўскую школу, але мне захацелася дадому.

Вярнуўшыся ў вёску, з усёй радні застаў толькі старэйшую сястру Аляксандру, якая ў часе аблавы схавалася ў жыце, а бацьку ўзялі за сувязь з партызанамі, і ніхто пра яго нічога не ведаў.



Я развітаўся з сястрою і пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную Армію. Служыў у войсках Першага беларускага фронту. Калі ішло наступленне, дні і ночы пісаў указальныя знакі для вызваленых гарадоў і вёсак.

Брэст, Бяла-Падляска, Мінск-Мазавецкі, Седлец, Прага (прадмесце Варшавы), Варшава. Шэсць гадзін стаялі мы напагатове на беразе Віслы на той выпадак, калі будзе пашкоджана пераправа і трэба будзе яе адрамантаваць. Але фашыстам не ўдалося скінуць ніводнай бомбы на пераправу, па якой праходзілі нашы войскі.

Цераз шэсць гадзін мы атрымалі загад перапраўляцца на Варшаву. А неўзабаве я ўжо маляваў указальныя знакі: «Кутна», «Конін», «Ландсберг». Вось яна, праклятая Германія!

Ландсберг. Доўга ішлі тут баі, і вось, нарэшце, горад наш. Па ім ідуць і ідуць савецкія танкі, запыленыя, пракапцелыя дымам, абпаленыя агнём. Сакавік. Ідзе мокры снег, а на танках, прыціснуўшыся адзін да другога, сядзяць і стаяць салдаты — мурзатыя, аброслыя, у брудных шынялях. Мне запомніліся твары і чыстыя вочы людзей, якія ідуць у бой...

Кюстрын на Одэры. Прыгарады Берліна.

І вось указальны знак: «На Берлін».

Наступленне на Берлін. Калацілася зямля ад выбухаў тысяч гармат.

Пачаўся штурм Берліна. Указальнікі: «Фюрарштрасэ», «Гебельсштрасэ», «Потсдамштрасэ».

І злавеснае: «Брандэнбургскія вароты», а налева адразу — «Рэйхстаг». Мы — у самім рэйхстагу. Запомніліся чорныя сцены, крутыя лесвіцы і купал, над якім — чырвоны сцяг. Глядзеў я на ўсё, і неяк не верылася самому сабе, што прыйшоў канец фашызму, канец вайне. Каб засведчыць гэта, мы вырашылі пакінуць свае подпісы на сценках рэйхстага. Выбраўшы больш-менш гладкае месца, мы напісалі штыком на закуранай сцяне:

«Здесь были
Иванов Николай Матвеевич — Москва,
Бородин Михаил — Смоленск,
Стасевич Иван — Старо-Дорожский район».



Эцюд да карціны.

8-га мая. Настала цішыня. І павінен сказаць, дзіўна мы сябе адчувалі спачатку: ідзеш, ідзеш, ні стрэлу, ні выбухаў... Ціха, радасна на душы. І чамусьці сам сабе гаворыш: «Няўжо ўсё гэта не сон?»

9-га мая. На руінах Берліна, пад адкрытым небам, святкавалі Перамогу. На ўсё жыццё запомніліся словы салдат за ўрачыстым сталом:

«Кожны год мы будзем святкаваць Дзень Перамогі ў розных кутках нашай краіны. І заўсёды будзем помніць адзін другога і тых, хто аддаў сваё жыццё ў імя перамогі!»

Праз некалькі дзён пасля гэтага наша часць была накіравана ў горад Ванзее. На пачатку ліпеня мы вярнуліся ў Берлін. І калі пабывалі на экскурсіі ў рэйхстагу, то ўбачылі, што на ўсіх сценах, на столі — надпісы і надпісы... Кожны салдат, які пабываў у Берліне, пакінуў тут свой подпіс.

Мая новая карціна, над якой я цяпер працую, так і называецца «Год 1945-ы».

**Іван СТАСЕВІЧ.**

# ДАРАГІЯ МАЕ ГЕРОІ...

Толькі ўвечары, калі пасля чарговага артылерыйскага налёту ў руінах 9-й пагранзаставы не стала амаль ніводнай укрытай агнявой пазіцыі, начальнік заставы лейтэнант Андрэй Кіжаватаў загадаў сваім асноўным сілам абароны адысці ў казармы 333-га палка. Выходзілі па два-тры чалавекі, выносілі з руін забітых і параненых. Глыбокую варонку, што была ля самага выхаду з падвала, выслалі коўдрамі і апусцілі туды загінуўшых пагранічнікаў.

— Бывайце, дарагія сябры! Вы да канца выканалі свой абавязак. Мы клянёмся адпомсціць фашыстам за вашу смерць! Будзем змагацца да апошняга патрона, пакуль рукі трымаюць зброю, пакуль б'ецца наша сэрца...



Такі ён быў, Андрэй Кіжаватаў — начальнік пагранзаставы.

Гэтыя словы ўслед за Кіжаватавым паўтаралі байцы, услед за бацькам іх паўтарыла Нюра, моцна сціскаючы ў руках вінтоўку.

Хтосьці прапанаваў даць над магілай развітальны салют.

— Мы дадзім гэты салют па ворагу. Кожная наша куля павінна знішчаць фашысцкіх гадаў, — сказаў Андрэй Кіжаватаў.

Штаб абароны ўчастка 333-га стралковага палка размясціўся ў адным з падвалаў. Тут пры цьмяным святле газоўкі, зробленай з пустой гільзы артылерыйскага снарада, павялі размову А. Патапаў, А. Санін і А. Кіжаватаў. Кожны з іх разумеў, што дапамога сюды не прыйдзе.

— Трэба любой цаною абараняць крэпасць. Гэта наша родная зямля, тут наша дзяржаўная граніца, — сказаў лейтэнант Кіжаватаў.

Камандзіры падлічылі свае сілы і магчымасці.

— У нас ёсць паўмяшка гароху, — дакладваў лейтэнант Санін. — Падрыхтавана спецыяльная група, якая гэтай ноччу зробіць вылазку па ваду да Мухаўца і Буга.



— Нам патрэбны боепрыпасы. Гэта праблема нумар адзін. І яе нам трэба вырашыць неадкладна, — дадаў старшы лейтэнант Патапаў. — І неабходна яшчэ пасляць разведку да Цярэспальскай брамы.

— Мы сходзім...

— Праўда, таварыш старшы лейтэнант, разведаем! — раптам пачуліся дзіцячыя галасы.

З-за скрынак, што стаялі ў кутку, выйшла на святло газоўкі двое хлопчыкаў у вайсковым адзенні. Ім было гадоў па дванаццаць-трынаццаць.

— Адкуль тут дзеці? — здзіўлена запытаў Кіжаватаў.

— А мы не дзеці! — адазваўся адзін з іх, у якога па каленях біла кабура з пісталетам.

Патапаў усміхнуўся:

— Гэта мой сувязны Пеця Клыпа, а другі — Коля Новікаў. Выхаванцы палка. Такіх у нашай часці пяць. Пеця камандуе гэтай пяцёркай...

— Мы чырвонаармейцы, — перапыніўшы Патапава, загаварыў Пеця. — У нас і форма вайсковая, і да вайны поўны чарпак кашы нам давалі, як усім...

— І службу нам davяралі. Пеця гарністам палка быў. Сёння ён у атаку хадзіў...

— Ладна, усе хадзілі... — заўважыў Пеця Клыпа.

Выхаванцы палка пайшлі паказваць Кіжаватаву агнявыя пазіцыі абароны. З падвала ў падвал прабіраліся вобмацкам. Пеця Клыпа, нібы камандзір, прадстаўляў Кіжаватава:

— Таварышы байцы! Гэта — лейтэнант Кіжаватаў. Ён будзе памочнікам у нашага Патапава.

Чырвонаармейцы палка ведалі пра тую мужнасць, якую праявіў начальнік 9-й пагранічнай заставы і яго байцы. На Кіжаватава глядзелі з павагай. А лейтэнанта цікавіла, які сектар абстрэлу з таго ці іншага падвала, куды больш за ўсё насядаюць гітлераўцы.

Кіжаватаў расказаў пра подзвігі сваіх байцоў. Людзі, слухаючы расказы аб гераізме пагранічнікаў, забывалі пра стомленасць і смагу. Было адно жаданне — помсціць ворагу.

Кіжаватаў развітаўся з выхаванцамі палка і апусціўся ў падвал, дзе трымалі абарону пагранічнікі. Адгэтуль ён заўважыў дзяўчынку, якая бегла з таго боку, дзе былі фашысты. Яе адразу пазналі байцы і пачалі клікаць:

— Валя! Сюды!.. Сюды!..

Дзяўчынка дабегла да акенца падвала. Яе падхапілі на рукі. Гэта была дачка старшыны звыштэрміновай службы Івана Зенкіна — Валя, сяброўка Нюры Кіжаватавай.

Цэнтральныя вароты Брэсцкай крэпасці.

Дзяўчына расказала, як яна і маці разам з другімі жанчынамі і дзецьмі трапілі ў палон, як гітлераўскі афіцэр загадаў Валі ісці ў крэпасць і перадаць яе абаронцам ультыматум: здацца ў палон. Фашыст папярэдзіў Валю, што яе маці застаецца ў палоне, а дзяўчынка павінна вярнуцца назад і прынесці адказ савецкага камандавання.

— Тое, што ты ў нас бачыла і чула, Валя, забудзь, — сказаў Кіжаватаў. — Ворагі пра гэта не павінны ведаць. Ім ад нас перадай адно: мы не здадзімся, мы — савецкія воіны!

Валя адмовілася вярнуцца ў фашысцкі палон. Яна вырашыла застацца ў крэпасці, дзе днём загінуў яе бацька. Дзяўчынка разам з Нюрай пачала перавязваць параненых, падносіць боепрыпасы, збіраць на полі бою патроны.

Настала першая трывожная ноч абароны. Над крэпасцю павіслі варожыя бамбардзіроўшчыкі. Зноў на Цэнтральны востраў і Усходні форт пасыпаліся фугасныя бомбы, бочкі з бензінам і мазутам. Агонь і чорны дым зашугаў па крэпасці.

Як толькі сцямнела, абаронцы зрабілі вылазку да рэчкі. На беразе Мухаўца загінула два чырвонаармейцы, тры былі паранены. А да рукава Буга зусім нельга дабрацца — над вадой не гаснуць варожыя ракеты, увесь бераг прастрэльваецца.

Толькі позняй ноччу Кіжаватаў заглянуў у штаб абароны. Сюды за лейтэнантам амаль услед уляцелі Пеця Клыпа і Коля Новікаў. Яны наперабой дакладвалі:

— Знайшлі ўцалелы склад з боепрыпасамі. А на вежы фашысты сядзяць!..

Хлапчукі расказалі, як яны дабраліся да Цярэспальскай брамы, як былі абстраляны з вежы. Там сярод руін, шукаючы больш зручнае сховішча, яны натрапілі на нейкі лаз у падвал, дзе знаходзіцца склад з боепрыпасамі і зброяй, які ўсе лічылі знішчаным у першыя хвіліны варожага налёту.





Улетку 1956 года ў Брэсцкай крэпасці сабраліся ўдзельнікі яе абароны: Пятро Клыпа, Алесь Махнач, Апанас Барадзіч, Самвел Матэвасян, Міхаіл Гурэвіч. Разам з імі быў пісьменнік Сяргей Смірноў (чацвёрты справа), што ўславіў легендарны подзвіг герояў Брэста. За кнігу «Брэсцкая крэпасць» пісьменніку прысуджана сёлета Ленінская прэмія.

Камандзіры паслалі ў сховішча дзве групы байцоў. Адну з іх павёў Пеця Клыпа, другую — Коля Новікаў. Байцы дасталі з-пад руін шмат боепрыпасаў і зброі. Здабылі нават два станковыя кулямёты. Іх ачысцілі і адразу ўстанавілі на другім паверсе. Кулямётныя разлікі ўзялі пад прыцэл рукаў Буга, дзе фашысты пачалі наводзіць пантонны мост. Сюды накіравалі свой прыцэл нашы мінамёты і 76-міліметровая гармата.

Фашысты рыхтаваліся да апошняга штурму Цэнтральнага вострава. Яны разлічвалі, што асноўныя сілы абаронцаў цытадэлі знішчаны начнымі налётамі авіяцыі.

Крэпасць маўчала. Камандаванне абароны Цэнтральнага вострава вырашыла: знішчаць і тапіць ворага ў часе пераправы.

Пачало днець. На пантонны мост, які фашысты навялі ноччу, узышлі гітлераўскія танкі, а за імі — пяхота.

— Гармата і мінамёты! — падаў каманду Кіжаватаў. — Па фашысцкай пераправе — агонь!

Загаварылі байніцы і вокны кальцавой казармы. Пераправа гітлераўцаў была сарвана: два танкі і дзесяткі варожых аўтаматчыкаў апынуліся на дне Буга.

Сцены, ля якіх героі стаялі на смерць.

Фашысты выклікалі цяжкую артылерыю. Некалькі звышмагутных установак сістэмы «Тор» пачалі абстрэл крэпасці. Снарады вагою больш за дзве тоны разносілі ўшчэнт векавыя збудаванні. Каля гадзіны працягваўся страшны артылерыйскі налёт. Потым пацішэла...

Нашы абаронцы заўважылі, як на тым беразе ракі паказаўся фашысцкі афіцэр з белым флагам у руках. Байцы спынілі агонь, пачаліся жарты.

— Капітулююць!

— Вайну пачалі, а цяпер ідуць міру прасіць!

— Што ж, зойдзем у Белы Палац крэпасці. У ім, кажуць, у васемнаццатым быў падпісаны Брэсцкі мірны дагавор...

Гітлеравец з белым флагам перайшоў на гэты бераг. Пагранічнікі завязалі фашысту вочы і прывялі яго ў падвал, дзе знаходзіўся Кіжаватаў.

— Я капітан германскай арміі... Буду з вамі гаварыць ад імя свайго камандавання. З кім маю гонар весці размову? — загаварыў фашыст.

— Перад вамі камандзір абароны,— спакойна адказаў Кіжаватаў.

— Вельмі прыемна, — працадзіў скрозь зубы гітлеравец і працягнуў лейтэнанту руку.

— Вашы рукі абліты чалавечай крывёю! — не падаўшы фашысту рукі, сказаў Кіжаватаў.

Гітлеравец паспешліва пачаў выкладаць умовы капітуляцыі:

— Каб пазбегнуць лішніх ахвяр, нямецкае камандаванне прапануе спыніць абарону крэпасці. Далейшае супраціўленне бессэнсоўнае. Наша армія заняла ўжо Мінск, дайшла да Смаленска. Праз дзень-два мы будзем у Маскве.

— Я адмаўляюся весці гаворку ў такім тоне, — заявіў Кіжаватаў.

— А хіба вы не жадаеце выратаваць сябе, сваю сям'ю, родных, блізкіх? Нямецкае камандаванне захавае ўсім вам жыццё. Вам будуць створаны найлепшыя ўмовы, — пачаў спакушаць гітлеравец, падаючы Кіжаватаву цыгарэту, але той адмовіўся.

На развітанне парламенцёр сказаў:

— Калі вашы воіны пажадаюць спыніць бессэнсоўную абарону, дык падыміце белы флаг. Мы прышлем сваіх салдат. Яны вам пакажуць, куды ісці. На роздум — гадзіна!

Парламенцёру зноў завязалі вочы і давялі яго да дамбы. Пагранічнікі вярнуліся назад, а гітлераўскі капітан пайшоў на той бок ракі.

Роўна гадзіну панавала цішыня. Кіжаватаў, Патапаў і Санін прайшлі па абароне, расказалі байцам пра перагаворы з фашысцкім парламенцёрам.

Чырвонаармейцы заяўлялі:

— Не здадзім крэпасць! Не пакінем дзяржаўную граніцу!

Кончылася гадзіна «роздуму». Зноў застагнала зямля. Пад прыкрыццём артылерыйскага агню фашысты пайшлі на штурм крэпасці. За зброю ўзяліся цяжкапараненыя.

Прайшлі першыя суткі абароны. Пачаліся другія — больш чорныя і цяжкія. А за імі трэція... пятыя... сёмыя...

Ужо больш за тыдзень воіны Кіжаватава, без вады, галодныя, трымаюць абарону. Кожны ведае: тут давядзецца змагацца да канца... Але ніхто не хоча пакідаць крэпасць. Камандаванне Цэнтральнага вострава — палкавы камісар Яфім Фамін і капітан Іван Зубачоў аддаюць загад: жанчын і дзяцей вывесці з поля бою. Гэты загад выканаць нялёгка. Кіжаватаву толькі за трэцім разам удаецца сабраць жанчын, дзяцей і выхаванцаў палка, каб аб'явіць ім загад.



Казематы ў сцяне крэпасці.

— А вы як? — пачуліся галасы.

— Мы, воіны, застанемся тут, — адказаў лейтэнант.

— Не аддавайце нас на здзек фашыстам, — пачалі плакаць жанчыны.

— Не забывайце пра дзяцей. У нас няма чаго есці, няма вады, мала боепрыпасаў. Вы павінны зразумець гэта і пакінуць крэпасць. У імя нашых дзяцей,— сказаў Кіжаватаў.

Маці лейтэнанта, яго жонка і трое дзяцей падышлі да яго развітацца, але Кіжаватаў адступіў на крок:

— Не трэба, Каця, не трэба,— і, паказаўшы на жанчын з дзецьмі, многія з якіх засталіся без родных і бацькоў, дадаў: — Ім жа няма з кім развітацца...

Кацярына Іванаўна зняла з сябе санітарную сумку з чырвоным крыжам і павесіла свайму мужу цераз плячо на левы бок, дзе падвязаная на рамяні вісела перабітая куляй рука.

Жанчыны і дзеці заплакалі, узялі ў рукі белы флаг і пайшлі насустрач цёмным дням пакуты і гора.

Юныя выхаванцы палка не захацелі пакінуць крэпасць. Яны вялі назіранне за ворагам, дабіраліся да Буга і прыносілі ваду, падносілі боепрыпасы, памагалі цяжкапараненым і са зброяй у руках ляжалі ў абароне. Аднойчы Пеця Клыпа ў разбітым прамтаварным магазіне знайшоў цэлы сувой паркалю. Гэтую тканіну хлопчык перадаў у медсанбат жанчынам.

— Вось каб яшчэ іголку ды ніткі...— забедавалі жанчыны.

— Не бяда! Я вас выручу,— адказаў Пеця і прадэманстраваў свае веды ў кравецкай справе. Ён адарваў метры са два тканіны, пасярэдзіне ў ёй зрабіў штыком дзірку, прадзеў галаву, а вузейшым кавалкам паркалю падперазаўся. Пецін «фасон» прыйшоўся ўсім да спадобы. У многіх жанчын не было верхняга адзення: яны не паспелі накінуць на сябе што-небудзь, калі фашысцкія бомбы пасыпаліся на дамы, дзе яны жылі. Пеця Клыпа стаў дамскім краўцом і «пашыў» больш за дзесяць суконак. Праўда, на наступны дзень жанчыны вымушаны былі аддаць іх для перавязкі параненых.

З «пяцёркі» выхаванцаў палка, якой камандаваў Пеця Клыпа, засталіся ў жывых толькі трое. Лёня Міхайлаў разам з дарослымі кінуўся ў контратаку на фашыстаў і загінуў. Пеця Васільеў доўга абараняўся ў былым будынку касцёла. Ён трымаў абарону адзін супраць цэлага падраздзялення гітлераўскіх салдат: адстрэльваўся з кулямёта, закідваў ворага гранатамі. Юнага героя нашы абаронцы знайшлі смяртэльна параненага. «А што чакае гэтых хлапчукоў? Які лёс напаткае тых жанчын і дзяцей, якія пайшлі ў фашысцкую няволю?» — толькі ўспеў падумаць Кіжаватаў, як убачыў, што фашысты пад прыкрыццём нашых жанчын і дзяцей, якіх гналі перад сабою, хочуць уварвацца на Цэнтральны востраў крэпасці.

— Страляйце, страляйце, родныя! — крычалі жанчыны абаронцам.— Фашысты ўсё адно нас замучаць.

Наш агонь з флангаў прымусіў ворага адысці назад.

У начным баі фашысты прымянілі агнямёты. З падвала Цярэспальскай вежы прыпоўз увесь абгарэлы баец 3-й рэзервнай пагранзаставы, якая была побач з камендатурай. Ён расказаў, што гітлераўцы з агнямёта спалілі ўсіх цяжкапараненых. Лейтэнант Кіжаватаў хацеў перавязаць байцу абгарэлы твар і рукі.

— Дайце мне лепш патроны,— папрасіў пагранічнік. Зарадзіўшы вінтоўку, ён вярнуўся туды, дзе мінулай ноччу загінулі яго баявыя таварышы.

Прайшло яшчэ двое сутак. Многія абаронцы зусім знясілелі ад голаду. Кіжаватаў, Патапаў і Санін збіраюць камуністаў на партыйны сход. На парадку дня два пытанні: становішча абароны, прыём у партыю. Па першаму пытанню прымаецца рашэнне: тым, хто можа стаяць на нагах, ісці на прарыў.

На скрынку з-пад патронаў, за якой сядзіць прэзідыум сходу, адна за адной кладуцца заявы, напісаныя крывёю на абрыўках газетнай паперы: «Лічыце мяне камуністам!..» — заяўляюць камсамольцы і беспартыйныя воіны...

Сход закончан. Кіжаватаў збірае пагранічнікаў і паведамляе рашэнне камуністаў:

— Дарагія мае героі! — гаворыць ён.— Вы зрабілі ўсё, што маглі... Я ганаруся тым, што на маю долю выпала быць разам з вамі. Дзякую за службу, таварышы! Радзіма ніколі не забудзе тых, хто многа дзён змагаўся тут, сярод руін, ахоўваючы яе свяшчэнную граніцу...



**Герой Савецкага Саюза Пятро Міхайлавіч Гаўрылаў** (злева) **повен жывых успамінаў пра гераічныя дні 1941 года.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

Кіжаватаў параіў сваім байцам прарывацца з акружэння невялікімі групамі, ісці ў кірунку дзяржаўнай граніцы. У гэтым месцы фашысты менш чакаюць прарыву.

— А вы, таварыш лейтэнант? — запыталі байцы.

— Мне няма куды ісці. Тут граніца...

— Тады і мы з вамі,— заявілі пагранічнікі.

— Я паранены і застаюся з паранемымі. А вам, дарагія мае, загадваю: выбрацца адгэтуль, дайсці да нашых, ваяваць так, як тут змагаліся. Загадваю жыць, каб знішчаць ворага, каб расказаць пра нашых баявых сяброў, якія ляжаць тут, пад руінамі крэпасці...

Хто мог яшчэ стаяць на нагах, развіталіся са сваім слаўным камандзірам, з раненымі пагранічнікамі і чырвонаармейцамі і невялікімі групамі па два-тры чалавекі пачалі вырывацца з крэпасці.

У гэты ж дзень старшы лейтэнант Патапаў і лейтэнант Санін павялі на прарыў сваю групу. Звыш 120 чалавек нечакана для ворага кінуліся праз рукаў Буга. Вырваліся за крэпасць толькі дзевяць абаронцаў. Сярод іх быў і Пеця Клыпа. Ён сабраў апошнія сілы і пад градам куль, трымаючы ў зубах пісталет, пераплыў шырокі Буг і яго бурлівы рукаў.

Цяжкапаранены Андрэй Кіжаватаў працягваў кіраваць абаронай 333-га стралковага палка. У пачатку ліпеня лейтэнант і некалькі пагранічнікаў наважыліся ўзарваць пераправу, якую фашысты навялі праз Буг. Пры выкананні гэтага задання начальнік 9-й пагранзаставы камуніст Андрэй Кіжаватаў загінуў смерцю героя.

Больш за месяц у крэпасці ішлі баі. Больш за месяц трымаліся цяжкапараненыя пагранічнікі і чырвонаармейцы. На ўцалелых сценах крэпасных збудаванняў апошнія абаронцы цытадэлі пакінулі патрыятычныя надпісы: «Нам было цяжка, але мы не палі духам і памром як героі», «Я паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма! 20.VII.41».

Радзіма не забыла сваіх герояў. На яе заходніх рубяжах адна з пагранічных застаў носіць імя камуніста Андрэя Кіжаватава. На фасадзе будынка заставы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Золатам гарэць на мармуры словы:

«У чэрвені—ліпені 1941 года начальнік заставы Кіжаватаў Андрэй Мітрафанавіч з асабовым складам заставы стаяў на смерць супраць фашысцкіх захопнікаў на ахове і ў абароне Брэсцкай крэпасці. Герой-камандзір загінуў смерцю храбрых у няроўным баі...»

Праз год у Маларыцкім раёне гітлераўцы расстралялі сям'ю Кіжаватава — маці, жонку і траіх дзяцей.

...Спакойна цячэ Буг. Сёння тут на ахове дзяржаўнай граніцы стаяць маладыя воіны, тут служыў Мікалай Кіжаватаў — пляменнік героя. Пагранічнікі свята захоўваюць памяць аб слаўных гераічных подзвігах камуніста Андрэя Кіжаватава і яго баявых сяброў, якія аддалі сваё жыццё за Радзіму.

**Алесь МАХНАЧ,**
**удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці.**




## І ШТЫКОМ І ПЯРОМ

Шматлюдна і радасна на цэнтральнай алеі Гомельскага парку.

— Гэй, хлопчыкі, дзе тут музей? — пытаецца чалавек з пасівелымі скронямі.

— Вунь ён, адсюль рукой падаць! — паказалі хлопцы.

— Хадземце разам,— кажу я, параўняўшыся з імі.

— Даўнавата тут не быў, аж з пачатку вайны.— Чалавек нібы апраўдваецца, што надоўга расстаўся з горадам.— Два дні ўжо любуюся новым Гомелем. А ў мяне так і стаіць у памяці былое...

Пераходзім з аднаго цеснага музейнага пакоя ў другі. Побач з рэліквіямі баявой славы — партызанскія лістоўкі, газеты, плакаты...

Наведвальнікі разглядаюць «Партрэтную галерэю людаедаў». А мне ўспамінаецца гісторыя ўзнікнення яе на старонках часопіса «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Задумалі гітлераўскія цемрашалы адкрыць у акупіраваным Мінску мастацкую выстаўку. Трубілі пра гэта па радыё, у сваіх газетках і... селі ў лужыну, бо так і не здолелі ажыццявіць свой план. Затое беларускія мастакі і пісьменнікі адгукнуліся на гэтую задуму. І вось яны перад намі, пажоўклыя ад часу старонкі, дзе экспануецца «Партрэтная галерэя людаедаў».

На першым плане душагубы — Гітлер, Гімлер, Герынг і іх паплечнікі па разбою. Кароткія і трапныя вершаваныя тэксты пісьменнікаў пад карыкатурамі мастакоў Віталя Букатага і Веры Козак.

— От тут выстаўлен і даведнік да галерэі,— зазначае нехта.

«Каб адкрыць такую выстаўку, трэба мець мастакоў, трэба мець творы, якія б знайшлі шчыры водгук у гледача. Такія творы ёсць. Іх пішуць нашы мастакі, якія сёння разам са сваім родным народам — хто зброяй, хто сваёй творчасцю б'юць подлых нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

...Група вучняў старэйшых класаў акружыла настаўніцу.

«Што такое «МПЭ»?

— Малая партызанская энцыклапедыя,— адказвае яна.— Вось чытайце. Тут не ўсе літары ёсць.

А наведвальнікі тым часам гартаюць нумары часопіса.

— Во, зірні, і ў гэтым нумары «Прыгоды дзеда Дубняка Міхеда». А ў мяне кніжка такая ёсць. Анатоля Астрэйкі. Купіў нядаўна. От жа цікава!

Наведвальнікі разглядаюць малюнкі, смяюцца. У большасці з іх гэтулькі сатырычнай узрыўчаткі, што, здаецца, хапіла б і для цяперашніх ахвотнікаў на сусветнае панаванне.

«У нямецкага народа яўна добры настрой»,— не сунімалася некалі фашысцкая газета «Дас райх», хаця гітлераўскія орды адступалі на Захад. «Калі фашыстам весела ад таго, што мы іх лупім, дык, калі ласка, зробім такую прыемнасць: пастараемся, каб ім было яшчэ весялей»,— з сарказмам пісаў тады Кандрат Крапіва.

Так, у перыяд самых цяжкіх выпрабаванняў беларускага народа не змаўкала яго «муза палымянай сатыры». Грозны смех гучаў у творах Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага, Максіма Танка, Анатоля Астрэйкі, Пятра Глебкі, Пімена Панчанкі, Максіма Лужаніна... Смехам і гневам супраць фашысцкіх вылюдкаў быў прасякнуты ўвесь перыядычны партызанскі друк.

І не выпадкова ў нашых музеях, побач з аўтаматамі, гранатамі, экспануюцца і нумары «Раздавім фашысцкую гадзіну», бо і яны былі ўзяты на ўзбраенне народных мсціўцаў.

**Міхась ЧАВУСКІ.**

## МАЛАЯ ПАРТЫЗАНСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ




### А

А к у п а н т ы — падсудныя. Прыгавораны савецкім народам да вышэйшай меры пакарання — да смерці. Прыгавор прыводзіцца ў выкананне Чырвонай Арміяй, партызанамі і іх памочнікамі.

А м а н а л (узрыўчатая матэрыя) — гітлераўскі «новы парадак» у Еўропе. Узрываецца пры моцнай дэтанацыі з Усходняга фронту.

### Б

Б л і ц - к р ы г. Да вайны з Савецкім Саюзам немцы ведалі толькі, што такое «Бліц-крыг». Цяпер пазналі, што такое «Бліц-крык», «Бліц-стоп», «Бліц-драп» і «Бліц-смерць».

Белы конь — чыстакроўны рысак. Доўга адкормліваўся ў берлінскай канюшні для трыумфальнага ўезду Гітлера ў Маскву. З'едзены нямецкімі салдатамі ў часе зімовай кампаніі 1941 года.



**В**

Вісельні — сродкі агітацыі за «новы парадак» Гітлера.

Вышэйшая раса — пры дапамозе Чырвонай Арміі і партызан выміраючая парода арыйскіх чыстакроўных псоў-гітлераўцаў.

**Г**



Гаўляйтар — гаў... гаў... гаў... ляй... ляй... ляй... — парода фашысцкая, масць карычневая, клічка — Кубэ.

**Д**

Дэгенерат — псіхічны і фізічны вырадак. (Глядзі Гітлер.)

**Е**

Елкі. Елкі, палкі, лес густы, куды ні глянеш — скрозь кусты. Што ні купіна, ні груд, сцеражэ яго капут.

**Ж**

Жыццёвая прастора — нямецкія могілкі па беларускай зямлі.

**З**



Звярынец — фашысцкая Германія. Адрозніваецца ад звычайных звярынцаў тым, што людзей трымаюць там у клетках, а звяры ходзяць на волі.

**І**

Іуда — глядзі Адамовіч, Ермачэнка, Гадлеўскі, Казлоўскі і іншая прадажная сволач.

**К**

Клімат. Па навуковых дадзеных — цячэнне пагоды. Паколькі ў Беларусі пагоду робяць партызаны, беларускі клімат шкодна адбіваецца на здароўі немцаў...

**Л**

Лыч — што такое лыч, можна бачыць на малюнку.



**М**

«Майн Кампф» — запіскі вар'ята.

**Н**

«Нямецкі перадкрай» — Беларусь па-нямецку. Па-беларуску — беларускі край, дзе немцы стаяць на краі сваёй пагібелі.



**О**

Обер-яфрэйтар — глядзі фюрар Германіі.

**П**

Паліцэйская ўправа. На паліцэйскую ўправу партызаны знаходзяць сваю ўправу.

**Р**

Разгром. Бліжэйшая будучыня гітлераўскай дзяржавы.

Ружжо — неабходная прылада беларуса, якая бароніць яго ад холаду, голаду і нямецкай заразы.

**С**

Секундамер — прылада для вымярэння працягласці жыцця паліцэйскага.

**Т**

Тэатр ваеннага дзеяння. Пастаноўка Гітлера «Бліц-крыг». Асвістана рускімі кулямі. Праваліцца з трэскам.

**У**

«Ура» — з гэтым словам рускія ідуць у атаку, а чужынцы на той свет.

**Ф**

Фашысцкі друк — звычайная папера, запэцканая бруднай нямецка-фашысцкай хлуснёй.

**Х**

Хайль — прывітальны вокліч, якім абменьваюцца пры сустрэчы хайла з хайлам.

**Ц**



Цэль — акупант, у якога цэляцца і метка страляюць партызаны.

**Ч**

Чума — карычневая зараза. Бацылы маюць форму свастыкі. Знішчаецца савецкім народам усімі сродкамі.

**Ш**

Шварц Копф — Чорная галава. Так названы палкі фашысцкіх галаварэзаў. Каб у іх галовах павіднела, трэба прабіць некалькі дзірак.

**Э**

Эрзац — замяніцелі. Праўду замяняюць у Германіі фашысцкай хлуснёй. Чалавека — бессардэчна тупой жывёлінай.

**Я**

«Я — гэта самае любімае слова Гітлера. «Я — фюрар», «Я прадбачыў!», «Я загадаў», «Я завалюю ўвесь свет!» — звычайна крычыць Гітлер. Набліжаецца час, калі бандыт захоча сказаць: «Я — не я і хата не мая», але ўвесь чэсны свет скажа: «Не, гэта ты, крыважэрная гадзіна!»






# ГАРЫЦЬ, ПАЛЫМНЕЕ ФАКЕЛ

У Вавілы Іванавіча Ракушава была вялікая сям'я: восем дзяцей. Сям'я дружная, працавітая. Вавіла ў 1905 годзе прымаў удзел у сялянскім паўстанні і быў высланы царскім урадам на чатыры гады ў Нарымскі край. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі, вярнуўшыся на радзіму, арганізаваў падзел панскай зямлі. Добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію. Потым працаваў старшынёй Круглянскага валаснога выканаўчага камітэта. Бацька-рэвалюцыянер выхаваў і дзяцей такімі, як сам.

Старэйшы сын Федзя быў прыгожы, шыракаплечы юнак. Ад бацькі ўспрыняў вялікую веру ў справу камунізма. У школе, калі яму было дванаццаць гадоў, адмовіўся вучыць «закон божы». Федзю выгналі са школы.

Увосень 1917 года, калі пачаліся выбары ва Устаноўчы сход, Федзя Ракушаў, яшчэ хлапчук, агітуе аднавяскоўцаў за бальшавіцкі спіс. Нягледзячы на шаленства кулакоў, гэты спіс атрымаў перамогу: бедната аддала свае галасы бальшавікам.

Вакол Ліхініч сяляне жылі ў большасці на хутарах. Сярод хутаран нямала было кулакоў, яны люта ненавідзелі новыя парадкі. Утойвалі зямлю ад абкладання падаткамі, гналі самагонку, імкнуліся захапіць у свае рукі органы мясцовай улады. Федзя Ракушаў не мог мірыцца з гэтым. Ён адкрыта граміў кулакоў, бандытаў, папоў і самагоншчыкаў.

У вёсцы пачала выходзіць насценная газета «Факел». У ёй змяшчаліся карыкатуры, вершаваныя калючкі, вострыя выкрывальныя допісы. «Факел», узняты Фёдарам Ракушавым, гарэў, свяціў. У выпуску «Факела», як і ва ўсёй грамадскай рабоце, актыўны ўдзел прымалі Фёдараў бацька Вавіла, браты-камсамольцы Міхаіл і Рыгор.

Тады, у 1921 годзе, калі і слова «селькор» яшчэ мала хто ўжываў, у гомельскай губернскай газеце «Новая вёска» пачалі часта з'яўляцца допісы з вёскі Ліхінічы за подпісам «Ф. Ліхініцкі». Супрацоўнік газеты Антон Зорскі ўспамінаў:

«Яшчэ ніякіх селькораўскіх арганізацый не было... Усе, хто пісаў у газету, былі прадастаўлены самі сабе... Дасылаліся выпіскі з пратаколаў, крыклівыя заклікі, акафісты асобным работнікам, і толькі тады-сяды, як асабістая крыўда, паяўлялася выкрывальнае пісьмо... Толькі ў пісьмах з Ліхініч было тое, што патрэбна для газеты. Тут і рост савецкай грамадскасці, і барацьба з кулакамі, барацьба з п'янствам, і барацьба новага, маладога жыцця са старынкай. Мы тады з рэдактарам яшчэ дзівіліся: «Вось неўгамонны пісьменнік! Па аднаму б такому на валасць...». І нарэшце пісьмо: «Мы пачалі выпускаць у Ліхінічах сваю вясковую газету». Гэта паведамляў Фёдар Ракушаў. Ён з'яўляўся таксама селькорам магілёўскай газеты «Саха і молат» і масавай, папулярнай усесаюзнай «Крестьянской газеты».

Фёдар стварыў у вёсцы першую камсамольскую ячэйку, аб'яднаў моладзь, вёў асветніцкую работу, арганізаваў сельскагаспадарчы гурток. Да яго за парадай ішлі сяляне.

Рассяліўшыся па хутарах, сяляне прагна трымаліся за зямлю, прыраслі да яе ўсімі жыламі, усім нутром. У палоне ўласнасці — сям'я, думы, усё чалавечае. Чалавек чалавеку быў ваўком.

І вось, калі здзейснілася сацыялістычная рэвалюцыя, выразна вызначыўся падзел. З аднаго боку — бяднейшыя сяляне, якіх вабіла новае жыццё, пробліскі культуры, з другога — моцны сталыпінскі кулак, які гатоў задушыць кожнага, хто пойдзе супраць яго. Адны, як Вавіла Ракушаў, ішлі добраахвотнікамі ў Чырвоную Армію, змагаліся за Савецкую ўладу, другія рыхтавалі зброю супраць Саветаў. Калі адхлынула апошняя хваля грамадзянскай вайны, ворагі змянілі прыёмы барацьбы. Яны вырашылі ўзрываць Саветы знутры і вызначылі шляхі: дабівацца, каб іх выбіралі ў Саветы, каб там замацоўваць сваё панаванне і, прыкрываючыся Савецкай уладай, знішчаць змагароў за новае жыццё.

Важакамі цёмнай антысавецкай сілы выступала сям'я Галыгаў і яе сваякі. Вакол Галыгаў згуртоўвалася кулацтва, самагоншчыкі, бандыты. Гэтая зграя пусціла карані ў валасным выканкоме, захапіла камсамольскую ячэйку, знайшла падтрымку ў міліцыі, «мела сваю руку» ў губерні.

Васіль Галыга, якога ўсе ведалі як адпетага нягодніка, быў сакратаром валаснога камітэта. Пры ўтварэнні раёна ён з атэстацыяй «выдатнага ідэйнага і тэхнічнага работніка, актыўнага культработніка» з'явіўся ў Круглае і атрымаў пасаду справавода райкома партыі. Даведаліся сяляне пра гэта і рукой махнулі:

— Цяпер і сам чорт будзе яго баяцца.

І толькі Фёдар Ракушаў не баяўся Галыгі. Ён павёў наступленне праз друк. Аднойчы на сходзе ў прысутнасці Галыгі звярнуўся да сялян:

— Дакуль мы будзем цярпець? Хіба ж не бачыце, што Васька хабар бярэ, зямлю кулакам затойвае, і братам, і старшыні!..

Васіль Галыга на сходцы прамаўчаў, апраўдвацца яму не было як. Але злосць затаіў.

Фёдар Ракушаў ведаў, што яго чакае. Пісаць у газету адкрыта было небяспечна. Адну са сваіх надрукаваных карэспандэнцый, у якой высмейваў п'янства і хабарніцтва, ён заканчваў так: «Хто пісаў, вам не трэба знаць, бо ў Магілёў мяне будуць цягаць, каб усю праўду канфіскаваць, ды за праўду пакараць».

Калі надышлі перавыбары ўзбуйненага Круглянскага сельсавета, райком партыі камандзіраваў Васіля Галыгу для правядзення перавыбараў. Галыга сабраў сваіх людзей, каб накіраваць у Савет пабольш сяброў і сабутыльнікаў.



Сціплы быў хлопец, але і мужны змагар сельскі карэспандэнт Фёдар Ракушаў.

Кулакі і бандыты, тыя, каго выкрываў Фёдар Ракушаў, выношвалі помсту. У 1923 годзе, пасля перавыбараў Савета, калі адбылася гарачая схватка, яны падпалілі сядзібу селькора. Праз некаторы час Ракушавы адбудаваліся. Запалохаць не ўдалося. Ворагі вырашылі знішчыць Ракушавых «з коранем».

1925 год. Студзень. Моцны мароз... Міліцыянер Кажамякін, узброены вінтоўкай, канваіраваў у Оршу бандытаў, якія забілі селькора ў адной з вёсак. У вёсцы Рачча, што за пяць кіламетраў ад Круглага, забойцы папрасілі міліцыянера, каб ён дазволіў пагрэцца. Той згадзіўся, бо і сам замёрз. Зайшлі ў хату да нейкай цёткі. Адзін бандыт усеўся на лаўку, бо заўважыў пад ёю, ля сцяны, сякеру. Седзячы спіной да сцяны, працягнуў руку пад лаўку і выцягнуў сякеру. Другі ў гэты час скруціў цыгарку і папрасіў у міліцыянера агеньку. Калі міліцыянер схіліўся, бандыт сякерай ударыў яго па галаве.

— Цяпер пойдзем дабіваць Ракушавых! — заявілі бандыты.

Забітага міліцыянера кінулі ў палонку і з яго вінтоўкай паспяшаліся ў Круглае. Ноччу напалі на міліцыю, забілі дзяжурнага і захапілі яшчэ зброю.

Да бандытаў далучыліся Васіль Галыга, яго браты Ціт, Сіланці і яшчэ некалькі чалавек. Усе ўзброеныя. Зрабілі засаду на двары Ракушавых, бо ведалі, што ў дом яны не ўварвуцца.

На світанні трынаццацігадовы Ваня Ракушаў выйшаў на двор. Бандыты выстралілі, ды прамахнуліся. Хлопчык кінуўся пад вароты, а бандыты — у дом. Насустрач бег гаспадар — Вавіла Івана-

віч. Яго напаткала куля. З ложка падхапіўся сын Рыгор. Забілі і яго. Фёдар саскочыў з печы і ўступіў у рукапашную схватку з бандытамі. У гэты час брат Міхаіл выскачыў на двор, а параненая маці Фядора Якаўлеўна, сплываючы крывёю, схавалася з малымі пад ложак. Фёдара паранілі, але ён не здаваўся. Ужо на двары бандыты некалькімі кулямі звалілі юнака і разбілі прыкладамі галаву.

Але тут падаспела міліцыя. Акружылі дом. Братоў Галыгаў і яшчэ некалькі бандытаў затрымалі на месцы, астатнія ўцяклі. Пазней пагоня па слядах прыяала да хутара паблізу вёскі Янава, дзе ўцёкшыя бандыты наладзілі засаду ў пуні. Выйсці жывымі адтуль ім не ўдалося.

На двор Ракушавых, на месца крывавай трагедыі, сабраліся суседзі. Вароты адчынены насцеж, лужы крыві. Фёдара Ракушава нельга пазнаць: так наздзекаваліся бандыты з забітага селькора.

Жудасная вестка разнеслася па ўсёй краіне. Мясцовыя і цэнтральныя газеты друкавалі гнеўныя карэспандэнцыі. «Крестьянская газета» змясціла вялікі артыкул «За што забілі селькора Фёдара Вавілавіча Ракушава», партрэт селькора і здымак забітых. Маскоўскі «Спутник селькора» прысвяціў некалькі старонак «Памяці Ракушавых».

Захаваўся здымак таго часу. Пахаванне Ракушавых. Былы панскі сад у Круглым. На пярэднім плане чатыры труны, пакрытыя кумачом: бацька і два сыны Ракушавы, чацвёрты — міліцыянер Кажамякін. Вялікі шматтысячны натоўп людзей у жалобным маўчанні. Людзі ў вайсковым, сяляне і сялянкі ў кажухах, юнакі і дзяўчаты. Развітваюцца тыя, хто прадоўжыць справу Ракушавых.

Па ўсёй краіне селькоры давалі клятву — адпомсціць за Ракушавых. Вось што пісалі, напрыклад, з Копыскага раёна Аршанскай акругі:

«Заслухаўшы паведамленне аб зверскім забойстве селькора Ракушава, мы катэгарычна пратэстуем супраць подлага забойства з боку кулакоў і заяўляем, што ніякія пагрозы і забойствы селькораў не пахіснуць нашых радоў і не спыняць селькораўскай работы. Мы няўхільна будзем прадаўжаць справу Ракушавых — будаўніцтва новай вёскі шляхам барацьбы з усімі перажыткамі старога часу, цвёрда стоячы на абароне бедняка ў барацьбе супраць кулака, які вякамі яго эксплуатаваў. Мы патрабуем суровага пакарання забойцаў Ракушава!»

Пасля зверскага забойства ў Ліхінічах адбылося следства і суд. Браты Галыгі — Васіль, Сіланці і Ціт — былі прыгавораны да расстрэлу. Суровае пакаранне атрымалі і іхнія хаўруснікі.

...Дзеці Ракушавых, якія засталіся ў жывых, былі вартымі свайго бацькі і братоў. Іван, 1912 года нараджэння, будучы інвалідам, у часе Вялікай Айчыннай вайны добраахвотна пайшоў на фронт і загінуў пры абароне горада Леніна. Загінуў у баях за Радзіму Васіль, 1921 года нараджэння. Сёстры і маці памерлі ў часе блакады Ленінграда.

З усёй вялікай сям'і Ракушавых жывы адзін Міхаіл Васільевіч. Ён доўгі час быў на партыйнай і савецкай рабоце. Цяпер — персанальны пенсіянер. Жыве ў Ленінградзе. Летам Міхаіл Васільевіч прыязджаў у Круглае. Наведаў магілу бацькі і братоў. Шчыра дзякаваў выхаванцам Круглянскай школы-інтэрната, якія аднавілі разбураную гітлераўцамі магілу, пасадзілі кветкі. Ён памог сабраць матэрыялы пра свайго брата — першага селькора Фёдара Ракушава.

Калі зайшла ўжо размова пра ўвекавечанне памяці Ракушавых, то варта ўспомніць, што пасля пахавання мужных змагароў за справу рэвалюцыі сяляне прынялі на сваім сходзе пастанову — перайменаваць вёску Ліхінічы ў Ракушава. Але мінуў час, новыя падзеі засланілі былое, і вёску пачалі называць па-старому. Цяпер жа, калі мы ўспамінаем тых, хто аддаў жыццё за Савецкую ўладу ў цяжкія гады яе станаўлення, варта аддаць належную пашану Ракушавым. Вёска павінна называцца Ракушава.

Варта паклапаціцца і пра тое, каб збудаваць помнік на магіле, устанавіць мемарыяльную дошку на будынку школы, у якой вучыўся Фёдар Ракушаў.

Над Круглым, як і над усімі вёскамі і гарадамі нашай Радзімы, у дні рэвалюцыйных свят палымнее чырвоны сцяг, абпалены ў баях, паліты крывёю змагароў за справу рэвалюцыі. Ён гарыць, як факел. На гэтым сцягу — кроў Фёдара Ракушава, у гэтым сцягу — яго юнацкае дыханне.

**Аляксей ПЫСІН,**
**Леанід ГІРЫН.**




# «ЛІЛІПУТЫ» НАСТУПАЮЦЬ



Што атрымаецца, калі вядомы ўсяму свету дваццаціпяцітонны самазвал «МАЗ» паменшыць разоў у дзесяць? Ну што — вялікая цацка? А калі ў гэтулькі ж разоў паменшыць, скажам, вежавы кран, цеплавоз, турбагенератар? Што атрымаецца? Тое ж самае. У лепшым выпадку іх паменшаныя копіі могуць служыць нагляднымі дапаможнікамі. Нікому не прыйдзе ў галаву скарыстоўваць такія «карлікі» для работы.

Але калі справа заходзіць пра памяншэнне памераў і вагі радыёэлектроннай апаратуры, тады ўсё мяняецца.

— Ці не змаглі б вы паменшыць гэты радыёапарат хаця б у паўтара-два разы? Не можаце? Вельмі шкада... Нам ён у цяперашнім выглядзе не падыходзіць — вялікаваты...

Такія размовы паміж стваральнікамі новай радыёапаратуры і тымі, хто яе заказвае, бываюць вельмі часта.

Авіятары і станкабудаўнікі, геолагі і хімікі, матэматыкі і маракі, медыкі і касманаўты ў адзін голас заяўляюць:

— Дайце нам малагабарытныя, надзейныя радыёэлектронныя прыборы і мы зробім безліч новых адкрыццяў!

Над «радыёліліпутамі» ніхто не асмеліцца насміхацца за іх маленькі рост. Наадварот, аматары акружаюць іх вялікай увагай. Ды і ёсць за што.

Спецыялісты ЗША падлічылі, што павелічэнне вагі спадарожніка «Авангард» усяго на адзін кілаграм павышае яго кошт на пяць тысяч долараў. А для касмічнага карабля кожны новы кілаграм вагі абыходзіцца ў шэсцьдзесят тысяч долараў.

Тут міжволі задумаешся: ці варта ўстанаўліваць дадатковыя прыборы, калі кожны кілаграм іхняй вагі не ідзе ў параўнанне і з золатам!

Вось чаму мініяцюрызацыя і мікрамініяцюрызацыя радыёэлектроннай апаратуры з'яўляецца адной з самых актуальных праблем навукі і тэхнікі ў наш час.

...Упершыню радыёхвалі працаваць на чалавека прымусіў вялікі рускі вучоны А. С. Папоў семдзесят гадоў назад. Прайшло не вельмі шмат часу і яго першынец — адзначальнік навальніцы — даў магутнае пакаленне радыёэлектронных апаратаў. Аднак цікава вось што: нягледзячы на вялікую разнастайнасць электронных прыбораў, спосабы іх вырабу да апошняга часу заставаліся амаль нязменныя.

Паяльнік, пінцэт і кусачкі — усё гэтае няхітрае начынне радыёмайстра — пераходзіла з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе. Але цяпер, каб забяспечыць патрэбы навукі і



Плата з навясным мантажом мініяцюрных дэталей па друкаванай схеме.

тэхнікі радыёэлектроннай апаратурай, спатрэбілася дакладнейшая праца вялікай арміі высокакваліфікаваных спецыялістаў-мантажнікаў.

Яшчэ горш пайшлі справы, калі з'явіліся малагабарытныя, мініяцюрныя і нават звышмініяцюрныя электронныя лямпы, паўправаднікі і радыёдэталі. Тут ужо ад мантажнікаў запатрабавалася ўменне і дакладнасць славутага Ляўшы, які блыху падкаваў. Трэба было вынайсці новыя метады вырабу радыёапаратуры, ліквідаваць разрыў паміж аўтаматызаваным выпускам асобных дэталей і іх зборкай уручную.

Дзе ж самае балючае месца?

Гэта, у першую чаргу, мноства правадоў, якія трэба працягнуць ад дэталі да дэталі, спаяць і ўкласці належным чынам. Амаль семдзесят працэнтаў рабочага часу мантажнік затрачваў на злучэнні правадоў.

Першым крокам у гэтым напрамку з'явілася прымяненне радыёсхемы з друкаваным мантажом. Малюнак, нанесены токаправоднай фарбай, і вытраўлены лабірынт танюсенькай металічнай фольгі замянілі складанае перапляценне правадоў.

Зазірніце ў сучасны тэлевізар ці радыёпрыёмнік, і вы заўважыце, што правадоў там засталося зусім мала. Большую частку іх замяніў своеасаблівы «малюнак». Мантаж з аб'ёмнага ператварыўся ў плоскі, а ў спалучэнні з малагабарытнымі дэталямі і транзістарамі (паўправаднікамі) атрымаўся салідны выйгрыш у памерах і вазе. Праца мантажніка стала больш простай — бяры гатовую друкаваную плату, устаўляй дэталі ў патрэбныя адтуліны і прыпайвай іх. Некалькі такіх плат дазваляюць сабраць схему радыёпрыбора сярэдняй складанасці. Ну, а калі застрахаваць сабраную плату спецыяльнай маскай, пакінуўшы толькі кончыкі вывадаў дэталей, і апусціць яе на момант у расплаўлены раствор волава, усе кантакты спаюцца адначасова. Значыць, можна перадаць гэтую аперацыю машыне. Ды і ўстаноўку дэталей у прынцыпе можна аўтаматызаваць. Усё гэта, разам узятае, дае магчымасць выпускаць радыёапаратуру аўтаматычна.

Друкаваны метад таіў у сабе вялікія перспектывы. Наносячы тонкія слаі розных матэрыялаў на ізаляцыйную аснову, можна атрымаць не толькі праваднікі, але і кандэнсатары, рэзістары (супраціўленні), індуктыўнасці — гэта значыць, амаль усе асноўныя электраэлементы радыёэлектроннай апаратуры.

Вядома, ад такіх слаёў спакусліва перайсці — да

## РАДЫЁАПАРАТУРЫ НА ПЛЁНКАХ.

Тут дарэмна шукаць звычныя для вока радыёдэталі. Іх... няма. Ды і сам радыёпрыбор незвычайны на выгляд. Ён нагадвае слоены пірог і складаецца з керамічных ці шкляных пласцінак таўшчынёю з лязо брытвы. Друкаваныя ж слаі розных матэрыялаў, якія замяняюць радыёдэталі, такія тонкія, што вымяраюцца мікронамі. Нават сталь гэткай таўшчыні — празрыстая. Плёнкі наносяцца на керамічную аснову пры дапамозе спецыяльных трафарэтаў, зробленых з вялікай дакладнасцю. Трафарэты пачаргова накладваюць на аснову і ў вакуумнай камеры робяць напыленне патрэбных матэрыялаў слой за слоем.




Такі выгляд мае трохслойная плата з плёначным мантажом.

Калі паслядоўна нанесці тры слаі (праваднік — ізалятар — праваднік) — атрымаецца кандэнсатар. Слой рэчыва з высокім удзельным супраціўленнем дае рэзістар. Спіралі з дадаткамі ферытавых сплаваў дазваляюць атрымаць індуктыўнасці, эквівалентныя катушкам у сотні віткоў.

Як жа «манціраваць» такую схему? З паяльнікам сюды не сунешся. У ролі аднаго з інструментаў для гэтай звышдакладнай аперацыі выкарыстоўваюць электронны прамень. Іменна ён прымушае закіпець напыляемае рэчыва, пара якога асядае на аснове дакладна ў тых месцах, дзе ёсць прорэзі трафарэта.

Такі метад называецца «катодным напыленнем».

Электронны прамень прыварвае таксама мікраскапічныя вывады кантактаў. Вядома, для такога спосабу вытворчасці радыёапаратуры патрэбна выключна высокая тэхналогія ўсіх працэсаў і чысціня напыляемых рэчываў. Дастаткова некалькіх лішніх атамаў (іменна атамаў) пабочных прымесей, і схема пойдзе ў брак. Усе вытворчыя аперацыі адбываюцца ў спецыяльных вакуумных камерах, дзе ціск у дзесяткі і нават сотні мільёнаў разоў меншы ў параўнанні з нармальным.

Аднак усе гэтыя цяжкасці — гэта цяжкасці «дзіцячага» і «пераходнага» ўзросту. Затое, якія перавагі!

Перш за ўсё, гэта амаль поўная адсутнасць кантактаў, што дае выключна высокую надзейнасць. Практычна такія схемы могуць працаваць дзесяткі тысяч гадзін — цэлыя гады без перапынку! А памеры іх! Дастаткова сказаць, што шчыльнасць мантажу плёначных схем дасягае ста-двухсот дэталей на адзін кубічны сантыметр аб'ёму. Тэлевізар, зманціраваны на плёнках, змог бы ўмясціцца ў карабок з-пад запалак, і на яго экран давялося б глядзець праз павелічальнае шкло. Зусім нядаўна «жылая плошча» сярэдняй электравылічальнай машыны раўнялася плошчы вялікага пакоя, а цяпер такія машыны свабодна месцяцца ў кабіне лётчыка.



Элементы мікрамодуля.



Мікрамодуль.



Мікрамодуль у апрэсаваным выглядзе.

Савецкая прамысловасць выпускае самыя маленькія ў свеце радыёпрыёмнікі для шырокага спажыўца. Гэта ленінградская «Эра» і маскоўскі «Мікра». Яны лёгка ўмяшчаюцца ў запалкавым карабку.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што «Мікра» — гэта тыповы прадстаўнік плёначных схем.

«Эра» ж — мікрамодульная канструкцыя.

Асновай мікрамодуля служыць квадратная керамічная пласцінка 9×9 мм і таўшчынёй крыху больш за таўшчыню лезвія бяспечнай брытвы.

Пласцінка мае па тры прорэзі на кожным баку і вельмі нагадвае вафлю. Кожная пласцінка — гэта кандэнсатар, супраціўленне, індуктыўнасць, або паўправадніковы прыбор, а набор пласцінак з адпаведнымі дэталямі — закончаны радыёэлектронны блок. Для таго, каб сабраць такі радыёапарат, у пазы пласцінак ўстаўляецца дрот, абпайваецца, пакідаюцца вывады, а потым такая «этажэрка» заліваецца спецыяльнай смалой. Атрымліваецца кубік мікрамодуля. Набіраючы паслядоўна такія кубікі — узмацняльнікі, генератары, запамінальныя прыстасаванні і г. д., можна атрымліваць самыя складаныя радыёапараты.

Мікрамодулі валодаюць вялікай трываласцю. Вядомы такі прыклад, апублікаваны ў амерыканскім друку: радыёапарат на мікрамодулях змясцілі ў галоўку снарада і выстралілі з гарматы. Пры ўдары аб перашкоду апарат падвергся пяцісоттысячнай перагрузцы, але працягваў працаваць!

Аднак навука не стаіць на месцы.

Вучоныя адкрылі

## ДЗІВОСНЫЯ КРЫШТАЛІ.

У 1924 годзе ў замежным друку з'явіліся паведамленні пра «сенсацыйнае вынаходніцтва» ў Расіі. Прычынай для гэтага паслужыла тое, што супрацоўнік ніжагародскай лабараторыі О. В. Лосеў вынайшаў радыёапарат, у якім крышталь паўправадніка валодаў узмацняльнымі якасцямі. Апарату далі назву — «крыстадыян».

Некалькі дзесяцігоддзяў спатрэбілася для таго, каб паўправаднікі заваявалі ключавыя пазіцыі ў радыётэхніцы і ў большасці выпадкаў «выжылі» такога моцнага праціўніка, як радыёэлектронная лямпа. І ўсё ж толькі ў самы апошні час вучоныя адкрылі яшчэ цэлы шэраг дзівосных якасцей крышталяў. Яны настолькі цікавыя і перспектыўныя, гэтыя якасці, што ў радыёэлектроніцы з'явіўся новы накірунак

## МАЛЕКТРОНІКА.

Адзін невялікі крышталь паўправадніка можа замяніць шматлямпавы блок з усімі дэталямі. Радыёпрыёмнік у крышталі! Фантастычна? Не — гэта рэальнасць.

Сувязны прыёмнік на сто зафіксаваных частот, выкананы на друкаваных схемах і транзістарах, замянілі малектроннай схемай. Пры аднолькавай першапачатковай магутнасці — дзвесце, дзвесце пяцьдзесят мілiват — і раўназначных астатніх параметрах «першынец» на крышталях патрабаваў магутнасці ледзь не ў дзесяць разоў меншай, чым яго старэйшы сабрат: два і шэсць дзесятых вата замест дваццаці чатырох з палавай! Каэфіцыент карыснага дзеяння вырас амаль на тысячу працэнтаў! Новы прыбор важыў усяго дзвесце грамаў замест двух з палавай кілаграмаў і займаў аб'ём у сто пяцьдзесят кубічных сантыметраў замест двух тысяч чатырохсот дваццаці.

Якім жа чынам крышталі паўправадніковага рэчыва становяцца радыёэлектронным прыстасаваннем? Мы ведаем, што кожны паўправадніковы прыбор складаецца з двух тыпаў паўправадніковага матэрыялу, якія забяспечваюць электронную і дзірачную праводнасць. На мяжы іх раздзелу ўтвараецца так званы р-п пераход.

Адзін р-п пераход дае выпрамленне (дэтэктыраванне) электрычнага сігналу. Два пераходы тыпу р-п-р ці п-р-п дазваляюць узмацняць яго (транзістар). Але, акрамя гэтага, р-п пераходы могуць працаваць як стабілізатар, фотаэлемент, кандэнсатар. А калі ў адзін з тыпаў паўправаднікоў увесці пэўныя дадаткі-прымесі, дык можна атрымаць рэзістары (супраціўленні). Адкрываецца магчымасць атрымаць многія асноўныя электраэлементы сучаснай радыётэхнікі ў самім крышталі. Але для таго, каб крышталь ператварыўся ў радыёсхему, над ім трэба шмат папрацаваць.

З расплаўленага раствору паўправадніковага рэчыва «выцягваюць» крышталь патрэбных памераў — «монакрышталь». Хуткасць выцяжкі розная — гэта, каб асобным яго ўчасткам надаць неабходныя ўласцівасці. Потым з дапамогай дыфузіі і ўплаўлення ў крышталь уводзяцца розныя прымесі. Яго «травяць» кіслотамі і шчолачамі, апрацоўваюць электронным промнем і ўльтрагукам, пакуль ён не набудзе ўсе неабходныя якасці.

Гатовы малектронны блок паўстае перад намі, як своеасаблівая мазаіка розных уключэнняў і наваўтварэнняў, а паверхня яго нагадвае мікраскапічную гравюру. Лічыцца, што шчыльнасць мантажу малектронных прыбораў складае тысячу — тысячу пяцьсот дэталей на кубічны сантыметр, а некаторыя спецыялісты называюць лічбу трыста тысяч дэталей на адзін кубічны сантыметр. Пры дасягненні такіх вынікаў можна паспрабаваць стварыць мадэль штучнага мозгу чалавека.

«Вырашчаныя» ў крышталях схемы атрымалі назву — «цвёрдыя схемы». Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што і радыёапаратура на плёнках таксама мае адносіны да малектроннай тэхнікі. Там жа прымушаюць працаваць малекулы.

Аднак спецыялісты многіх краін, і ў першую чаргу савецкія, лічаць цвёрдыя схемы самым прагрэсіўным кірункам у галіне канструявання радыёэлектроннай апаратуры, а спалучэнне плёнак і крышталяў з далейшым аб'яднаннем ў мікрамодулі — цудоўным сімбіёзам, што адкрывае сапраўды захапляючыя перспектывы. Перш за ўсё — поўная аўтаматызацыя зборачных працэсаў! А гэта дае рэзкае зніжэнне кошту і поўнае забеспячэнне ўсіх патрэб навукі, тэхнікі, масавага ўжытку.

І ўсё ж самая важная якасць мікраміняцюрнай радыёапаратуры заключаецца ў тым, што выкарыстанне яе адкрывае шляхі да вырашэння

## ПРАБЛЕМЫ НАДЗЕЙНАСЦІ.

Нельга пасылаць экіпажы ў космас, калі няма гарантыі, што ўсё складанае абсталяванне касмічнага карабля будзе працаваць нармальна ад пачатку да канца палёту. Якія б ні былі даўгавечныя дэталі ў радыёэлектронных прыстасаваннях, існуе небяспека іх выхаду са строю.

### СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Раз у месяц, у сераду пасля пятнаццатага, можна набраць адзін з двух вядомых тэлефонных нумароў і атрымаць парады і адказы на ўсе пытанні, якія закранаюць справы падрыхтоўкі да вяселля, адносін і гігіены шлюбнага і сямейнага жыцця, выхавання дзяцей і моладзі ў часе яе пераходу ў сталасць і іншыя.

Такую кансультацыю арганізавала ў Варшаве **Таварыства свядомага мацярынства.**

### СТРАКАТЫЯ ЗАМЕТКІ



Першы **шасціпавярховы кароўнік** на 500 галоў будуюць у Галандыі. Унізе — корм, на паверхах — каровы, пульты кіравання, транспарцёры, аўтаматызацыя. Малако плыве па алюмініевых трубах...

На першым разе можа і смешна бачыць карову ў ліфце. Але, як кажуць, пажывем — пабачым.

Што ж рабіць?

Трэба стварыць рэзерв. У выпадку, калі адмовіць асноўнае прыстасаванне, павінен аўтаматычна падключыцца запасны прыбор. А тым часам можна знайсці пашкоджанне і выправіць яго. У асабліва жыццёва важных цэнтрах можна прымяняць двайное, трайное рэзерваванне і атрымліваць стопрацэнтную надзейнасць.

Цудоўным прыкладам рэзервавання з'яўляецца наш арганізм. Большасць важнейшых органаў: рукі, ногі, вочы, вушы, лёгкія, ныркі прадстаўлены парамі. Рэзерв жывых клетак, і асабліва клетак мозгу, выражаецца трохзначнымі лічбамі.

Надзейная і мініяцюрная радыёэлектронная апаратура пашырыць нашы веды ў самых розных галінах навукі. Магчыма, іменна мікраскапічныя радыёпрыборы, змешчаныя ўнутры чалавечага арганізма, памогуць чалавеку разгадаць такія загадкі, як рак, атэрасклероз. Гэта справа заўтрашняга дня. Іменна заўтрашняга, а не далёкай будучыні.

**Леанід БУЛАТ,**
**інжынер.**

---

## ПА ЗАЛАХ ВЫСТАЎКІ «НА ВАРЦЕ МІРУ»

### СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ

**Мастак Міхась ЛІСОЎСКІ.**
**Эпіграмы Базыля ПАРАХОНЧЫКА.**

**Ф. Бараноўскаму**

З эскіза ў эскіз
І з карціны ў карціну
Выводжу палонных
На волю адзін я.
Вяду іх праз церні
Удзень і ўначы.
...Не ўсім ім з майстэрні
Удалося ўцячы.



**Г. Паплаўскаму**

Сівой цаліны
Уздымаў я пласты,
І леглі яны
Ценем густым.





**Л. Асядоўскаму**

— Скок-скок!
— Яшчэ раз!
— Першы крок!
— Не ў першы клас!
Скакаць буду
Так бясконца!
Патрымайце толькі
Сонца!



# ДЗЕНЬ ДРУГОГА НАРАДЖЭННЯ

Перада мною стаяў насуплены хлопец, апрануты ў ватоўку і падстрыжаны «пад вожык». Ён увесь час адводзіў позірк убок і завучаным тонам паўтараў:

— Нам няма пра што гаварыць...

— Ну, а ўсё ж, калі падумаць?

Хлопец на хвіліну нібы прачынаецца:

— Вы верыце ў бога?

— Не, не веру...

Хлопец зноў нібы замыкаецца ў нейкай шкарлупіне.

— Вось бачыце... Не атрымаецца ў нас размова...

...Хлопцу дваццаць два гады. У такім узросце мараць пра космас, кахаюць, пішуць вершы, гуляюць у футбол. А гэты па самыя вушы завяз у хрысціянскай «навуцы жыцця». Куды ж яго прывяла гэтая навука?

Вітольд Шумейка адмовіўся служыць у Савецкай Арміі. За гэта яго судзілі. Шумейка лічыць, што ён пацярпеў за веру. Ён, бачыце, нікога не забіў, не абрабаваў, нават гарэлкі не піў. Словам, уяўляў сабой гэткую, ведаеце, маральную дасканаласць у поўнай адпаведнасці з кодэксам евангелічных хрысціян-баптыстаў. Гэта — поза. І трагедыя Вітольда ў тым, што ён не адчувае, або не хоча адчуваць і разумець аднаго — наша Канстытуцыя гарантуе кожнаму грамадзяніну СССР свабоду сумлення. Кожны можа верыць у якога хоча бога, і кожны мае права весці атэістычную прапаганду.

Я спрабую даказаць Шумейку, што яго судзілі не за рэлігійную прыналежнасць, а за парушэнне сацыялістычных законаў, таму што абарона Радзімы — свяшчэнны абавязак кожнага савецкага грамадзяніна.

Вітольд пранікнёным голасам ускліквае:

— Гасподзь сказаў: не забівай, і я буду верны яго слову!

— А цябе хіба пасылалі забіваць?

З хвіліну цягнецца паўза, пасля якой субяседнік тлумачыць:

— Нам нельга браць у рукі зброю. Гэта — грэх.

— А як быць, калі імперыялісты нападуць на нашу Радзіму? Малітвамі абараняць яе, ці што?

Шумейка маўчыць. Маўчыць, хоць размова пачалася. Ён не знаходзіць доказаў, а магчыма, баіцца вымавіць славутае: «На ўсё воля бога». Адсюль жа адзін крок да здрады. А хіба вялікая розніца паміж здраднікам і дэзерцірам?

Калі паверыць Шумейку, дык ёсць толькі адзін сродак зберагчы чалавецтва ад вайны — пераварыць усіх людзей у прыстойных хрысціян, таму што рэлігія, маўляў, прапаведуе любоў да бліжняга. Але ці так гэта на самай справе?

Вось невялікая гістарычная даведка. «Усемагутны і чалавекалюбівы» бог дапусціў, што за апошнія 5555 гадоў на зямлі адбылося 14 531 вайна, ахвярамі якіх сталі 3 мільярды 640 мільёнаў чалавек.

Надта дарагой цаной заплацілі людзі за спадзяванне на бога! Сягоння яны не хочуць уручаць яму свой лёс і лічаць за лепшае самі стаяць на варце міру. Гэта больш надзейны сродак, чым непраціўленне злу.

Так вучыць гісторыя. Ці не дзіўна, што сярод нашай моладзі знаходзяцца такія, якія заклікаюць вярнуцца назад, да старога? Іх адзінкі. Але ж лёс іхні для нас не абыякавы. Важна высветліць вытокі іхніх памылак і памагчы знайсці

правільную дарогу ў жыцці. Свядомасць кожнага з іх атручана індывідуалістычным і эгаістычным клопатам пра ратаванне душы. А ратаваць душу, калі верыць рэлігіі, можна толькі адным шляхам: трэба адрачыся ад гэтага свету, забыць пра ўсё, што звязвае цябе з жыццём, усе свае думкі прысвяціць богу.

«Воля нябеснага настаўніка Ісуса Хрыста павінна быць вышэй за ўсё для яго вучняў на зямлі» — гэты тэзіс галоўны ва ўсіх баптысцкіх дакументах, пра яго кожны раз нагадваюць веруючым у абшчынах прапаведнікі. Як жа яго трэба разумець? Наконт гэтага ёсць недвухсэнсоўнае выказванне: «Калі хто прыходзіць да мяне, — павучае Хрыстос у евангеллі ад Лукі (раздзел XIV, стар. 26), — і не ўзненавідзіць бацьку свайго, і маці, і жонку, і дзяцей, і братоў, і сясцёр, а з гэтым і самога жыцця свайго, той не можа быць маім вучнем».

Вось вам і ўзлюбі бліжняга! Гэтая пачварная мараль разбэшчвае душы веруючых, выхоўвае іх у духу чалавеканенавісніцтва. Калі ўжо гасподзь вучыць узненавідзець бліжняга, дык што гаварыць пра дальняга?

Не дзіўна, што, спасылаючыся на тое ж евангелле, некаторыя сучасныя царкоўнікі і сектанты на Захадзе з хэўры недабітых рэваншыстаў і «шалёных» сцвярджаюць, што вайна — гэта, не менш і не больш як... дабро для роду чалавечага. Былы кіраўнік нямецкай евангелісцкай царквы епіскап Дзібеліус (асоба, блізкая па веравызнанню да нашых евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў) заяўляе, напрыклад: «Мы ўсе імкнемся да вечнага жыцця, а таму, калі адна вадародная бомба знішчыць мільёны людзей, то яны хутчэй дасягнуць вечнага жыцця». Бачыце, як цывілізаваны людаед клапоціцца, каб палегчыць і паскорыць шлях людзей у «царства нябеснае»!

Было б няправільна поўнасцю атоесамляць погляды разбэшчанага епіскапа з поглядамі веруючых сектантаў, у прыватнасці Шумейкі. Але ж факт застаецца фактам — для аргументацыі сваёй пазіцыі яны бяруць довады з адных і тых жа крыніц. Розніца ў тым, што адзін ад імя свайго бога заклікае да тэрмаядзернай вайны, а Шумейка і яму падобныя з выглядам святых угоднікаў паўтараюць:

— Нам нельга браць у рукі зброю. Гэта — грэх.

У некаторых можа ўзнікнуць сумненне: як жа гэта — член секты евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў адмовіўся служыць у арміі? Усесаюзны ж савет евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў афіцыйна прызнаў, што рэлігійныя фактары не перашкаджаюць веруючым выконваць свае грамадзянскія абавязкі.

Справа ў тым, што баптысцкія абшчыны неаднародныя. У 1945 годзе да евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў далучылася частка сектантаў-пяцідзесятнікаў. Акрамя таго, у апошні час у некаторых абшчынах актывізаваліся прыхільнікі рэакцыйнай групы прапаведнікаў Кручкова і Пракоф'ева. Яны скочваюцца на шлях антысавецкай прапаганды.

Усе казанні сектанцкіх прапаведнікаў і так званая рукапісная сектанцкая «літаратура» на кожным кроку ўнушаюць веруючым, што «айчына іх на небе», што «свет зямны — юдоль разбэшчанасці». Амаль у кожнай абшчыне вісіць недвухсэнсоўны плакат: «Свет палюбіш — цябе ён загубіць».

Для ідэалогіі сучаснага сектанцтва характэрны матывы адчаю і спустошанасці. Сектанта паступова пераконваюць, што ён толькі «нікчэмны прах зямны», што ён існуе дзеля таго, каб падрыхтавацца да лепшага жыцця ў «нябеснай айчыне».

Вітольд Шумейка, відавочна, і «рыхтаваўся» да гэтага. Яго адвучылі думаць. Ён нагадвае вучня, які вызубрыў урок, але так і не зразумеў, што да чаго. У яго няма свайго погляду на рэчы. Ён, напрыклад, сцвярджае, што жывёл стварыў бог.

— Падумай, — раю яму. — Хіба табе невядомы пароды жывёл, што выведзены чалавекам?

— Ведаю, пра што вы кажаце, — праз сілу выціскае ён, — але ўсё гэта не тое...

— А што **тое?**

Вітольд пераміnaецца з нагі на нагу. Маўчыць. У вачах шкляны бляск і поўная адсутнасць думкі...

Не, Шумейка не робіць уражання разумова недаразвітага чалавека. Ён зусім здаровы і нармальны. У гутарцы пра будзённыя справы Вітольд праяўляе кемлівасць і веды. Але як толькі размова заходзіць аб рэлігійных дактрынах, асабліва аб хрысціянскім вытлумачэнні сэнсу жыцця, пачынае дзейнічаць табу. Літаральна на вачах адбываецца пакутлівае раздваенне асобы. Юнак не можа звесці канцы з канцамі. І вось што яшчэ цікава. Хоць яго мараль трымаецца на біблейскіх прынцыпах, ад якіх ён не адступае ні на крок, гэта не прыносіць яму заспакаення. Шумейка сам не ведае, добры ён чалавек ці дрэнны. Не таму, што сумняваецца ў сабе. Яму, бачыце, не дадзена богам ведаць пра гэта: галава ёсць для таго, каб насіць на ёй шапку, а думаць за яго будзе ўсявышні.

Усё жыццё сектанцкіх абшчын пабудавана так, каб прытупіць думкі веруючых. Можна спаслацца на адну з прамоў прасвітара мінскай баптысцкай абшчыны С. І. Бокуна.

Знешне ўсё выглядала прыстойна. Прасвітар заклікаў сектантаў «слухацца начальства», «добрасумленна працаваць», тут жа непрыкметна нагадаў, што веруючы павінен быць «у часе працы спакойны», не захапляцца «мірскою» мітуснёю. А закончыў тым, што сэрцы і думкі веруючых належаць богу, якому «патрэбны не намаганні, а малітвы».

Як бачыце, у сваёй падчышчанай, апранутай у новую «ідэйную» вопратку пропаведзі прасвітар не забыў напомніць, што праца — гэта божая кара, што чалавек можа працаваць толькі як бяздушны механізм.

А колькі такіх казанняў праслухаў Шумейка! Колькі хрысціянскіх прамудрасцей, прыстасаваных да сучаснасці, убілі яму ў галаву!

Сектанты, звычайна, спасылаюцца на тое, што ў абшчынах іх вучаць «тварыць дабро», што іх вера забараняе красці, піць, курыць, рабіць несумленныя ўчынкі. Той жа Вітольд Шумейка разважае:

— І ў школе, і ў сям'і, і на рабоце нас вучаць толькі добраму. Адкуль жа бяруцца бюракраты, хуліганы, зладзеі і п'яніцы? Чаму яны ёсць сярод нас?

І сам сабе адказвае: «Таму, што людзі... забылі бога».

Ці так гэта?

Мы пазнаёміліся ўжо з маральным абліччам «атамнага епіскапа» Дзібеліуса. Можна прывесці яшчэ адзін прыклад. Паводле даных амерыканскага вучонага прафесара Карла Мергюсана, 85 працэнтаў злачынцаў у ЗША — людзі веруючыя.

І гэта ў краіне, дзе царква фактычна ўведзена ў ранг дзяржаўнай установы, дзе, паводле канстытуцыі, у большасці штатаў атэісты не могуць займаць ніякія афіцыйныя пасады. Высакародную ролю адыгрывае рэлігія, ці ж не праўда?

Сектанцкія прапаведнікі, як правіла, сканцэнтроўваюць увагу веруючых толькі на недахопах, што яшчэ сустракаюцца ў нашым жыцці. Гэта ім выгадна. Пераканаўшы «хрысталюбівых братоў», што свет дрэнны, лягчэй прымусіць іх адрачыся ад яго і прысвяціць сваё жыццё богу.

Вітольд Шумейка — гэта ахвяра рэлігійнага дурману. Ён жыве ў час небывалага сацыяльнага, навуковага, тэхнічнага прагрэсу. Але атмасфера рэлігійнага фанатызму, створаная ў сям'і і ў секце, атруціла яго маладосць, зрабіла яго духоўным старцам.

Шмат давядзецца патраціць сіл і часу, каб вярнуць Вітольда да сапраўднага, паўнакроўнага жыцця. Хочацца верыць, што гэта здзейсніцца. Ён адчуе тады, якое гэта вялікае шчасце быць гаспадаром свайго лёсу.

І тады настане дзень яго другога нараджэння.

**Варлен БАРКАН,**
**аспірант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

Размова пра майстэрства

# АД ЖЫЦЦЁВАГА ФАКТА

Як нараджаецца мастацкі твор, як узнікаюць сюжэты, хто паслужыў прататыпам таго ці іншага героя? Урэшце, з чаго пачынаецца праца пісьменніка над творам, як ён працуе над ім? Гэтыя і многія іншыя пытанні творчага працэсу цікавяць не толькі маладых пісьменнікаў, але амаль што кожнага чытача. Вядома, ёсць многа агульнага ў рабоце пісьменнікаў над творамі, і ў той жа час кожны з іх працуе па-свойму, у залежнасці ад жыццёвага матэрыялу, што натхніў мастака, ад асаблівасцей яго бачання свету і, нарэшце, ад характару таленту.



Мы сядзім у рабочым кабінеце Івана Шамякіна і гаворым на гэтую тэму. Гаворым пра цяжкасці, што паўстаюць перад пісьменнікам, які захоча адказаць на пытанні, пастаўленыя перад ім часам. Іван Пятровіч толькі што закончыў «Мост» — пятую аповесць кнігі «Трывожнае шчасце». І зусім зразумела, што размова наша пачынаецца з «Трывожнага шчасця». Чым тлумачыцца тое, што пісьменнік зноў вярнуўся да гэтай кнігі?

— **Я адчуваў,** — гаворыць Іван Пятровіч, — **што лагічна гэты твор не завершаны. Паказ жыцця герояў абрываецца ў самы разгар вайны. У сувязі з гэтым я атрымаў многа пісьмаў ад чытачоў. Пыталіся: што ж далей з героямі адбылося? Гэта адзін матыў. Другі — мне захацелася яшчэ раз вярнуцца да тэмы, якую я спрабаваў узняць у рамане «У добры час», але з прычыны пэўных умоў таго часу не здолеў сказаць усёй праўды пра сяло першых пасляваенных гадоў.**

— А як нарадзілася задума «Трывожнага шчасця»?

— **Нечакана. Я ездзіў у Югаславію. У далечыні ад радзімы ўспаміны набываюць нейкую асаблівую вастрыню і прывабнасць. Мне прыгадалася маё юнацтва і, вярнуўшыся з паездкі, я напісаў аповесць «Непаўторная вясна». Гэта было ў 1956 годзе. А потым задумаў напісаць твор пра юнацтва свайго пакалення. Ламаць аповесць, перарабляць яе ў раман не хацелася, і я выбраў вось такую форму — сюжэтна самастойныя аповесці, але звязаныя агульнымі героямі.**

Становіцца вельмі зразумела, чаму ў «Трывожным шчасці» адчувальны элемент аўтабіяграфічнасці. Янка Брыль у падзагалоўку рамана «Птушкі і гнёзды» напісаў: «Кніга адной маладосці». Відаць, гэтыя ж словы можна было б дастасаваць і да «Трывожнага шчасця» Івана Шамякіна. Калі прыгадаць аўтабіяграфію пісьменніка, надрукаваную ў кнізе «Пяцьдзесят чатыры дарогі», то можна заўважыць, што ў героя тэтралогіі Пятра Шапятовіча багата «аўтарскага». І ў той жа час — даволі багата непадобнага, неагульнага. Так, герой твора заканчвае аўтадарожны тэхнікум. Сам пісьменнік, як вядома, закончыў тэхнікум будаўнічых матэрыялаў, быў студэнтам, і гэта памагло яму праўдзіва паказаць малюнкі тэхнікумаўскага жыцця.

Пятро Шапятовіч не ўвесь час служыць на зенітнай батарэі камандзірам гарматы, лёс яго склаўся так, што ён вымушан адбываць «пакаранне» на НП. Гэта дало магчымасць пісьменніку шырэй паказаць чалавека на вайне. Іван Шамякін, як вядома з яго біяграфіі, быў не толькі камандзірам гарматы, але і камсоргам дывізіёна. Такім чынам, параленяў і несупадзенняў аўтарскага лёсу з лёсам героя можна прывесці шмат. Цікава, што пра гэта скажа сам пісьменнік.

— **«Трывожнае шчасце»,** — гаворыць Іван Пятровіч, — **нельга назваць аўтабіяграфічным, але гэта той твор, дзе «элемент аўтабіяграфічнасці» найбольшы. Асабліва гэта датычыць першай аповесці і трэцяй, хоць, разам з тым, вымыслу ў аповесці «Агонь і снег» не менш, чым у «Начных зарніцах». Тое самае можна сказаць і пра апошнюю, пятую аповесць — «Мост», якую я толькі закончыў. Фон у ёй аўтабіяграфічны, а многія героі напісаны з вялікай дозай творчага вымыслу.**

Прашу Івана Пятровіча расказаць пра асобныя факты, цікавыя выпадкі, якія так ці інакш увайшлі ў твор. Вось, скажам, лётчык Сафонаў. У час вайны было вядома імя гэтага лётчыка-героя. У «Трывожным шчасці» расказваецца пра паветраны бой Сафонава. Магчыма, пісьменнік быў сведкам гэтага бою?

— **Двойчы Герой Савецкага Саюза лётчык Сафонаў сапраўды служыў на Поўначы ў марской авіяцыі. Я помню,** — і гэта ў кнізе апісана, — **як прыляцела некалькі варожых самалётаў. Ён пачаў іх збіваць. Потым прыляцелі «месершміты». Ён адразу да нас, зенітчыкаў. А «месершміты» баяцца падыходзіць. Потым Сафонаў злаўчыўся і збіў аднаго «месершміта». Загінуў Сафонаў у 1942 годзе. Ён даў апошні сігнал: «Збіты. Саджуся на мора». Падняўся ўвесь авіяполк. Кружылі, кружылі над морам, але яго так і не знайшлі. Апошняга выпадку ў кнізе няма. А вось бой на НП, апісаны ў аповесці, сапраўды меў месца ў суседнім батальёне, які вёў «воздушное наблюдение, оповещение, связь» для нашых супрацьпаветраных часцей — зенітчыкаў і авіяцыі.**

Жыццёвы факт — аснова твора. Гэта зразумела. Іншая справа, як да яго падысці, што ад яго ўзяць, як трансфармаваць «на большае ці меншае напружанне».

Ля вытокаў творчасці Івана Шамякіна стаяць апавяданне «У снежнай пустыні» і аповесць «Помста». Ужо ў гэтых творах выявілася рыса, якая застанецца адной з характэрных у творчасці пісьменніка і надалей — імкненне выпрабаваць чалавека ў складаных жыццёвых абставінах, ставіць яго ў такія сітуацыі, калі баязлівец павінен праявіць сябе баязліўцам, герой — героем. Выбар жыццёвых сітуацый падпарадкаваны гэтай задачы.

Пра творчую гісторыю апавядання «У снежнай пустыні» пісьменнік расказвае:

— **Стаялі мы ў Хібінскіх гарах паміж Мурманскам і Кандалакшай. Два лётчыкі з суседняй часці,** — я ведаў іх асабіста, — **былі збіты над Нарвегіяй і больш за месяц прабіраліся да сваіх. Памятаю, прыйшлі яны абмарожаныя. У мяне з'явілася жаданне напісаць пра іх апавяданне. Яшчэ не пачаў пісаць, як адбыўся другі выпадак. Быў разгромлены фінскі батальён. Адзін з уцалелых фінаў перарэзаў наш пост — пяць чалавек. Пра гэта я даведаўся з загаду. У першым варыянце апавядання такую аперацыю з нямецкім пастом паветранага назірання робяць мае героі — нашы лётчыкі. Гэта выглядала натуралістычна, і, паслухаўшы крытыкаў і сяброў-пісьменнікаў, я замяніў гэты эпізод на іншы — героі вядуць адкрыты бой з нямецкім ездавым, забіваюць яго і на захопленых аленях дабіраюцца да сваёй зямлі.**

Цікавая гісторыя апавядання «Непрыгожая». Пісьменнік аднойчы сустрэў настаўніцу, сваю былую аднакласніцу, якая ўзяла на выхаванне чужых дзяцей, і ў яго з'явілася думка напісаць пра гэты прыгожы ўчынак. Для мастацкага твора трэба было, каб паміж героямі яшчэ раней былі нейкія адносіны, бо інакш гэтая іх сустрэча так і засталася б проста сустрэчай, не стаўшы тым «зернем», якое перарасло ў сюжэтны твор. І пісьменнік напісаў апавяданне так, нібыта герой яго хадзіў некалі на спатканні з дзяўчынай-аднакласніцай. «На спатканні я, безумоўна, хадзіў, але да другой дзяўчыны», — жартуе пісьменнік. Усё гэта надало апавяданню лірычны тон, задушэўнасць, жыццё знешне непрыгожай жанчыны паўстала ва ўсёй сваёй прыгажосці і складанасці.

Аднак, колькі б мы ні гаварылі пра ўладу факта ў мастацкай творчасці, заўсёды трэба мець на ўвазе, што вобразы мастацкага твора маюць абагулены, збіральны характар. Героі «абрастаюць» падрабязнасцямі, узятымі з жыцця іншых асоб, з іншых сітуацый. Нехта з пісьменнікаў разумна сказаў, што мастацкую праўду трэба шукаць у самім жыцці, але яе нельга знайсці там гатовую. Мастак свабодны ў «дадумванні» герояў і ўмоў іхняга жыцця, асабліва калі яму прыходзіцца карыстацца сюжэтам, узятым з «чужых рук». Так, у аснову апавядання «У роднай сям'і» з цыкла «Бацькі і дзеці» лёг сапраўдны выпадак, пра які расказаў Івану Шамякіну паэт Анатоль Астрэйка. І пісьменнік зусім не паграшыў супраць праўды. Гэты неаўтабіяграфічны факт ён псіхалагічна асэнсаваў, даў яму, што называецца, другое жыццё.

А вось таго жыццёвага факта, што пакладзены ў аснову апавядання «Падмочаны», пісьменнік быў сведкам сам.

— **Яшчэ ў 1946 годзе,** — расказвае Іван Пятровіч, — **я працаваў сакратаром тэрытарыяльнай партыйнай арганізацыі. Тады ў калгасах штомесяц мяняліся старшыні. І вось старшынёй калгаса абралі чалавека, які ў першы ж вечар напіўся. Яго нехта тады абліў, і ён прымёрз да зямлі. Назаўтра «падмочанага» знялі, і людзі абралі свайго, мясцовага чалавека. Дарэчы, той «свой» старшыня, якога мы абралі пасля, паслужыў прататыпам героя ў аповесці «Мост». Гэта быў вельмі цікавы чалавек. Добры гаспадар у калгасе і ў сябе дома, ён быў па-сялянску мудры, але і па-сялянску хітры. Помню, ён часам ашаламляў мяне, маладога камуніста, даверлівым разважаннем пра тыя з'явы, якія пасля XX з'езду мы абагулілі разуменнем «культ асобы». Я ў апошнія гады часта ўспамінаў гэтага старшыню: былі, аказваецца, простыя людзі (ён меў усяго пяць класаў адукацыі), якія і ў той час разумелі ўсю шкодную сутнасць «культу асобы». Безумоўна, шмат у чым прататып быў не такі, як мой герой Панас Грамыка, але ўспамін пра добрага чалавека памог мне за многія гады «дарысаваць» вобраз, «трансфармаваць яго на больш высокае напружанне».**

— А як праходзіць у вас сам працэс напісання твора?

— **Я не саджуся за стол, пакуль у галаве не склаўся сюжэт хаця б у агульных абрысах. Заўсёды з цяжкасцю пачынаецца раздзел. У сюжэтнай рэчы кожны раздзел павінен адначасова і развязваць у нейкай меры «вузлы» папярэдніх раздзелаў і завязваць новыя, каб у наступных раздзелах было што «развязваць». Не люблю апісанняў доўгіх і простых, як выцягнутая вяроўка. Але забягаю наперад рэдка, як правіла, пішу паслядоўна, трымаючы ў галаве ўсе будучыя хады сюжэта. Толькі тады, калі твор сюжэтна закончаны, пачынаю большую ўвагу ўдзяляць мове, дэталям. Бывае і трэцяя рэдакцыя і чацвёртая, а то і пятая ці шостая, асабліва пры перавыданні. Так, амаль пры кожным перавыданні правіў «Глыбокую плынь», грунтоўна рэдагаваў «У добры час».**

Іван Шамякін — пісьменнік сучаснай тэмы. І таму вельмі хочацца пачуць, якія жыццёвыя пласты, на яго погляд, трэба сёння ўзнімаць літаратуры?

— **Пластоў гэтых безліч,** — адказвае пісьменнік. — **Узняць іх усе не пад сілу не толькі аднаму пісьменніку, але, мабыць, усёй літаратуры. Але мы, мастакі, павінны імкнуцца як мага шырэй захапіць прастору жыцця і капянуць глыбей «пласты» чалавечых характараў, характараў нашых сучаснікаў. Я часта думаю: кожны чалавек, якога я сустракаю на вуліцы, можа даць матэрыялу на цэлы раман. Толькі трэба ўмець належным чынам «пераварыць» гэты матэрыял. У сваім натуральным выглядзе, не прапушчаная праз пісьменніцкую фантазію, рэдка якая чалавечая біяграфія «кладзецца» ў мастацкі твор. Для мяне безумоўна адно: наш сучаснік — вось галоўны прадмет даследавання і адлюстравання. Я не вельмі веру, што тыя, хто будзе тварыць праз сто год, лепш, чым мы, даследуюць жыццё 60-х гадоў XX стагоддзя, лепш напішуць пра нас — піянераў космасу, будаўнікоў камунізма, магчыма, на самым цяжкім і адказным этапе гэтага будаўніцтва.**

Гаворка наша падыходзіць к канцу. Развітваючыся, я дзякую пісьменніку за цікавую, шчырую гутарку.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**









# ЧАЛАВЕК У ПЕКЛЕ ВАЙНЫ

**Васіль БЫКАЎ. «Альпійская балада». Аповесць. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1964.**

Пісаць пра творы Васіля Быкава цяжка. У гэтым перш за ўсё «вінават» сам аўтар, бо ён задае гаворцы надта высокі тон — да яго цяжка ўзняцца нават добра падрыхтаванаму крытыку. А што ўжо казаць аб простым чытачы, які захацеў выказаць свае адносіны да новага твора пісьменніка!

На рахунку Васіля Быкава — пятая па ліку аповесць — «Альпійская балада», хоць сам пісьменнік не лічыць сваёй першай аповесці «Апошні баец» за спелы твор і асобна яе не захацеў выдаваць. Мо ён і мае на гэта падставы, аднак ужо ў той першай аповесці характар Васіля Быкава, як пісьменніка, вызначыўся даволі выразна. Як і ўсе творы Васіля Быкава, яна вызначалася вастрынёй сітуацый, выключнасцю становішча, у якое трапляе герой, псіхалагізмам, яркасцю мастацкіх дэталей. Аповесць чыталася з цікавасцю. Гэта скажа кожны, хто меў магчымасць пазнаёміцца з ёю на старонках газеты «Чырвоная змена».

Чаму, на мой погляд, аповесць не задаволіла самога аўтара?

Першая аповесць пачыналася тым, чым цяпер звычайна пісьменнік заканчвае свае творы: галоўны герой амаль у бязвыхадным становішчы, яму пагражае смерць, і толькі цаной неймавернага напружання волі ён застаецца жыць, змагацца. Адзін з усяго палка, ён

з палкавым сцягам прабіраецца да лініі фронту, пакідаючы за плячыма мноства перашкод і цяжкасцей, паступова «абрастае» людзьмі, такімі ж самымі акружэнцамі, і, ужо амаль як самастойная вайсковая адзінка, іх часць прарываецца праз фронт да сваіх.

Развіццё дзеяння першай аповесці можна параўнаць з геаметрычным вуглом, які пачынаецца з пункта A і разыходзіцца ў бакі дзвюма лініямі да пунктаў B і C. У наступных жа творах наадварот: пачаўшы адвольна з пунктаў B і C, аўтар вядзе гэтыя дзве лініі і злучае іх у пункце A, які ў першым выпадку быў зыходным.

У першай аповесці дзеянне ішло ад вялікай напружанасці да паступовай разрадкі. Сітуацыя ўвесь час спрашчалася, і, хоць аўтар ствараў пэўныя цяжкасці на шляху героя, вастрыё сюжэта было павернута назад. Добра, што пісьменнік сам гэта ўбачыў, — крытыкі яму, на жаль, не падказалі, — і сам даў сабе раду: ён павярнуў вастрыё сюжэта ўперад, ад працейшай сітуацыі пайшоў да больш складанай, а ў канцы ставіў героя перад адвечным пытаннем: быць або не быць? Вось калі яго герой стаў відзён, як праз вялізную лінзу! У тым, як паводзіць сябе чалавек у адказнейшую хвіліну жыцця, выяўляецца ўся яго сутнасць. Баязлівец перад тварам небяспекі і смерці дрыжыць, ратуе сваю шкуру і гатоў аддаць за яе ўсё — радзіму, сяброў, чалавечую годнасць. Смелы паміраe з гонарам, не адступіўшы ні на крок ад сваіх прынцыпаў і перакананняў. Сярэдзіны пісьменнік не дае. Ды, як відаць, у такой сітуацыі не бывае.

Чалавек пазнаецца ў бядзе, — Быкаў гэта вельмі добра разумее, і кожная новая аповесць пісьменніка пацвярджае гэтую вечную праўду.

Возьмем, да прыкладу, «Жураўліны крык», аповесць, якая заявіла сабой, што ў беларускую літаратуру прыйшоў цікавы, таленавіты празаік. Яна здзівіла навізной паказу падзей і герояў. Рэальны, проста адчувальны фон, густата мастацкіх фарбаў, вастрыня сітуацый — усё гэта было нова, свежа, цікава. Шэсць герояў — шэсць лёсаў, шэсць характараў.

Яны такія розныя, такія непадобныя адзін да другога, гэтыя шэсць чалавек, якія воляй вайсковага лёсу павінны будуць заўтра прыняць на сябе ўвесь цяжар варожага націску. У кожнага з іх свая, непаўторная біяграфія: у аднаго простая, як сцежка ад хаты да калодзежа, у другога заблытаная, пакручастая, з зігзагамі і паваротамі, як дарога ў гарах.

Атмасфера трывогі, няўпэўненасці і нават безнадзейнасці, якую так удала змог перадаць пісьменнік, дзейнічае на іх не аднолькава. І не аднолькава яны паводзяць сябе ў тыя самыя адказныя хвіліны жыцця, калі заставаліся толькі два выйсці — або ганебная здрада, або сумленная смерць.

Звяртала на сябе ўвагу тое, што аўтар часта спыняе думку чытача на мінулым свайго героя. Можа ў гэтай аповесці аўтар трохі і перабраў меру, робячы экскурсы ў мінулае, аднак ён дасягнуў таго, што называецца праўдай жыцця, мастацкай пераканальнасцю твора. Хто будзе спрачацца, што жыццё фарміруе характар чалавека, кладзе свой адбітак на яго індывідуальнасць, на яго псіхіку і склад думак? Узяўшы за асноўны крытэрый умовы, у якіх выхоўваўся герой, пісьменнік як бы гаворыць: у тым, што чалавек зрабіў так, а не гэтак, вінават не так ён сам, як тое, што яго фарміравала, як ён жыў, хто яго выхоўваў і як выхоўваў.

Героі Быкава — не воск, з якога абставіны лепяць каго хочуць. У іх ужо ёсць характары, і карэнні іх учынкаў ідуць у мінулае. Разам з тым, яны і не ахвяры лёсу, бо нічога фатальнага і непазбежнага ў іх жыцці няма. У іншых умовах яны былі б другімі людзьмі, і ніхто не падумаў бы, што Свіст здольны на геройства, што Пшанічны можа здрадзіць, а Аўсееў — будзе ратаваць сваю шкуру. Ва ўчынкі герояў Быкава верыш, таму што яны падрыхтаваны ўсёй логікай развіцця характару.

Тое самае можна сказаць пра характар Блішчынскага, героя аповесці «Здрада». Аўтар таксама знарок падрабязна спыняецца на біяграфіі гэтага шкурніка і кар'ерыста, каб паказаць, што не раптоўна ён стаў такі, што такія «задаткі» ўжо даўно спелі ў яго характары. У самую адказную хвіліну бою, калі вырашаўся лёс іх траіх, — Цімошкіна, Шчарбака і Блішчынскага, — апошні ганебна ўцякае, кінуўшы на волю лёсу параненых таварышаў.

Падобная, хоць і не зусім, сітуацыя ў «Трэцяй ракеце». Аповесць «Трэцяя ракета» — новы этапны твор Васіля Быкава. Развіваючы і ўдасканальваючы свой метад завастрэння сітуацыі, аўтар дасягае надзвычай высокай напружанасці дзеяння. Трагедыйнасць, як правіла, у Быкава заўсёды апраўдана, гэта не танны сродак заінтрыгаваць чытача. Ва ўсіх аповесцях і апавяданнях Быкава на ваенную тэму лейтматывам праходзіць ідэя асуджэння вайны. Што ж да гераізму і стойкасці, гэтых неад'емных рысаў станоўчых герояў Быкава, то карэнні іх трэба шукаць у нашым сацыяльным ладзе, які выхаваў новы тып чалавека, здольнага ахвяраваць сабою ў імя светлых ідэалаў чалавецтва. Так званую рамантыку вайны ў Быкава шукаць дарэмна.

Шырокі лірычна-цёплы запеў у аповесці «Трэцяя ракета». Затое які сумны, які нясцерпна-жудасны будзе канец! А пасярэдзіне — цэлае жыццё, цэлая бура падзей, сутыкненне мужнасці і трусасці, кахання і здрады.

Спачатку іх многа — цэлы гарматны разлік. Тут таксама розныя людзі, з рознымі біяграфіямі, такімі па-быкаўску цікавымі і заўсёды новымі. Людзі, праўда, нічым асаблівым не надзеленыя, можа нават занадта простыя. Але хутка яны пакажуць сябе, хутка завяжацца такі тугі вузел, што яго прыйдзецца толькі рассекчы.

Лазняк, апошні жывы салдат з гарматнага разліку, выносіць бязлітасны прысуд шкурніку і баязліўцу Задарожнаму — страляе ў яго апошняй, трэцяй ракетай, што заставалася яшчэ ў ракетніцы. Справядлівасць перамагае! Лазняк не баіцца адказнасці, ён ведае, што страшнейшага за перажытае ім у сённяшні дзень у яго жыцці ўжо нічога не будзе.

Але не ўсе тыя, што заслугоўвалі самай суровай кары, былі пакараны ў час вайны. Блішчынскі ўцякае ад расплаты. Пісьменнік як бы гаворыць, што нават і пасля вайны не спыніцца барацьба, — ідэйная, маральная, — з такімі вось блішчынскімі, што будуць бяздушнасцю, казённасцю, пустазвонствам шкодзіць нашаму паспяховаму руху наперад, будуць блытацца пад нагамі і збіваць з панталыку даверлівых людзей, якія за гучнымі фразамі дэмагога не адразу пазнаюць учарашняга шкурніка і дэзерціра.

У аповесці «Альпійская балада» таксама паказан чалавек на вайне, чалавек у часіну найвялікшага маральнага і фізічнага выпрабавання. Розніца толькі ў тым, што пісьменнік не дае, як звычайна, фону, на якім яшчэ ярчэй відаць вышыня подзвігу ці глыбіня падзення героя. Былы салдат, зняволены фашысцкага лагера смерці беларус Цярэшка дзейнічае адзін, на чужыне, у далёкіх аўстрыйскіх Альпах. Яго адзіны спадарожнік, калі не лічыць пагоні, — італьянская дзяўчына Джулія. Наш зямляк вынесен, такім чынам, на суд сусветнай грамадскасці.

Васіль Быкаў як бы робіць масток паміж тым, што было дваццаць гадоў назад, і сённяшнім днём. Дваццаць год — немалы адрэзак часу. Ужо вырасла новае пакаленне людзей, якое не ведае, што такое вайна. Некаторыя не хочуць верыць у тое, што вайна была такой жорсткай, што фашызм нёс чалавецтву вечную турму і здзекі. «Не можа быць», — моршчыцца малады скептык, прачытаўшы кнігу ўспамінаў былога зняволенага лагера смерці Асвенціма ці Майданака. «Прапаганда», — кажуць на Захадзе тыя, хто рыхтуе глебу для новай сусветнай вайны. Для іх вельмі важна знішчыць ва ўяўленні моладзі страх перад вайною, яны гатовы вылезці са скуры, каб паказаць вайну нейкім трыумфальным маршам ад адной перамогі да другой. Смерць на вайне непазбежна, але — які гэта вялікі гонар памерці за... Вось толькі невядома, за што. А ўвогуле, смелыя не паміраюць, яны застануцца пераможцамі. Вайна — суцэльная рамантыка, балансаванне на грані жыцця і смерці, спорт

смелых. Гэта захапляюча! Жахі!? Глупства! Канцлагеры і крэматорыі? Выдумка! Эсэсаўцы з аўчаркамі? Дзіцячыя байкі!

Не, панове, кажа сваёй аповесцю Васіль Быкаў. Не прыкідвайцеся наіўнымі. Людзі ўсё памятаюць і ніколі аб гэтым не забудуць. Вось вам лішні доказ, што гэта так. Я пакажу вам такога героя, які ўвайшоў у легенду, стаў сімвалам мужнасці і няскоранасці. Як чалавек, ён мог бы жыць шчасліва, таму што ён быў працавіты і сумленны. Аднак ён мусіў кінуць усё і ісці на вайну, якую развязалі чужынцы. Ён адважна ваяваў, аднак не па сваёй віне апынуўся за дротам канцлагера, трапіў у нямецкі палон. Але і ў палоне ён не здаўся, а заставаўся байцом. Ён уцёк з лагера, бо хацеў змагацца з ворагам са зброяй у руках. Ён хацеў змагацца, каб засталіся жыць другія. Гэта не прапаганда — аб гэтым можа пасведчыць італьянка Джулія Навелі з Рыма. Ён выратаваў яе цаною свайго жыцця. Хіба гэта не подзвіг? Ён памёр, каб не дымілі больш печы крэматорыяў і эсэсаўскія аўчаркі не рвалі на кавалкі людзей.

«Альпійская балада» пачынаецца ўцёкамі палоннага Івана Цярэшкі з канцэнтрацыйнага лагера. Але ўцячы — гэта яшчэ не галоўнае. Галоўнае — схавацца ад пагоні, ашукаць немцаў, іх аўчарак, не трапіць у якую выпадковую засаду.

Першая перашкода — сабакі. Ад іх засталіся толькі сляды зубоў на назе. І вось другая нечаканасць — нейкая дзяўчына, таксама, як і ён, у паласатай вопратцы, з чырвоным вінкелем, ідзе па яго слядах. Не хапала яшчэ гэтага! Іван спачатку сярдуе на сваю спадарожніцу, але паступова чалавечае ў ім бярэ верх. Ні пакуты, ні страшэнныя выпрабаванні не вытравілі з яго сэрца спагады да чалавека, які, як і ён, трапіў у бяду і хоча выратавацца.

Іван і не падазраваў, што лёс пасылае яму ў спадарожнікі чалавека, якога звычайна выбіраюць доўга, на ўсё жыццё. Такой стала Джулія для Івана Цярэшкі — адзіная, першая і — апошняя ў жыцці.

Каханне ўскладняе становішча галоўнага героя. Яно патрабуе працягу жыцця, яно само дае пачатак новаму жыццю, але рэчаіснасць бязлітасна нішчыць усё жывое, разбівае мары аб шчасці, для якога чалавек нарадзіўся на свет. Каханне Івана і Джуліі ў адзін і той жа час магутнае, як жыццё, і нетрывалае, як тыя кветкі горнага маку на альпійскім лузе, якія заўтра завянуць пад марозным подыхам ветру з аснежаных горных вяршынь. Выкіньце вы каханне з аповесці — і як многа фарбаў страціць адразу «Балада»!

Бясспрэчна, што лепшыя старонкі аповесці — гэта тыя, дзе пісьменнік тонка і задушэўна-лірычна перадае складаную гаму інтымных зрухаў чалавечай душы. Іван Цярэшка трапіў у тое выключна цяжкае становішча, калі трэба думаць ужо не толькі пра сябе, а і пра тых людзей, пра той народ ці край, адкуль ты сам выйшаў у свет, бо па табе, па тваіх учынках будуць меркаваць і аб іх. Тут ты ўжо не проста Іван Цярэшка, а прадстаўнік пэўнага народа, пэўнай краіны, і пра гэта ты павінен памятаць, нават ідучы на верную смерць.

Праўда, Цярэшка, як чалавек просты, не надта задумваецца пра гэта, але ён менавіта так і робіць. Ён проста, як нешта звычайнае, носіць на грудзях і на плячах кругі-мішэні, знакі сваіх няўдалых уцёкаў.

Прайшоўшы ўсе дзевяць кругоў пекла, ён не зламаўся, у ім па-ранейшаму жыве змагар, яшчэ больш загартаваны і стойкі. Ён вырываецца на волю і адразу хоча ўліцца ў шэрагі байцоў: «...перайсці галоўны хрыбет, знайсці партызан — югаслаўскіх, італьянскіх — толькі б стаць у строй, узяць зброю. У тым цяпер была яго мара, высокая справядлівасць ягонага лёсу і ўзнагарода за ўсе пакуты і ганьбу, якія перажыў ён за год палону».

Падзеі нарастаюць, сітуацыя ўскладняецца, з кожным новым крокам герою робіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Урэшце ён гіне, ратуючы ад смерці Джулію.

У «Альпійскай баладзе» Быкаў паказаў нам ва ўсёй складанасці працэс нараджэння героя, яго гартаванне. Калі прасачыць гэты працэс ад пачатку да канца, атрымліваецца адзін суцэльны ланцуг вялікай чалавечнасці, якая варта самай высокай пахвалы і ўзнагароды.

Іван Цярэшка сціплы, да скрупулёзнасці аб'ектыўны, нястрогі да чужой слабасці, даверлівы, добразычлівы ў адносінах да чалавека. Гераічнае і будзённае ён робіць з аднолькавым стараннем, не думаючы аб нейкай славе ці пахвале. Цярэшка — сын свайго народа, увасабленне лепшых яго рысаў: працавітасці, шчырасці, дабраты. Ён вынослівы і цягавіты ў працы, цярплівы ў бядзе і няшчасці, мужны і стойкі ў цяжкую гадзіну. Адзінае, што неяк вылучаецца ў ім — гэта абвостранае пачуццё ўласнай годнасці перад чужаземцамі. Дома, перад сваімі, ён быў бы інакшы, і каб гэта была не Джулія, а якая-небудзь дзяўчына з-пад Слуцка, ён мог бы паскардзіцца ёй на свае нягоды, на непарадкі, калі б гутарка зайшла пра іх, а тут ён паводзіць сябе, ну, проста як саматужны дыпламат.

У той час Цярэшка не мог, ды і не хацеў, каб і мог, правільна адказаць Джуліі на тыя пытанні, якія яе мучылі, якія, дарэчы, мучылі і многіх нашых людзей, у тым ліку і героя аповесці Івана Цярэшку. Яны сталі яснымі толькі праз многа год, пасля XX з'езду партыі. А тады Цярэшка ўсяляк стараўся развеяць сумненні італьянскай дзяўчыны. Падсвядома ён разумеў, што цяпер, калі ідзе кансалідацыя сіл вакол Савецкай краіны, калі асабліва патрэбна еднасць, гаварыць пра непаладкі ў сваім доме не час і не месца. Трэба спачатку дабіць фашызм.

Івану Цярэшку, як і многім іншым, не выпала бачыць, як пасля XX з'езду партыі Сталін быў зняты з п'едэстала і на яго месца была пастаўлена Справядлівасць. Цяпер Джулія Навелі з Рыма (уявім на хвіліну, што гэта жывы чалавек) можа з яшчэ большай павагай успомніць пра беларуса Івана Цярэшку і сказаць з гонарам, што ён не хлусіў, а калі і недагаворваў чаго, то толькі таму, што глыбока верыў у справядлівасць. Так зрабіў бы на яго месцы кожны сумленны чалавек.

Цярэшка — станоўчы герой у поўным сэнсе гэтага слова. У складанай, выключнай сітуацыі ён паводзіць сябе так, як можа паводзіць сябе толькі магутны духам чалавек, які мае пэўныя ідэалы і ведае, за што змагаецца. Нельга не прывесці тут словы гераіні аповесці Джуліі, якая піша ў лісце на радзіму Івана Цярэшкі:

«Конечно, вы не забыли то страшное время в Европе — черную ночь человечества, когда, приходя зачастую в отчаяние, тысячами умирали люди. Одни, уходя из жизни, принимали смерть как благословенное освобождение от мук, уготованных им фашизмом, — это давало силы достойно встретить финал и не преступить совести. Другие же в геройском единоборстве сами ставили смерть на колени, являя человечеству высокий образец мужества, и погибали, удивляя даже врагов, которые, побеждая, не чувствовали удовлетворения — столь относительной была их победа.

Таким человеком оказался и ваш соотечественник Иван Терешко...»

Васіль Быкаў піша не пра вайну, ён піша пра чалавека на вайне. Яго мэта — раскрыць духоўны свет нашага салдата, паказаць веліч яго подзвігу ў адной са страшнейшых войнаў, у якой па-сапраўднаму праявіўся нацыянальны дух народа, яго гераізм і вялікая любоў да радзімы, яго нянавісць да чужынцаў-захопнікаў. Можа з гэтай прычыны тэма чалавека на вайне стала вядучай у творчасці Васіля Быкава.

Творы Быкава — вялікая і цікавая старонка беларускай літаратуры, без іх ужо нельга ўявіць той адрэзак гісторыі, які завецца Вялікай Айчыннай вайной. Імя Васіля Быкава выйшла за рамкі нацыянальнай літаратуры, творы яго сталі набыткам усёй савецкай культуры. Яго аповесці перакладзены на многія мовы за мяжой. Мы можам ганарыцца тым, што пра беларускі народ, які ў гэтай вайне вынес так многа гора і пакут, выявіў гэтулькі гераізму і смеласці, Васіль Быкаў піша гэтак таленавіта і ярка.

«Вядома, і мастакі гэта адзнача-

лі не раз, — пісаў Рыгор Бакланаў пра аповесць Васіля Быкава «Трэцяя ракета», — што цяжэй за ўсё пісаць праўду. Праўда можа служыць меркай таленту пісьменніка. Трэба памятаць, што толькі праўдзівыя кнігі ў поўнай меры ўздзейнічаюць на душы людзей, асабліва на маладыя душы, абуджаючы ў іх мужнасць, веру і волю».

Мужнасцю праўды прасякнуты кнігі Васіля Быкава пра подзвіг савецкіх людзей у Вялікай Айчыннай вайне.

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ.**

# СМЯЛЕЙ У ЖЫЦЦЁ

**Уладзімір ПАЎЛАЎ. «Далягляд». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1964.**

Першая кніга Уладзіміра Паўлава называлася «Узлётная паласа». Як адзначала крытыка, старт быў паспяховы, палёт абяцаў быць цікавым.

І вось перад намі новы зборнік паэта — «Далягляд». Што ж новага на жыццёвым даляглядзе ўбачыў аўтар?

Па дарогах, што вядуць з далёкага і нядаўняга мінулага ў сённяшні дзень, і па шырокіх шляхах дня сённяшняга праводзіць свайго чытача паэт. У вершы «Ленін на суботніку» паэт даследуе вытокі характару сённяшняга будаўніка камунізма. Правадыр намаляваны тут звычайным простым чалавекам, які

...не даўшы нікому сябе
ўгаварыць,
за цяжэйшае браўся...

І гэта цяжэйшае паэт бачыць у канкрэтных справах нашага грамадства, што самаадданаа змагалася за росквіт новага жыцця. У вершы «Балада пра камуну» ёсць такі радок: «Саламяныя шапкі хаты заліхвацкі збілі на бок». Прачытаеш — і ўвачавідкі бачыш беларускую вёску ў першыя паслякастрычніцкія дні. Але паэта цікавіць не толькі статычны вобраз вёскі, што ступала на новую дарогу, але і рух яе па гэтай дарозе. У глухой і цёмнай вёсцы, дзе ў кожнай хаце быў «свой жабрак», цяпер «на светлай, шырокай плошчы Ленін стаіць, як жывы».

Проста і шчыра піша аўтар пра новую Случчыну, пра Салігорск, што «расце ў планеты ва ўсёй на віду». Здаецца, толькі нядаўна перад першым падмуркам здымалі мужчыны шапкі і «кідалі манеты пад камень сівы», а ўжо над станцыяй Калій ззяюць «зораў шахцёрскіх маністы, і гарыць небакрай, як падсвечаны сцяг».

Сапраўды ж, хочацца спытаць у таго недаверлівага дзядзькі, што паказаны ў вершы «Я падлеткам прыносіў дадому плакаты...» — «Дзе ты сёння жывеш?», і не без гордасці адказаць словамі паэта:

Ты такога яшчэ не страчаў на
плакатах.
Сярод чыстага поля пасталі
капры.
Пахадзі і рукамі сваімі пакратай
І назад тыя словы свае забяры!

У нашай літаратуры за апошнія гады з'явілася нямала вершаў і цэлых вершаваных цыклаў пра горад беларускіх шахцёраў, але сярод іх не губляюцца салігорскія вершы У. Паўлава. Яны гучаць свежа, шчыра і непасрэдна.

Маладога паэта вабіць героіка, гераічнае ў жыцці («Легенда пра капітана Гастэлу», «Балада пра бацьку», «Перад атакай»). Найбольш удаўся яму верш «Легенда пра капітана Гастэлу». Ён прасякнуты аптымізмам, верай у бяссмерце подзвігу чалавека:

Гастэла ляціць
з таго грознага году
І ніколі матораў сваіх
не заглушыць.

Праўда, вершы «Перад атакай», «А я ўспамінаю густое малодзіва...» псуе апісальніцтва, хоць і ў іх можна сустрэць свежыя дэталі:

А сонца за край далягляду
ўчапілася
І з намі да новага берагу ехала.

Цеплынёй, задушэўнасцю сагрэты вершы «Буслы», «Песня пра маці», «Востраў Зыслаў». Апошні, на маю думку, вылучаецца з усяго зборніка. Паэту ўдалося неяк своеасабліва, вачыма сучасніка зазірнуць у той суровы час, калі хлопцы «са слуцкіх бязлесых раўнін» змагаліся ў атрадах народных мсціўцаў за вызваленне ад чужынцаў роднай зямлі:

Не жахайцеся, сосны!
Звіні медуніцамі, ранак! —
Разрыўныя
Тут бору ніколі
Не будуць шчапаць.
Зняўшы шапкі,
Ідуць
Да былых партызанскіх
Стаянак
Ветэраны,
У якіх
Аж да гэтага раны шчымяць.

У пейзажнай лірыцы — вершах: «Рабінавая ноч», «Лес», «Восень мінулая між верасамі...» — паэт стараецца даць сваё адкрыццё прыроды. І гэта часам яму ўдаецца:

Неба заслана да самае раніцы
Зорным вясновым настольнікам.
І на дасвецці настройваюць рацыі
Цецерукі у сасонніку.

На жаль, свайго бачання свету не заўважаецца ў такіх вершах, як «Равесніку», «Роздум», «Далягляд — мільготкае марыва...» Яны праз меру агульныя. Матывы іх даўно знаёмыя чытачу. Усё гэтак жа свішчуць у іх традыцыйныя «салоўкі», «галёкае маленства», пануюць выразы-штампы.

Не пашанцавала ў зборніку і вершам пра каханне: «Не кажы», «Палавее збожжа», «Я з табою не меў...» У каторы ўжо раз гучыць прызнанне лірычнага героя: «Я на свеце самы нешчаслівы»?! Жывое пачуццё падменена тут халоднай сузіральнасцю, глыбіня пранікнення — павярхоўнасцю. Відаць, Уладзімір Паўлаў не зусім сур'ёзна паставіўся да адбору вершаў для зборніка.

Але колькі б мы ні гаварылі пра хібы зборніка «Далягляд», у ім пераважае ўсё ж імкненне паэта да як мага шырэйшага ахопу рэчаіснасці. Пра гэта гаворыць і сам Уладзімір Паўлаў:

Колькі б я ні ішоў, ні ехаў, —
Не звужаецца далягляд.

І сапраўды, паэтычны зрок Уладзіміра Паўлава «бярэ» жыццё даволі шырока — і гэта добра. Але ж гэта толькі адно вымярэнне, якому павінна заўсёды спадарожнічаць другое — глыбіня асэнсавання ўбачанага. У наступнай кнізе вершаў паэта і хацелася б адчуць гэтую глыбіню.

**Хведар ЧЭРНЯ.**



# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ЗВЫЧАІ

## ХОЧАЦЕ БЫЦЬ ПРЫГОЖЫМІ?

Не пакутуй, нешчаслівы закаханы! Якою б прыгожаю не здавалася табе дзяўчына, якая не адказвае табе ўзаемнасцю, заспакойвай сябе тым, што яна зусім не спадабалася б маладым людзям, скажам, з племені дусунаў на востраве Барнео. Больш таго, яны б палічылі яе проста непрыгожаю.

Як жа спадабацца юнаму дусуну? Перш за ўсё, у дзяўчыны павінны быць чорныя зубы. Чарненне зубоў — звычай свяшчэнны, іншаземцаў не вучаць яго таямніцам. І ўсё-такі этнографу Сталю пашчасціла пабачыць касметычны абрад дусунак.

У спецыяльнай пасудзіне дзяўчаты расціраюць на парашок лісце кавы — трапічнай расліны — і змешваюць яго з попелам. Потым гэтая сумесь накладваецца на зубы. Каб фарба не сцёрлася, зубы прыкрываюць стужкаю бананавага лісця. На два дні дзяўчыне даводзіцца адмовіцца ад ежы. Вось ужо сапраўды — каб быць прыгожаю, трэба пакутаваць! Затое потым, нацёртыя пальмаваю карою, змешанай з вапнай, зубы блішчаць, нібы чорныя клавішы канцэртнага раяля. Цяпер застаецца белаю фарбаю намаляваць па тры зорачкі каля скронь, адну на пераноссі — і поспех забяспечаны...

Хочаце быць прыгожым і падабацца жанчынам з племені кабіры на востраве Новая Гвінея? Трэба з ног да галавы нацерціся какосавым алеем, размаляваць чырвонаю фарбаю грудзі, спіну, твар і асаблівым клеем прыклеіць да галавы «дыбу» — высокі каўпак, упрыгожаны пер'ямі ды кветкамі.

Звычай паўночнаамерыканскіх індзейцаў абавязкова вымагае, каб дзяўчына пудрылася маісавым парашком і падвязвала ў зачоску «мяцёлачку» валасоў, падфарбаваных чорнай смалою. Аўстралійцы абламоўваюць чорныя ўзоры, намаляваныя вуголлем на твары, вяночкамі з белага альбо чырвонага пуху. Жанчыны Гандураса, Нікарагуа і Балівіі, паводле сведчання падарожніка О'Конара, размалёўваюць твар светлай глінаю або чырвонаю фарбаю, а мужчыны — чорнаю смалою, паверх якой для трываласці яшчэ намазваецца слой скіпідару. Жанчыны з племені папага робяць сумесь чорнай, белай і чырвонай фарбаў са шмальцам. Гэтая сумесь, як сцвярджаюць відавочцы, добра аберагае твар ад абветрывання. Інданезійскае племя даякаў прасвідроўвае ў пярэдніх зубах дзірачкі і запаўняе іх перламутрам. Тое самае робяць карэнныя жыхары Эквадора, толькі замест перламутру бяруць золата.

На думку многіх народаў, чырвоная фарба — гэта прыгожа. Ёю жанчыны Індыі малююць на лобе кропку ці смужку. У краінах ісламу чырвонымі робяць кончыкі пальцаў, далоні і ступні. А мужчыны-мусульмане часта фарбуюць не толькі вейі, а і вусы, бароды, чубы. На горных дарогах Афганістана, Ірана, у турэцкіх вёсках можна і сёння сустрэць чырвонабародых і чырвонавалосых мужчын.



У некаторых плямёнаў, каб прыгожа выглядаць, мужчыны церпяць страшэнны боль. Напрыклад, негры племені убанга робяць татуіроўку не іголкамі, а нажамі. Іх цела пакрыта малюнкамі-шрамамі. У Хартумі англійскі вучоны Дартлет бачыў, як у рану, зробленую нажом на спіне, уціралася сумесь салетры, попелу і расцёртай травы. Апрацаваны такім чынам рубец відаць здалёку.

У Японіі выколваюць на целе іголкамі традыцыйныя спіралі, цытаты з твораў японскіх класікаў, урыўкі з папулярных п'ес, кветкі, птушак, складаныя малюнкі.

І, звычайна, у давяршэнне туалету ўсе модніцы і моднікі паміж Паўночным і Паўднёвым полюсамі надзяваюць упрыгожанні — ад бранзалетаў, пацерак і завушніц да жыл з нанізанымі на іх птушынымі косткамі, як на Вогненнай Зямлі, або цяжкіх медных шчытоў і ланцугоў, як у Цэнтральнай Афрыцы. Тут і дзіковыя іклы, і хвасты райскіх птушак, і чубочкі какаду, і зубы кажаноў.

**Я. ЦЭРКОВЕР.**



*Для фотаамататараў*
*№ 5, май, 1965.*




# СТАРОНКІ БЯССМЕРЦЯ НАРОДА

Адкаціліся на Захад грымоты вайны... Савецкая Беларусь дачакалася шчасця вызвалення, здабытага напружаным змаганнем узброеных сіл і народных мсціўцаў супраць гітлераўскіх прыблуд, што намагаліся былі ператварыць нашу зямлю ў мёртвую пустэчу, патапіць у слязах і крыві наш працавіты народ.

Выканаўшы свой патрыятычны абавязак перад роднай зямлёй, беларускія партызаны далучыліся да Савецкай Арміі, каб супольна дабіць ворага ў яго фашысцкім логаве, прынесці вызваленне ад карычневай заразы братнім народам-суседзям.

А ў родныя мясціны вярталіся старыя, жанкі і дзеці, вярталіся з тым мізэрным хатнім скарбам, што месціўся ў два чамаданы, узваленыя на Падласую, якую падаравалі мнагадзетнай маці партызанскі атрад. (Яна, Падласая, была пакуль і за карміцельку і за рабочую сілу.)

Вярталіся з ледзь улоўнай усмешкай на тварах, бо радасць міру была яшчэ няпоўная. Сэрца калацілася трывожна — а ці вернуцца сюды тыя, што на





фронце, а ці дачакаюцца яны шчасця мірнай цішыні!?.

Цішыня ж, усё больш трывалая, усталёўвалася на прасторах Беларусі, хоць на кожным кроку яшчэ можна было сустрэць грозны напамінак нядаўняй трагедыі. І сёння хочацца шчыра падзякаваць тым вядомым і невядомым франтавым і партызанскім фотажурналістам, што засведчылі для наступных пакаленняў суровыя старонкі народнага бяссмерця.

Народ адужаў страшнага ворага, выжыў, высілеў, каб ладзіць зноў сваё жыццё. Усё трэба было пачынаць нанова — вайна не пакінула ні кала, ні двара, у прыдарожных канавах валяліся разбітыя трактары ды пакінутыя ворагам трафеі. Усё, што было спраўнае, працавала яшчэ на вайну.

Але ж і зямля, здратаваная фашысцкімі танкамі, засеяная мінамі і снарадамі, багата палітая кроўю бацькоў, сыноў і дачок, што загінулі, абараняючы свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы, чакала хлебадайнага засеву. Людзі ведалі, адчувалі гэта і спяшаліся на поле — хто з канякай, хто з каровай, на якую надзявалі нязвычны для яе хамут. А калі не было ні каня, ні каровы, самі ўпрагаліся ў плуг, каб толькі ўзараць дзірван, кінуць зерне ў зямлю. Вяртанне да мірнай працы і зазняў кінааператар **Іосіф Вейняровіч**.

Да нядаўніх ратных подзвігаў далучаліся першыя працоўныя крокі на вызваленай зямлі. І ледзь не кожны такі крок станавіўся подзвігам, бо смерць цікавала яшчэ за чалавекам: фронт быў побач.

Да клопату ваеннага ў нашай арміі далучаўся клопат пра ахову мірнага жыцця ў вызваленых раёнах краіны. Зямля Беларусі прытуліла тады не адну авіяцыйную часць, што мелі тут свае часовыя, але найбліжэйшыя да фронту базы.

У архіве ваеннага карэспандэнта **Эмануіла Еўзярыхіна** захавалася цэлая фотанавела пра тагачасныя будні лётчыка лейтэнанта Аляксандра Пятрова. Ён змагаўся на Другім Беларускім фронце і меў на сваім рахунку сотні дзёрзкіх баявых вылетаў.

Бывала ж і так, што надаралася вольная часіна між вылетамі і лейтэнант садзіўся за шахматную партыю. Тут жа, на назіральным пункце аэрадрома.



Але гучаў сігнал баявой трывогі, і партыя заставалася незакончанай. Лейтэнант Пятроў узмываў на сваім штурмавіку ў неба, ляцеў на Захад і, паспяхова адбамбіўшы варожы аб'ект, вяртаўся шчасліва назад, каб гэтак жа ўдала правесці эндшпіль.

Так у апошнія перад перамогай дні спляталіся, перавіваліся два кантрасныя паняцці — мір і вайна. Усталёўваўся мір, але была яшчэ і вайна. Вораг у перадсмяротнай агоніі шалеў, агрызаўся, спрабаваў учапіцца за кожны ўзгорак, за кожны водны рубеж, за кожны населены пункт, за кожны дом у ім. Ды несакрушальнай лавінай у нязломным наступальным парыве рухалася наперад Савецкая Армія.

Ужо запісаны былі на скрыжалях гісторыі разгром немцаў пад Масквой і выхад Ленінграда з дзевяцісотдзённай блакады — падзеі, што знаменавалі крушэнне «плана Барбаросы», гітлераўскага плана маланкавай вайны. Залатымі літарамі ззялі ў летапісе Вялікай Айчыннай вайны імёны герояў танкавай бітвы на Арлоўска-Курскай дузе і разгрому ворага на Волзе. Прасіліся на паперу легендарныя паходы за вызваленне Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі, беспрыкладная па сваёй гуманнасці выратавальная місія савецкіх узброеных сіл, што неслі на сваіх штыках не голад і разбурэнне, а мір і шчасце народам Польшчы і Чэхаславакіі, Румыніі і Балгарыі, Венгрыі і Югаславіі ды і сумленным, працавітым немцам.

Як ні спадзяваўся Гітлер на нейкі цуд—перамога дасталася нам, простым савецкім працаўнікам, якія сталі воламі. Пасля ўпартых баёў на вуліцах Берліна савецкія воіны Міхаіл Ягораў і Мелітон Кантарыя 2 мая 1945 года



прарваліся праз агонь і шквал свінцу ў будынак рэйхстага і ўзнялі над ім чырвоны сцяг Краіны Саветаў — сцяг Вялікай Перамогі. За гэты подзвіг адважным сержантам былі прысвоены званні Героя Савецкага Саюза. А які зарад мужнасці трэба было мець франтавому журналісту **Анатолю Марозаву**, каб у самым пекле вайны засведчыць гэты кульмінацыйны момант гісторыі і данесці яго да сённяшняга і наступных пакаленняў! Адгарні, малады чытач, старонку 3-ю гэтага нумара часопіса і схілі сваю галаву ў пашане перад подзвігам савецкіх людзей, што абяссмерцілі сябе навечна...

Савецкі воін уступіў у германскую сталіцу і, горды здабытай цаной вялікіх намаганняў і ахвяр перамогай, ставіў навечна сталлю загартаванага ў



баях штыка свой подпіс. Салдат Краіны Саветаў не ў латах, а ў звычайным паходным адзенні ўзняўся высока над скамянелымі галовамі рыцараў нямецкіх крыжацкіх паходаў. І гэты хвалюючы момант трапіў у аб'ектыў Анатоля Марозава.

Прадстаўнікі ж гітлераўскага камандавання паставілі свае подпісы пад актам пра безагаворачную капітуляцыю.

Заціхлі апошнія стрэлы... Пераможцы вярталіся да родных хат, а пера-






можаныя пачыналі брацца за розум, думаць пра тое ж, пра што думалі і мы на вызваленай зямлі. Савецкі салдат прынёс і яму, працавітаму немцу, якога зазняў на вуліцах Берліна ваенны карэспандэнт, вызваленне ад путаў фашысцкай тыраніі.

Пераможцы прынеслі ў германскую сталіцу парадак: расчышчалі завалы на асноўных магістралях, памагалі пусціць у ход электрастанцыі і хлебазаводы, гарадскі транспарт... Адным словам, пасаблялі берлінцам пасля ваеннай разрухі ўсталяваць мірны, трывалы парадак. І сведкам гэтага быў ваенны фотакарэспандэнт **Аляксандр Дзітлаў.**

У хвіліны ж, вольныя ад надзённага клопату, збіраліся пераможцы на прыступках нізрынутай цытадэлі нацысцкага рэжыму — рэйхстага, каб зняцца на памяць пра нялёгка здабытую перамогу. І афіцэр стараўся, як толькі мог, каб хоць аматарскім здымкам пасведчыць цяжкі лёс, што выпаў быў гэтым, прыняўшым баявое хрышчэнне на полі вайны, дзяўчатам, якія мужна глядзелі смерці ў вочы, выратоўваючы жыццё сотням параненых і знявечаных воінаў.



Калі дваццаць гадоў таму назад, у майскі вечар 1945 года, над Масквой прагучаў пераможны салют, кожны сумленны чалавек на зямлі думаў пра гераічны савецкі народ, які вынес на сваіх плячах галоўны цяжар Другой сусветнай вайны.

Думалі пра гэта і жыхары Златай Прагі, радасна вітаючы слаўных здабывальнікаў перамогі — часці Савецкай Арміі і падраздзяленні Чэхаславацкага корпуса свабоды. Фотакарэспандэнт Эмануіл Еўзэрыхін захаваў да нашых дзён гэты хвалюючы момант, як і не меншага ўзрушэння кадр, зазняты ў тыя ж дні на плошчы беларускай сталіцы, што ўсенародна радавалася разам з усёй краінай.



Два дзесяцігоддзі мінулі з таго свята для ўсяго чалавецтва Дня Перамогі, калі надышла ўрачыстасць жыцця і святла над горам і бядотамі вайны.

Вечныя агні над магіламі тых, што аддалі сваё жыццё ў імя міру на зямлі, напамінаюць нам пра адно — перажытае не павінна паўтарыцца! Суровым напамінкам пра гэта хай будуць і змешчаныя тут фотаздымкі слаўных летапісцаў гераізму і бясстрашша савецкага чалавека.

Глянь яшчэ раз, дарагі сябар, на старонкі бяссмерця савецкага народа. Хай і тваё сэрца сціснецца ад болю за перажытае тваімі бацькамі, братамі, сёстрамі, хай і ў ім абудзіцца высокі гонар за іх неўміручыя подзвігі, хай і яно загарыцца адным жаданнем — штодзённай сумленнай працай і натхнёнай творчасцю мацаваць мір на зямлі!

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**








Эдуард Трапачук. Ля нашага завода.

# ВІЦЕБСКІЯ КАНТРАСТЫ

Больш як дваццаць гадоў прайшло з таго часу, як паранены фашысцкі звер, адпаўзаючы на захад, пакінуў Віцебск. Савецкія войскі, якія вызвалілі яго, убачылі тут толькі дымныя руіны, ды схуднелых, знясіленых віцяблян, што са слязамі радасці і гора сустракалі сваіх вызваліцеляў...

Ішлі гады. Над сівой Дзвіной узняўся з руін новы Віцебск, яшчэ больш прыгожы, малады. Мнагалюдна на яго вуліцах. Ажыўлена гандлююць магазіны, весела бягуць па вуліцах трамваі, ля кінатэатраў ярка гараць агні рэклам. І ўсюды, у самых розных кутках горада, можна сустрэць людзей з фотаапаратам. Яны ўважліва сочаць за жыццём, вострым вокам мастака прыкмячаюць цікавае.

Людзі гэтыя — фотааматары, члены гарадскога фотаклуба, арганізаванага тры гады назад. Тым не менш, аргкамітэт рэспубліканскай фотавыстаўкі «Сямігодка ў дзеянні» быў прыемна здзіўлены, азнаёміўшыся з работамі, прысланымі Віцебскім фотаклубам на выстаўку. У першым туры было адабрана 37 здымкаў, сярод якіх нямала свежых, цікавых.

Нават пры беглым аглядзе звяртаюць на сябе ўвагу здымкі рабочага **Эдуарда Трапачука.** Закончаная кампазіцыя, імкненне перадаць унутраны змест — вось характэрныя рысы яго работ. Фатаграфія «Гарачы дзень». Нягледзячы на двухтонавае адлюстраванне добра перадае прастору, залітую гарачым летнім сонцам. Здымак, бясспрэчна, «пастаўлены», але пастаўлены ўмела, з вялікім пачуццём меры. Фігуры дваіх дзяцей уносяць не толькі ажыўленне (як часта, на жаль, бывае ў фотапейзажах), але і падкрэсліваюць, пашыраюць змест.

У рабоце Трапачука «Ля нашага завода» раскрываецца яшчэ адна станоўчая якасць: здольнасць праз рэчы расказаць пра людзей. Без дзесяці мінут дзевяць. Толькі што пачаўся рабочы дзень. Ля прахадной застылі ў чаканні матацыклы. Ні адной фігуры, якая б «ажыўляла» здымак, але, тым не менш, тут прысутнічаюць людзі — кожны са сваім характарам, сваімі прывычкамі.

Рабочы завода імя Камінтэрна **Юры Сычоў** прадставіў на выстаўку тры работы з серыі «Мой горад». Здымак «Для будоўляў камунізма», які мы публікуем, расказвае аб працоўным дні Заходняй Дзвіны. На фатаграфіі перададзена дынаміка павольнага, але напружанага руху буксіра. Толькі залішне жорсткая кадроўка стварае цеснату, спыняе позірк, у асноўным, на рытмічным баку малюнка.

Любімая тэма самага маладога члена фотаклуба, васемнаццацігадовага **Міхаіла Шмерлінга** — жыццё дзяцей. Дынамічны, поўны руху яго здымак «Карусель». Глядач нібы сам становіцца тут удзельнікам дзіцячага свята. Работа кампазіцыйна закончаная, удала выкарыстаны стракаты фон.

Рэзкім кантрастам у параўнанні са знаходкамі фотааматараў з'яўляюцца работы метадыста па фатаграфіі абласнога Дома народнай творчасці **Пятра Азарчанкі.** З трох яго работ эмацыянальны водгук выклікае толькі пейзаж «Бярозы», ды і то дзякуючы паэтычнасці самой прыроды. Партрэты ж яго — зусім няўдалыя. Глянем на «Партрэт бібліятэкаркі». Аўтар — не навічок у фатаграфіі, гэта адчуваецца адразу. Ён ведае, як трэба здымаць. Бяда толькі ў тым, што такі аголены «рэалізм» выклікае не што іншае, як схематычнае фіксіраванне пэўнага чалавека, пэўнай прафесіі. Іншымі словамі — тут нічога няма ад творчасці.

Параўнаем з работай П. Азарчанкі здымак Э. Трапачука «Студэнтка». Партрэт таксама «пастановачны», але, тым не менш, у ім ёсць жыццёвая праўда, псіхалагізм і абагульненне.

У абласной газеце «Віцебскі рабочы» ёсць два штатныя фотакарэспандэнты — Леанід Клімаў і Мікалай Сівакоў. Здавалася б, яны, журналісты, павінны арганізоўваць і накіроўваць намаганні фотаматараў горада. Аднак іх ніколі не ўбачыш ні на сходах фотаклуба, ні на абмеркаванні выставак. Нават такое мерапрыемства, як падрыхтоўка выдання фотаальбома «Віцебск» не змагло іх разварушыць. Гэта не можа не выклікаць трывогі.

**Генадзь БЯЛІЦКІ.**



Юры Сычоў. Для будоўляў камунізма.



Эдуард Трапачук. Студэнтка.



Пятро Азарчанка. Партрэт бібліятэкаркі.



Часлаў Мезін. Вясна на Палессі.

# БОЛЬШ РАЗНАСТАЙНАСЦІ

На пасяджэнні журы па адбору работ на Усесаюзную фотавыстаўку «Сямігодка ў дзеянні» мы прывыклі бачыць добрыя здымкі гамяльчан. Сёлета гомельскія майстры шосты раз дэманструюць свой стыль.

Гамяльчанам уласціва мяккасць. Лірыкай прасякнуты амаль усе іх работы. У гэтым не было б ніякай бяды, каб поруч з сардэчнай цеплынёй існавала рэалізаванае жаданне пранікаць у глыбіню падзей. Гэта, на жаль, удаецца пакуль толькі некаторым прафесіяналам.

Пётр Белавус, фотакарэспандэнт «Гомельскай праўды», сфатаграфаваў балельшчыкаў. Здымак напоўнен дынамікай. Звычайная сцэнка, выкананая рэпартажна, вельмі маляўніча перадае настрой людзей, хоць у здымку няма ніякай фармальнай прыгажосці. Сапраўдная прыгажосць ідзе не ад ювелірнай апрацоўкі матэрыялу, а ад самога матэрыялу. Зразумела, форма спрыяе дасканаласці твора, але фатаграфія павінна больш імкнуцца да выражэння ўнутранага характва. Фотарэпартаж, здыманне

Пятро Белавус. Балельшчыкі.



# Конкурс «ВОБРАЗ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА»



Анатоль Борчык. Магілёўскія ткачыхі.

без назойлівай рэжысуры і надумвання, якраз дазваляе паказаць жыццёвую праўду. Але сапраўдны фотарэпартаж яшчэ марудна прывіваецца ў беларускай фатаграфіі. Пакуль што пануе здыманне «ў лоб» пастановачным метадам. Гэта робіцца дзеля больш дасканалай кампазіцыі, удалага асвятлення і г. д. Але як бы ні стараліся пастаноўшчыкі, увесь іх тэхнічны арсенал шыты белымі ніткамі і не вытрымлівае канкурэнцыі з рэпартажнымі працамі.

Бывае і так, што чалавек разумее недахопы пастаноўкі і не хоча яе прымяняць у сваёй творчасці. А на рэпартаж то часу, то сіл не хапае. Тады яму на дапамогу прыходзіць... лірыка. Блакітная лясная далячынь, азёрныя туманы, гурбы снегу, хмаркі, дубровы, світанні ды сонечныя дарожкі на вадзе не пазіруюць, не інсцэніруюцца, ды ўсё ж сродкі больш даступныя, чым пошукі дынамічных матываў.

У стылі гомельскіх фотааматараў на гэты раз паявілася і новая рыса, якая сведчыць, што яны пашыраюць кола сваіх тэм. Анатоль Федзін паступова адыходзіць ад пейзажу. Калі яго здымак «Люты» вельмі падобны на сотні іншых пейзажаў зімовага Палесся, то «Сняжок» ужо радуе арыгінальнасцю формы. А вось яшчэ адна работа: «Экскаватаршчык». У ёй аўтар зрабіў спробу паказаць вобраз сучаснага працоўнага чалавека.

Цікава, што нават мастакі, якія раней не прызнавалі фотамастацтва, цяпер аддаюць свой вольны час фатаграфічным пошукам. Цікава выступае мастак Палаца культуры гомельскага шклозавода Анатоль Карніенка. Яго пейзажы зроблены з добрым густам, ён працуе і над



Анатоль Федзін. Экскаватаршчык.



Анатоль Карніенка. Свае сакрэты.

партрэтам, і над жанрам. Фатаграфія «Свае сакрэты» прысвечана дзецям і выканана рэпартажным метадам.

Гомельскія фотааматары ўжо выходзяць з вузкіх рамак акадэмічнага пейзажу. Першыя іх спробы пранікнуць у жыццё абнадзейваюць. У кожным разе, пачуццё меры не здрадзіла ім і тут.

Гэтага нельга сказаць аб прафесіяналах. Часлаў Мезін, гомельскі фотакарэспандэнт БЕЛТА, занадта агульна, інфармацыйна, без натхнення «паказвае» жыццё. Бялёсая вада, галінкі па вуглах кадра (у каторы ўжо раз!), рачны цеплаходзік і — гатова назва: «Вялікая вада»! Пералік сферычных ёмкасцей, два сумныя сілуэты на пярэднім плане — «Вялікая хімія»! Здымак не выратоўвае нават добрая перадача тонаў. Цікавая сітуацыя накаута страчана на трэцім здымку. Верхнія пункты здымання — прычына таго, што кадры Мезіна перагружаны дэталямі і статычныя. І ўсё ж, Мезін здолеў зрабіць вельмі лаканічны здымак «Вясна на Палессі». Відаць, справа ў тым, што аўтар не заўсёды можа адрозніваць сухую інфармацыю ад мастацкай фатаграфіі.

Фатографы яшчэ не навучыліся даваць выразныя назвы сваім здымкам. Цікавы мастацкі здымак назваць нялёгка: простае, трапнае слова, часам, доўга не знаходзіцца, а яно ж, часам, узмацняе і ўздзеянне фатаграфіі на гледача. Вельмі часта назвы да многіх здымкаў невыразныя, падобныя адна на другую. Іншы раз лепш пакінуць фатаграфію без назвы, чым ставіць пад здымкам недарэчныя словы.

Першыя прагляды пераконваюць у тым, што мастацкі ўзровень гамяльчан павышаецца.

Наперадзе яшчэ некалькі месяцаў работы. Сёлета выстаўка перанесена на канец лета. Гамяльчане за гэты час змогуць палепшыць сваю экспазіцыю, паказаць жыццё вобласці больш разнастайна, на вышэйшым мастацкім узроўні.

Валянцін ЖДАНОВІЧ.




Пад рэдакцыяй
гросмайстра Аляксея СУЭЦІНА

# БАРАЦЬБА БЫЛА ЎПАРТАЯ

**Заўвагі ўдзельніка Усесаюзнага чэмпіянату**

XXXII чэмпіянат СССР па шахматах праходзіў у Кіеве пад Новы год і закончыўся перамогай ленінградскага гросмайстра Віктара Карчнога. Ён набраў рэкордную за апошнія дваццаць год у першынствах краіны колькасць ачкоў — 15 з 19 магчымых! — і, не прайграўшы ніводнай партыі, нагадаў шахматным балельшчыкам лепшыя часы перамог Міхаіла Батвінніка на XII і XIV чэмпіянатах СССР.

Цікава, што летась у Віктара Карчнога было нямала расчараванняў: на папярэднім першынстве краіны ён заняў толькі дзесятае месца і быў вельмі незадаволены сваім вынікам на занальным турніры СССР. Аднак апошні турнір паказаў, што Віктар Карчной валодае вельмі каштоўнай здольнасцю хутка аднаўляць сваю спартыўную форму.

Перш за ўсё, Віктар Карчной — цудоўны шахматны баец, які валодае незвычайнай здольнасцю рэалізацыі самых малых пераваг, і незайздроснае бывае становішча ў таго партнёра, які атрымлівае ў партыі з ім горшы эндшпіль. У гэтым выпадку Карчной ніколі не паляшуецца шмат гадзін гуляць такое заканчэнне і будзе імкнуцца выйграць, чаго б тое ні каштавала. Так, дарэчы, было ў партыі В. Карчной — М. Таль на турніры. Віктар Карчной захаваў невялікую, але трывалую перавагу ў заканчэнні і пасля шматгадзіннай барацьбы літаральна «выпакутаваў» перамогу ў гэтай вельмі важнай са спартыўнага пункту гледжання партыі. Але, зразумела, асноўную цяжкасць барацьбы В. Карчной імкнецца перанесці ў мітэльшпіль і ідзе на самыя вострыя сітуацыі.

Партыя **В. Карчной — А. Петэрсон.**

Пачатак — ферзевы гамбіт: 1. d4 d5, 2. c4 dc, 3. Кf3 Кf6, 4. e3 Cg4, 5. C : c4 e6, 6. h3 Ch5, 7. Кc3 Кbd7, 8. 00 Ce7 (На міжнародным турніры ў Белградзе ў 1964 годзе Л. Сабо супраць В. Карчнога і Б. Спаскага тут рабіў: 8. ...Cd6, але пасля 9. de К : e5, 10. Ce2 не здолеў цалкам выраўняць шансы), 9. e4 К7b6, 10. Ce2 00, 11. Ce3 Cg6, 12. Cd3 Кfd7, 13. Cf4 Cd6, 14. e5 C : d3, 15. Ф : d3 Ce7 (Пазіцыя белых больш свабодная і дае ім працяглую ініцыятыву), 16. Лad1 c6, 17. Фe4 Лfe8, 18. Лd3 Кd5, 19. Cc1 Кf8, 20. h4 К : c3, 21. bc Фd5, 22. Фg4 f5, 23. ef C : f6, 24. Кg5 Фf5, 25. Фe2 h6 (Магчыма, ужо рашаючы пралік! Адносна лепш 25. ...e5, 26. Лe3 C : g5, 27. hg Ф : g5, 28. f4! — але і тут у белых надзейная перавага).

26. Кe4 Ce7, 27. Лf3 Фd5, 28. C : h6! (Невялікая, але вельмі эфектная камбінацыя, якая хутка вядзе да перамогі), 28. ... gh (Прайгравала і 28. ... C : h4, 29. Лg3! C : g3, 30. Кf6+! gf, 31. Фg4+!), 29. Лg3+ Крf7, 30. Фg4 Лd8? (Лепш і больш упарта 30. ... Лec8, 31. c4 Фa5, 32. Фg7+ Крe8, 33. Лf3 Крd7, 34. Кc5+, і белыя выйграюць).

Цяпер жа фінал вельмі цікавы і павучальны: 31. Фg7+ Крe8, 32.

Ф : e7+!! Чорныя здаліся. На 32. ... Кр : e7 магчыма было 33. Лg7+ Кре8, 34. Кf6+!

Падручнікі па камбінацыйнай гульні ў шахматы, безумоўна, папоўняцца гэтым, вартым увагі, прыкладам.

У дэбюце на XXXII першынстве СССР было параўнаўча мала навінак, затое сярэдзіна турніру была вельмі цікавая. Пацверджаннем таму можа быць і наступная партыя, якая была прызнана самай прыгожай партыяй чэмпіянату.

Партыя **Р. Холмаў—Д. Бранштэйн.**

Сіцыліянская абарона: 1. e4 c5, 2. Кf3 d6, 3. d4 cd, 4. К : d4 Кf6, 5. Кc3 a6, 6. Cg5 e6, 7. f4 Ce7, 8. Фf3 Фc7, 9. 000 Кbd7, 10. g4 b5, 11. C : f6 gf, 12. f5! Толькі так. У больш ранняй партыі Р. Холмаў—А. Суэцін (занальны турнір СССР 1964 года), дзе таксама ўзнікла такая сітуацыя, Холмаў згуляў значна слабей: 12. h4?, што было стратай часу і дазволіла чорным пераняць ініцыятыву. Магчыма, пры выбары дэбюта Бранштэйн кіраваўся прыведзенай вышэй партыяй, дзе партнёр яго дзейнічаў вельмі няўпэўнена. Але нельга забываць, што кожны пройгрыш—гэта заўсёды добры ўрок на будучае! І наогул, чорным небяспечна злоўжываць атакаю белых. І ў гэтай партыі чорныя атрымалі жорсткую адплату.

12. ... Кe5, 13. Фh3 00, 14. g5! b4, 15. gf C : f6, 16. Лg1+ Крh8, 17. Фh6 Фe7+, 18. Кc6!!

Бліскучы, хоць па-свойму і вымушаны ўдар! І развіццё падзей ідзе вельмі імкліва.

18. ... К : c6, 19. e5 Cg5+.

(Такія камбінацыі белых маюць вялікае псіхалагічнае ўздзеянне на партнёра, як бы паралізуючы яго вынаходлівасць. А між тым, у чорных была тут магчымасць усё ж унесці ўскладненні ў задачу белых. Яны маглі зрабіць: 19. ... К : e5, 20. Кe4 Кg6 (Яшчэ больш непрыемна для белых: 20. ... Кd7, 21. Л : d6! ef, 22. Л : f6 Лg8, 23. Л : g8+ Кр : g8, 24. Л : f5 Кf8, 25. Кf6+ і г. д.), 21. К : f6 Ф : f6, 22. fg Фg7, 23. Ф : g7 Кр : g7, 24. gf Кр : f7, 25. Лd6!, і ў белых усё ж выразна лепшае заканчэнне.)

Цяпер перавага белых хутка робіцца рашаючай: 20. Л : g5 f6, 21. ed Фf7, 22. Лg3 bc, 23. Cc4 cb+, 24. Крb1 Кd8, 25. Лg1 Лa7, 26. d7 Л : d7, 27. fe К : e6, 28. C : e6 Лd1+, 29. Л : d1 C : e6, 30. Кр : b2 Лb8+, 31. Крa1 C : a2, 32. Лd3! Фe7, 33. Кр : a2 Фe6+, 34. Лb3, і чорныя здаліся.

Калі на XXXII чэмпіянаце СССР барацьбы за першае месца, па сутнасці, не было, лёс другіх прызавых месц вырашаўся літаральна ў апошні момант. Найбольш рэальныя шансы мелі гросмайстры Д. Бранштэйн, М. Таль, Л. Штэйн. І лёс выбраў сярод іх Д. Бранштэйна. Перамогшы майстра Г. Барысенку, ён заняў другое месца. М. Талю прыйшлося задаволіцца трэцім прызам. Л. Штэйн застаўся на чацвёртым. У «шасцёрку» пераможцаў трапілі таксама—адзін з самых «роўных» шахматыстаў краіны Р. Холмаў і вельмі вопытны майстар Л. Шамковіч, які аказаўся лепшым сярод шахматыстаў, што носяць пачэсны тытул «майстра». Вынік Л. Шамковіча на гэтым чэмпіянаце, бясспрэчна, лепшы ва ўсім яго шахматным жыцці.

М. Таль, які паказаў такія добрыя вынікі ў барацьбе за сусветную шахматную карону, гуляў няроўна. Але ў некалькіх партыях ён прадэманстраваў у дадатак да звычайнай для яго выключнай фантазіі высокую, сапраўды філігранную тэхніку разыгрывання заканчэнняў.

Партыя **М. Таль—Н. Крогіус.**

Іспанская партыя: 1. e4 e5, 2. Кf3 Кc6, 3. Cb5 a6, 4. Ca4 Кf6, 5. 00 Ce7, 6. Лe1 b5, 7. Cb3 00, 8. c3 d6, 9. h3 Кb8, 10. d4 Кbd7, 11. Cg5 Cb7, 12. Кbd2 h6, 13. Ch4 Кh7, 14. Cg3 Cf6, 15. Фe2 Кg5, 16. Лad1 Лe8, 17. de К:f3+, 18. К:f3 de, 19. Кh4 C:h4, 20. Фg4! Кf6, 21. Л:d8 К:g4, 22. Л:a8 C:a8, 23. C:h4 Кf6, 24. f3 Кd7, 25. Cf2 Cc6, 26. Лd1 Кb6.

У гэты момант многія ўдзельнікі турніру, у тым ліку і сам Н. Крогіус, лічылі, што ўсё благое для чорных мінула і ў эндшпілі магчымы мірны канец. Але М. Таль знаходзіць фарсіраванае вырашэнне задачы.

27. C:b6! cb, 28. Лd6 Лc8, 29. Лe6!! (Вось яна — соль задумы белых! Цяпер чорныя страчваюць пешку. Але наперадзе яшчэ нялёгкая стадыя рэалізацыі пераваг.)

29. ...fe, 30. C:e6+ Крf8, 31. Cc8 a5, 32. Крf2 Крe7, 33. b4! ab, 34. cb Крf6, 35. Крe3 g5, 36. g3 Ce8, 37. f4 gf, 38. gf Cc6, 39. Крf3 Ce8, 40. a3 Ch5+, 41. Cg4 Ce8, 42. Крg3 Cf7, 43. Cd7 Cc4, 44. Крf3 Cf1, 45. Cc8 Cc4, 46. Крe3 Cf7, 47. Cd7 Cc4, 48. h4, і чорныя здаліся.

Гэтую партыю М. Таль правёў у сапраўды «капабланкаўска-петрасянаўскім» стылі!

Д. Бранштэйн дэманстраваў лепшае з свайго велізарнага шахматнага вопыту. Асабліва трэба падкрэсліць ў яго партыях тонкую псіхалогію вядзення шахматнай барацьбы.

Л. Штэйн, бясспрэчна, расце. Лёгкасць гульні, арыгінальнасць тэарэтычных задум — найбольш моцныя бакі яго шматграннай шахматнай творчасці.

Пераканаўчую перамогу атрымаў ён у наступнай партыі.



Партыя **А. Луцікаў—Л. Штэйн.**

Іспанская партыя: 1. e4, e5, 2. Кf3 Кc6, 3. Cb5 a6, 4. Ca4 Кf6, 5. 00 Ce7, 6. Лe1 b5, 7. Cb3 00, 8. c3 d6, 9. h3 Кd7, 10. d4 Cb7, 11. Кbd2 Кa5, 12. Cc2 c5, 13. Кf1 cd, 14. cd Лac8, 15. Кe3 g6, 16. Кg4 h5, 17. Кe3 (Мацнейшае 17. Кh2!) ed, 18. К:d4 Cf6, 19. Кb3 Кc4, 20. К:c4 bc, 21. Кd4 Лe8, 22. b4? d5! Класічны адказ! На флангавы выпад чорныя адказваюць контрударам у цэнтры. Пачынаючы з гэтага моманту чорныя вядуць барацьбу з натхненнем, не даючы белым ні хвіліны спакою.

23. Лab1 de, 24. Ca4 Лe7! (Парыруючы пагрозу Кe6), 25. Ce3 Кe5!, 26. b5 ab, 27. К:b5 Кd3, 28. Лe2 Лa8, 29. Кa7 Фc7, 30. Лb6 Лe6, 31. Кb5 Ф:b6! Элегантная, хоць і наўмысная ахвяра фярзя!



Белыя: Крg1, Фd1, Лe2 і b6, Ca4, Ce3, Кb5; пп: a2, f2, g2, h3 (11).

Чорныя: Крg8, Фc7, Лa8 і e6, Cb7 і f6, Кd3; пп: c4, e4, f7, g6, h5 (12).

Пазіцыя белых развальваецца, як картачны дамок.

32. C:b6 Л:b6, 33. Кc7 Л:a4!, 34. Ф:a4 Лb1+, 35. Крh2 Ce5+, 36. g3 e3!, 37. f3 C:f3, 38. Фe8+ Крg7, 39. Кe6+ Крf6, 40. Лg2 Кf2, і белыя здаліся.

Цікавы варыянт прапануе тут пераможца гэтай партыі: 41. Фd8+ Кр:e6, 42. Фe8+ Крf6, 43. Фh8+ Крf5, 44. Фc8+ Крg5, 45. Фd8+ Крh6, 46. Лg1 Кg4+, 47. hg Лb2+ з непазбежным матам.

Але, як заўсёды, у турніры — больш няўдачнікаў. Сярод іх гросмайстры Ю. Авербах, Е. Васюкоў і аўтар гэтых радкоў. Е. Васюкову неабходна ажывіць свае шахматныя каноны, якія сталі руцінёрскімі. Ю. Авербах скардзіўся (і, на жаль, справядліва), што яго гульню засушыла «работа над эндшпілем». А аўтар гэтых радкоў надта нерацыянальна скарыстаў час на дэбютную падрыхтоўку, у выніку страціў імкненне і да шахматнай барацьбы. Праўда, некаторым суцяшальным момантам з'яўляецца тое, што мне ўдалося атрымаць памятны прыз «за лепшыя дэбютныя навінкі».

# ВЫНІКІ ШАХМАТНАГА КОНКУРСУ

**На працягу мінулага года на старонках нашага часопіса было апублікавана некалькі конкурсных задач. Мы атрымалі рашэнні на кожную з іх. І зноў вымушаны прызнаць пераможцам з вялікай перавагаю па ачках нашага даўняга чытача Сяргея Шмурадку, цяпер студэнта Віцебскага медыцынскага інстытута. Ён не толькі правільна рашыў усе задачы і эцюды, але паказаў даволі грунтоўнае веданне кампазіцыі і тэорыі.**

**Рэдакцыя часопіса ўзнагароджвае пераможцу конкурсу Сяргея Шмурадку шахматнай літаратурай.**

**Просім чытачоў выказаць свае меркаванні аб нашым конкурсе і парадку яго правядзення.**

**Чакаем пісем.**

